Шчаслівая, крочу дамоў. Успамінаю — няма з чаго заўтра варыць абед. Заходжу ў гастраном.

Дзядзька ў белым балахоне ля калодкі з сякерай чытае... Косцеву брашуру «Некаторыя псіхічныя ўласцівасці чалавека». Людзі чамусьці пачалі надта цікавіцца такімі праблемамі. Вось і гэты ўглыбіўся ў тэкст, мяне не заўважае. Нічога не скажаш, Косця ўмее складаныя праблемы падаць неяк проста, займаль-на. Карціць сказаць прадаўцу: «Лепш адкладвай кніжку ды выберы добры кавалак мяса аўтару!» Але я — наадварот, нават вярнулася на дыбачках, каб чалавеку не перашкодзіць.

Дома нападаю на мужа:

— Ты ўсё сваё? Здурнеў?!. Зараз жа кідай! Паглядзі, што на вуліцах робіцца: народу — не прайсці, аж у вушах гудзе! Усім — абедзенны перапынак, а табе больш за ўсіх трэба?

— Калі звычайныя людзі адпачываюць, наш брат працуе, гэткая наша доля...

— Ко-осцік, у цябе, дальбо, яшчэ рукі паадсыхаюць!— цалую яго ў лоб па-мацярынску.— Вечна робіш тое самае і тое самае, свету божага не бачыш!

— Гэ, магу прасядзець ля стала дзесяць гадзін або і цэлую ноч, і ў мяне нават не ўзнікне жадання перамяніць позу! Горай, калі перапісваю! Але і тады не рукі баляць ад машынкі, а — сківіцы.

— Сківі-іцы?!

— Запомні. Калі будзеш пісаць пра мужа-акадэміка ўспаміны — прыдасца! — смяецца задаволена ён ды паціраe падбародак.

Хоць з Косцем жывём ужо восем гадоў, але кожны дзень у ім знаходжу штосьці новае, да жудасці таямнічае. Яшчэ студэнткай звярнула ўвагу на яго шырокія сківіцы — як у герояў Джэка Лондана.

— А яшчэ дае мне трываласці ў працы лютасць! — разгаварыўся Косця.

— Лю-утасць?

— Яна — мой рухавік! Будзеш памятаць? Зрэшты, не адкрываю Амерыкі. Яшчэ ў нашых лясных продкаў абудзілася прага да працы, таму яны і сталі людзьмі. Гультай арангутанг і сёння лазіць па дрэвах ды шукае бананаў. Я ж — поўны жадання заявіць аб сваёй асобе, напомніць аб сабе свету, самарэалізавацца, і ў сувязі з гэтым ва мне палае лютая прага да штодзённай працы, бо інакш — загінеш у натоўпе!

— Кар'ерыст няшчасны!

— Усё атрымліваецца само сабой, павер! Я такі па прыро-дзе, я — нармалыіы чалавек, і мае паводзіны натуральныя!

— А мы, па-твойму, ненатуральныя?!

Але Косця ўжо заняты сваімі паперамі. Успамінаюцца мужчыны, што дзень і ноч заганяюць «казла», праседжваюць у рэстаранах, швэндаюць па вуліцы. Няўжо менавіта яны «нармальныя»? Не, хутчэй — Косця.

І наогул, хіба можна Косцю параўнаць з кім-небудзь з іх? Ён для мяне самы блізкі і паважаны, самы дарагі чалавек! Незнаёмы з вуліцы — міраж, фантазія, забава... Нездарма яго воблік ужо некуды растварыўся... Толькі за нешта няёмка перад Косцем.

— Як па-твойму, ці можа яшчэ хто цікавіцца мною як жанчынай? — адрываю яго ад рукапісаў зноў.

— Як цябе спаткаў восьмы клас?

— Ты меў рацыю: усё скончылася добра.

— А Паплаўскі?

— Вінаваты — вачэй не падымае.

— Ці я табе не казаў?

— Казаў, Косця, казаў. Памятаю і цаню... Чуеш, як, па-твойму, можа яшчэ хто цікавіцца мной як жанчынай?

— Вы-ыдумала!

— А ты адкажы!

— Каму ты патрэбная?!

— Так-такі і нікому?

— Ну... мне, дзецям сваім...

— А яшчэ?

— Вучням...

— А яшчэ?

— Галі, Веры...

— Ай! Ты ж сам казаў, што я падобна на мадонну з карціны ў Пушкінскім музеі!

— Цяпер шкадую.

— Не выкручвайся: адказвай на пытанне!

— Чорт яго ведае! — пачынае няўпэўнена і заклапочана.— Тое, падабаецца табе хто ці не,— справа не волі, не розуму, а — пачуццяў. А ім не загадаеш...

— Толькі? — вырываецца ў мяне.

Косцю мне шкада.

— Што галоўнае павінна быць у кабеты? Добразычлівасць і прывабнасць. Гэтага ў цябе — аж занадта!

— Ой, ты — сур'ёзна?

Косцю кранае мая радасць. Гаворыць ужо ўзрушана, цёпла:

— Яшчэ ў цябе абаяльнасць...

— І яшчэ?

— І такі характар, што ты заўсёды мусіш пра некага клапаціцца: пра мяне, пра дзяцей, каго іншага... Ты гэтым надта падобна на маю маму.

— А яшчэ?

Ён папраўляе мае валасы і дзівіцца:

— Не, аднак ты здорава падобна на Джаконду!

— О-го!

— Я не жартую. Такі самы авал твару, такі ж нос канфігу-рацыя лба, такія ж вочы... Адно — чаму твае валасы такія сёння непаслухмяныя?!. Гэ, калі ты паспела зрабіць завіўку?

— Здрасце! Толькі ўбачыў? Сем гадоў нявестка дома і не бачыла, што кошка без хваста!

— Калі?

Ужо дзён чатыры. Косця заклапочана стараецца разгладзіць маю прычоску:

— Табе яна не да твару.

— Бо я завілася толькі крыху!

— Табе яна не да твару, чуеш?

— Бо часу не было выседжваць паўдня ў цырульні!.. Ведаеш, як жанчыны там мэнчацца? З часоў святой інквізіцыі так цярпелі толькі на вогнішчы!..

— Не бараніся, а слухай!

— Слухаю, Косцік, слухаю!

— Думаеш, Леанарда да Вінчы зрабіў Моне Лізе звычайную прычоску і прамы прабор так сабе? Кудзеркі

ёй былі не да твару! Вазьмі з паліцы кніжку ды прыгледзься да малюнка сама, калі мне не верыш!

— Ве-еру! І дзякуй за параду! Больш ніколі-ніколі не буду завівацца, от пабачыш!

— А голас у цябе зычны, пявучы, малады...

— Маладзенькі?

— Ён у цябе нават маладзейшы за твар! — Косця дзівіцца з уласнага адкрыцця.

— Значыць, я магу яшчэ каму-небудзь і падабацца? — крычу, шчаслівая.

— Можаш.

— Праўда?

— Праўда.

— Ой, які ты ў мяне харо-ошы! — кідаюся яго абдымаць.

— Пачакай, пачакай, а чаму гэта табе раптам прыйшло ў галаву? І менавіта сёння?

— Проста так!

— Проста так нічога не бывае. Прызнавайся!

— Не прызнаюся!

— Хочаш, каб у цябе хтосьці закахаўся?

— Хачу.

— Хто?

— Не скажу!

— Скажаш!

— Не!

— Не адстану. Кажы, хто?

— Ты!..

— А-а...

— Фу, балбочам з табой пра глупства, як малыя!

— Сама ж пачала!

— А з кім мне пагазарыць, па-твойму?

Косця вінавата задумваецца.

Шкада яго.

— Давай лепш сходзім у кіно! Жыццё ляціць міма нас, а мы нават пахадзіць разам не маем калі як людзі!

— Давай!— рашуча складвае ён паперы і спрытна ляскас замком новенькай машынкі, каб не дабраліся да клавішаў малыя.

— Толькі дзяцей накармлю!

— Кармі.

Як мала трэба чалавеку для шчасця. Крыху цёплых слоў, крыху ўвагі, спачування...

...Праз гадзіну мы ўжо на вуліцы. З Косцем я шчырая, чулая, вясёлая. Мне з ім добра, як было ў першыя дпі, калі адно пажаніліся.

Вечарам кладземся спаць.

— Ты такі сёння добры да мяне! — уздыхаю, шчаслівая. — Мне так хочацца яшчэ з табой пагаварыць, ды сон разбірае...

— То спі. Яшчэ нагаворымся — цэлае жыццё наперадзе ў нас!

— Ай! Ты лепш скажы што-небудзь разбудзіцельнае!

— Як ты сказала? — рагоча муж.

— Разбудзіцельнае!

— Ха-ха-ха-ха-ха!..— прыўзнімаецца ён.

— Толькі не ўздумай зараз даставаць блакнот, каб запісаць слова, бо заплачу! Хоць на хвіліну забудзь, хто ты! Няўжо не можаш?

— Паспрабую.

— Ну і добра.

— Значыць — разбудзіцельнае?

— Ага.

— Але — што?

— Пахвалі зноў, як учора...

— Сёння ж ты нахабнікаў не лупцавала? Не лупцавала! Завошта хваліць?

— А за што-небудзь!

— Нават — выдумаць?

— Прыдумай!

— Ненармальная!

— І няхай ненарма-альная!.. Ну што табе каштуе?.. Пахва-лі-і, Косцік!..

## 11.

Як тады ва мне спалучаліся думкі пра мужа з марамі пра другога чалавека, не ведаю. Потым думала пра гэта не раз. Відаць, тут выявілася і натура.

Калісьці з дзетдома на канікулы мяне ўзяла цётка. У Мінску яна жыла на першым паверсе. Калі цётка з мужам ішла на работу, то мяне адсылалі на чацвёрты

паверх пагуляць з равесніцай. Бацькі дзяўчынкі былі вельмі строгія, бегаць нам забаранялі, дакранацца да чаго-небудзь у памяшкаішi — тым больш. І гэта была не гульня, а — пакута.

Аднойчы, як звычайна, іду на цэлы дзень да сяброўкі. Спыняюся на трэцім паверсе перад такімі самымі дзвярыма, хоць добра ведаю, што трэба ўзняцца яшчэ вышэй, дзе мяне чакае Іна, але ўмомант сябе пераконваю: мне — сюды. Званю. Ніхто не выходзіць. Узрадаваная, злятаю з лесвіцы. Са спакойным сумленнем бягу гуляць на падворак — я ж да Іны званіла, у іх — нікога няма!

Тады мне было ўсяго дзевяць гадоў, але не толькі з-за ўзросту гэтак рабіла. Наўрад ці мой равеснік-хлопец стаў бы сябе так ашукваць.

Цяпер назіраю за мацяркамі сваіх вучняў. Чаго яны толькі не выдумляюць часамі, абы выгарадзіць свайго відавочна віна-ватага Колю, Пецю, Вову!.. Бацькі ў такіх выпадках кіруюцца розумам, логікай, дзе іхнія жанкі — сэрцам, жаданнямі (гэта не значыць, што мы горшыя; часта такая жанчына ані не дурнейшая і, можа быць, куды лепшая за свайго мужа!).

Адным словам, мы, жанчыны, закрываем лёгка вочы на тое, што нам нявыгадна. Ёсць сярод нас і цвярозыя, толькі, мне здаецца,— іх значная меншасць. Я такая, як большасць.

Вядома, вінаваты быў і Косця. Мог бы болей звяртаць на мяне ўвагі.

**12.**

Дзеці ў бакоўцы паснулі. Тося пайшла на спатканне. Я праверыла сшыткі, напісала планы, але не кладуся, чакаю мужа. Шкадую — не пайшла разам з ім.

Цікава, пра што ён цяпер піша?

Падыходжу да рукапісу, чытаю.

«Малое і вялікае

Нуклеінавая кіслата, якая знаходзіцца ў палавой клетцы чалавека, займае аб'ём у мікраскапічныя долі кубічнага мілімет-ра. Арганізм наш развіваецца з дзвюх гамет — розных полаў. На зямлі нас — чатыры мільярды. Агульны аб'ём генетычных нуклеінавых кіслот у гэтых васьмі мільярдах гамет — два з палавінай кубічных міліметры.

Падумаць толькі: у аб'ёме дажджавой кроплі закладзена ўся матэрыяльная аснова, якая перадае генетычную інфарма-цыю пры нараджэнні трох з палавінай мільярдаў людзей!..»

Не паспяваю ні здзівіцца, ні захапіцца — нехта звоніць. Адчыняю дзверы.

Увальваецца п'яны Верын Барыс.

— Іры-ынка, Ір-р-р...— ледзь варочае ён языком і дыхае на мяне гарачым перагарам.— Я ц-цябе заўсёд-ды цаніў... Ты — анёл!..

Не было мне клопату!

— Барыс, позна ўжо, ідзі дамоў!

— Вера, сволач, не пускае! Ты ж, Ірачка, ан-нёл, пусці пераначаваць...

Ён дужы, што мядзведзь. Трэ нага аб нагу, скідае туфлі, адпіхвае мяне, сунецца ў пакой, валіцца на кушэтку і адразу засынае. Ад змагання з ім у мяне на руках засталося нешта аслізлае, брыдкае. Што рабіць? Хоць бы муж прыйшоў!

Барыс развёўся з Верай і прыстаў да ўдавы — старэйшай за сябе гадоў на восем. Калі вып'е, бяжыць зноў да Веры, але тая зачыняецца на ўсе замкі ды выключае святло. П'яны бара-баніць у дзверы, лаецца, пакуль суседзі не выклічуць міліцыю.

Гляджу з жахам на Барыса, на яго зашмальцаванае паліто з вырванымі «з мясам» гузікамі. Няўжо гэта той стройны і эле-гантны прыгажун капітан, з-за якога зайздросцілі мы ўсе Верцы, калі разам вучыліся ў інстытуце?

— Барыс! Бары-ыс! — тузаю мужчыну за халодныя вушы.

— А? — раптам расплюшчваецца яго мутнае вока.

— Калі ты ўжо кінуў Веру з сынам, то трымайся хоць гэтай жанчыны, не напівайся, як свінтус! Падумай, яна ж цябе недзе там чакае!

Барыс маўчыць, скрыгоча зубамі, храпе.

— Што з цябе будзе? Звалішся п'яны ў канаву, памрэш, і не знойдзецца каму нават пахаваць! Толькі адзін прафсаюз і павалачэ цябе на могілкі...

— А?.. Хто? Прафсаюз? — нешта да яго даходзіць.

— Ну, мясцком!

— Толькі — мясцком...— адразу як бы цверазее чалавек і крычыць з жахам: — Ну не-е!..

Барыс садзіцца і ўздыхае. Тады глядзіць сабе пад ногі, дзівіцца:

— Халера, а дзе ж мае туфлі? Сюды я босы ішоў? — ківае галавой са спачуваннем да сябе. Упірае ў мяне алавяны позірк: — Дай, Іра, што-небудзь Косцева на ногі!

— Ты ж разуваўся ў калідоры, ідзі туды і абуйся!

— Іду...

— Давай, давай!..

— Выганяеш?!. Іду, іду!..— зноў ківае з асуджэннем галавой.— Толькі прафсаюз... Мясцком...

— Во, во, будзеш мець цяпер над чым падумаць — трэ было б даўно мазгі ўключыць!

— Аднак, Іра, ты вельмі злая!.. І не думаў, што такая злюка!.. Як ведзьма!.. Так бессардэчна абыходзіцца са мной!..

— А ты з Верай, з Ігарам абыходзішся мякка? Ці не ты сапсаваў ёй жыццё?! А пра сына падумаў?!

— Ладна, ла-адна, толькі змо-оўкні!.. Ты — як Вера, адно зачапі вас... Ладна, заткніся ўжо!..

## 13.

Толькі выправадзіла Барыса, вяртаецца Косця.

— Ты куды хадзіў? — нападаю на яго.

— Крыху па полі палазіў...

Не магла на гэты раз пайсці з мужам, была занятая, аднак у душы бытта бы радуюся, што злавіла яго на злачынстве. Мае паводзіны на вуліцы — плата за яго.

— Чаму мяне не ўзяў?

— Так жа табе прапанаваў ісці разам, забылася?

— Прапанаваў! Не паспела раскрыць рот, як цябе ўжо і след прастыў! Каб хацеў мяне ўзяць з сабой, знайшоў бы словы ўгаварыць!

— Магчыма...

— Навошта брэшаш?!.

— Бо я пішу, разумееш?.. Трэба часамі пабыць аднаму, каб думка адстаялася...

— А-а, дык і праўда — ты зумысна адзін пайшоў? Тады навошта прыкідвацца, што завеш? — ад сваіх слоў яшчэ

больш пераконваюся, што ва ўсім вінаваты муж.— Ты заўсёды лічыў мяне дурніцай!.. Калісьці ездзіў на сустрэчу медыкаў — адзін; у прафілакторыі выступаць — адзін; бачыце, са мной яму ездзіць — няёмка! А мне тут самой змагайся з кожным п'яніцам, бойся, дрыжы ад розных тыпаў! — крычу, хоць Барыс для мяне — свой чалавек і, вядома, яго я не баюся.

— І-ірка, ты ж ведаеш, што мне гэта патрэбна — як паветра! Ды і ці мала мы з табой папахадзілі і ў лес, і ў...

— ...Нібы маю мужа, а на самай справе яго ў мяне няма! Да д'ябла мне слава, калі жыву бытта ўдава якая! — прарыва-юцца ў мяне слёзы.

Цяпер я гаварыла з такой крыўдай і жалем, што ўжо ані не сумнявалася — ва ўсім вінаваты толькі адзін Косця, а мой уяўны флірт з незнаёмым — адно частковая кампенсацыя таго, што не дадае муж.

— Супакойся. Слова гонару, не ведаў, што табе будзе аж так крыўдна!..

Але я не хачу слухаць яго каяння. Звяртаюся з просьбай, добра ведаючы, што яна толькі для формы.

— Косця, ну дай і мне якую-небудзь работу!

— Хіба мала табе клопату дома? Ці не па горла ў цябе работы ў школе? Якую табе яшчэ трэба?!

— А я хачу, як у цябе,— творчую! Дапусці і мяне да сваіх паперак!

— Піць гарэлку можна разам, а пісаць, тварыць — толькі раздзельна...

— «Где уж нам, измученным в неволе, ликовать, резвиться и скакать!»

— Не раздражняй сябе! Я хацеў сказаць, што такая работа не для цябе!

— Ах, так, ты ведаеш, што для мяне, што — не? — выбухаю злосцю. «Піць гарэлку разам, а пісаць, тварыць раздзельна», дражню. Пачуў недзе фразу ды паўтараеш, як папугай!

— Ну, пайшла!

— Эгаіст, толькі пра сябе думаеш!

— Іра, хіба ж гэта праўда? Хіба я пра сябе думаў калі? Што ты вярзеш?

— От бы пасадзіць цябе зараз на маё месца! — прарываецца ў мяне скарга, набалелы жаль.— Ведаеш, як я здабывала сёння яду для сям'і?

— Чаго ты зноў усхадзілася?!

— ...Што твае дзеці сёння абедалі, ведаеш? Што робіцца ў маёй школе, пра што думаю, як хаджу на работу, што бачу, з кім спатыкаюся, ты ведаеш? Якія мяне праблемы турбуюць, ведаеш?.. Унь сын недзе калена расквасіў, без гузікаў вярнуўся з падворка, а з цябе — як з гусі вада! Не хочаш прымаць да сэрца складанасці жыцця!.. Ты нават цвіка не вырвеш з крэсла, што сын увагнаў яшчэ летась, і будзе цяпер тырчаць, покуль не выцягну сама! Табе нельга нічога даверыць!.. У мяне тры нахлебнікі, ты — трэці! Тыя два — малыя, а ці табе да твару пад іх падстройвацца? Такім нахлебнікам думаеш у сям'і жыццё пражыць?

— Я, па-твойму, бібікі б'ю? Супакойся! — моліць.— Павер, калі трэба было, то быў і добрым гаспадаром. Цяпер жа ўсім гэтым камандуеш ты!

— З сённяшняга дня адмаўляюся!

— І добра — тады займуся я!

— Не змагла б і я што ствараць, каб ты даў умовы? Дума-еш, я такая бяздарнасць?

— Ніколі так не думаў! От, запрацавалася, бедная, ушчэнт, дальбог! Стамілася, і паперла з цябе гэтае

бабства! Ой, мая ты бедная!.. Мая ты сірата каза-анская!..

Хоча мяне абняць.

— Не падлазь! Ты ведаеш, колькі разоў адно ў магазін сёння лётала?

— Нічога кепскага пра цябе не думаю, адкуль ты ўзяла ўсё? Супакоішся ты, урэшце?

— Маўчала дагэтуль, бо дурной была!

— Іра, зразумей, творчасць — як каханне, дзяліць ні з кім яго немагчыма, бо гэта тваё, асабістае. Я ж не вінаваты, што на свеце так створана... Я табе вельмі ўдзячны за ўмовы...

— Што мне з гэтага?

— Дык пачакай вынікаў!

— Іх ніколі не будзе!

Што праўда, то праўда. У новы артыкул трэба ўкласці ўсю душу без астатку. Адно тады ён будзе добры. Гэта ведаю з уласнага вопыту — і ў маёй прафесіі дакладна гэтаксама.

Уздыхаю і скарджуся мякчэй:

— Усё адно і тое самае, і тое самае... Можна звар'яваць. У цябе ўжо дваццаць брашур! Ну напішаш ты дваццаць першую, потым яшчэ адну, яшчэ...

Муж глядзіць на мяне, заклапочаны, і дзівіцца: пра гэта ён і сам не думаў.

— Дурна-ая! — туліць ужо мяне.— Так і ў тваёй школе: вы-пусціш адзін клас, потым рыхтуй наступны... Так і ўсё астатняе на белым свеце... «Сэ ля ві» — кажуць французы... Табе яшчэ пашанцавала, я хаця заўсёды на вачах. Іншыя мужчыны як пойдуць раніцой з дому, то няма іх да ночы. А то і суткі, цэлы месяц ці паўгода...

— Вось-вось. І я месяцамі бацькоў не бачыла. Што добрага ў гэтым?

— У цябе справа іншая, не блытай. Тваю маму партыя пасылала на заданне ў цяжкі час...

— Магчыма, і блытаю...— выціскаю з сябе і калачуся ад жалю.— Аднак і гэтак, Косця, жыць нельга. І з дзецьмі табе болей трэба быць. І да мяне ты заўсёды такі няўважлівы...

— Напрыклад?

— Пайшла з табой учора ў кіно, а ты папёрся наперад: мне было сорамна перад настаўніцамі. Ведаеш, як некаторыя да нас з табой прыглядаюцца, як потым абмяркоўваюць кожны наш крок?

— Глупства!

— Такімі глупствамі ты мяне адштурхоўваеш. Пачынаю нават на другіх пазіраць...

— Вось як?

— Не хачу, а пазіраю!

— Ну-у? — коратка дзівіцца.

— Ага,— я задаволена, што прызналася нарэшце і што ён не стаў рабіць допытаў.

— Даруй, Іра! — вінавата просіць, уражаны.— Слова гонару, нічога не заўважаў... А ты наступны раз не маўчы, а кажы, калі я няўважлівы!

— Трэ і самому ведаць!

— У мяне галава так задурана, што няма калі падыгрываць твайму бабству, зразумей! І што з табой рабіць?.. Ага, прыдумаў! Мяне якраз выклікаюць у выдавецтва — хочаш, паедзем разам? Заадно і грошай крыху зноў атрымаем за брашуры — табе ж, ведаю, трэба тое-сёе купіць!.. Паехалі, га?

— Хто мяне пу-усціць! Думаеш, я — вольны казак, як ты: сабраўся ды паехаў?

— Адпросішся на два дні ў дырэктара. Веру папрасі замяніць твае ўрокі! Вядома, заменіць — сяброўка ж! Дома — Тося цябе заменіць!

— Ага, заменіць! Прывядзе салдата свайго сюды...

— Ну і што? З'есць тваіх дзяцей? І я быў некалі салдатам ды ў госці хадзіў! Паехалі!

— Няё-омка — сярод навучальнага года, што людзі скажуць, наста-аўнікі...

**14.**

Жывём у век тэхнікі. Паўдня збіралася, а селі ў самалёт і праз гадзіну ўжо — сталіца. Мяне мучыць неспакой. Той, які дома прыглушалі розныя справы, тут агарнуў усю, без астатку: мяне аж падмывае.

У гасцініцу прылятае з рэдакцыі ўсхваляваны Косця і не заўважае майго настрою.

— Ну, віншуй! Падпісаў умову на цэлую серыю новых выданняў! Серыя будзе называцца ведаеш як? «Значэнне памяці ў жыцці чалавека»!

— Што ты будзеш пісаць, пра гэта ж усё ўжо напісана!

— У-у, памыляешся! Вы, настаўнікі, кажаце вучням: «Ты, Коля, далёка пойдзеш, у цябе выдатная памяць». А гэта — глупства! Амаль ніхто з вялікіх людзей ёю не вылучаўся! Ледзь не ўсе геніі памяць мелі зусім звычайную! Наадварот, фename-нальная памяць часамі перашкаджае чалавеку!

— Яшчэ што прыдумай!..

— Так, так! Расхалоджвае яго, супакойвае! Памятаеш Ста-ніслава, студэнта з фізмата? Прачытаеш яму з

кніжкі старонку — і ён табе перакажа слова ў слова. А што з гэтага чалавека атрымалася? Ён з божага дару зрабіў бізнес! Завочнікі прыно-сяць задачкі, у яго цвёрдая такса: ад трох да пяці рублёў за адну...

— Тады як, па-твойму...— неахвотна падтрымліваю размо-ву.

— Ніяк. Бо і тут павінна быць у чалавека мера. Што з таго, калі твая галава будзе напоўненая фактамі? Гурба він-цікаў, кольцаў і падшыпнікаў яшчэ не народзяць трактар. Як? А чорт яго ведае, трэ падумаць! Мабыць, памяць не прыносіць карысці, калі факты не вядуць да пазнання сутнасці рэчы, не запальваюць іскры, не вядуць да вопыту, ведаў!.. Патрэбны яшчэ розум, эмоцыі, характар... Гарачае і сумленнае сэрца знойдзе і сілы, і спосаб успомніць, калі чалавеку што спатрэ-біцца! Здаровы парастак праб'ецца нават праз каменне да сонца, калі будзе ў ім гэтая самая сіла!.. Тут столькі можна фантазіраваць, меркаваць, прыводзіць прыкладаў — страх! От работка чакае мяне — цуд!.. Але зараз — есці хачу! Пайшлі абедаць!

Заходзім у перапоўнены рэстаран. Падсаджваемся да дзвюх дам.

— Што будзеш есці? — пытаецца Косця.

— Усё роўна. Выбірай ты! — кідаю нібы абыякава, а сама насцярожана кагосьці выглядваю.

Навокал завіхаюцца маладыя афіцыянты ў белых пінжаках з чорнымі банцікамі замест гальштукаў. Стаіць бязладная гамана. За суседнім сталом — арабы, негры, індусы. На сталах — стракатыя сцяжкі. Нашыя суседкі з прытворнасцю правінцыялак гавораць так, каб іх чулі афіцыянты:

— Ох, да чаго ж не люблю гэтых сталічных падаваль-шчыкаў у рэстаранах!

— І я! Яны — бытта лёкаі з дарэвалюцыйнага часу! У іх штосьці нізкае, фальшывае...

Косця вывучае меню, але я ўпэўнена — усё выдатна чуе. Зараз не выцерпіць, абрынецца на жанчын. Збіраюся сціснуць яго за руку, выцягваю ўжо нават пальцы пад сталом, ды раптам замірае сэрца, забівае дыханне: у залу ўваходзіць чалавек... Хаваюся з жахам за мужа.

— Эх, жанчынкі, жанчынкі, як вы можаце так легкадумна гаварыць? Вы гэтых хлопцаў зусім не ведаеце! — бы праз сон, далятаюць Косцевы словы.— Яны ж вам могуць быць сынамі! — адкуль у вас да хлопцаў гэтых такая нянавісць?

Не, гэта — не ён! Той чалавек, што ўвайшоў, мае толькі падобны касцюм.

Да мяне памалу вяртаецца прытомнасць. І разам з гэтым робіцца сумна-сумна.

— ...Маладыя, адукаваныя, з атэстатамі. Узялі іх сюды па конкурсу. Хлопцы нават валодаюць замежнымі мовамі. Я б на іх месцы не прыняў бы ў вас заказу!..

З той жа энергічнай упэўненасцю, з якой у гасцініцы раз-важаў пра памяць, Косця адчытвае жанчын. А я ўсё азіраюся, азіраюся, выглядваю і выглядваю, аж забалела шыя. Чагосьці страшэнна не хапае ў гэтым горадзе. Надта цягне дамоў...

— Мараліст нудны, праведнік, перастань! — шчыпаю мужа за локаць ды кажу: — Навошта ты мяне сюды прывалок?

Вяртаемся ў нумар, і нападаю на яго зноў:

— Чаго табе ўмешвацца не ў свае справы? Ты адзін сюды прыехаў? А пра мяне ты падумаў?

— І-іра, супако-ойся!..

— Чаго ты мяне сюды прывалок? — адчуваю, як прысут-насць яго і кожнае слова мяне ўсё больш раздражняюць.— Каму я тут патрэбна?! Ці ты падумаў, як там будуць жыць без мяне дзеці? Што будуць есці, як пойдуць у школу?.. Ці ты ведаеш, ад чаго ў мяне

шчыміць душа?.. Жывеш на ўсім гатовым і ў вус не дзьмеш — унь у якіх гасцініцах бываеш!.. Думаеш, і я не змагла б пісаць брашуркі, каб мяне хто пасадзіў у такія ўмовы?.. Заўсёды глядзіш, каб табе было выгадна, добра і ведаць больш ні аб чым не хочаш! У цябе няма «слыху» на людскія перажыванні, ты глухі душой, а яшчэ — псіхолаг!

Косця выбухае злосцю:

— Што ты вярзеш?

— А чаго ты крычыш? Ты чаго на мяне яшчэ і крычыш, скажы?

— Я проста — гавару! Аб якой выгадзе сваёй мог думаць? Ты ж сама бачыла, як я быў заняты апошнія дні і ночы, як выкладваўся ўвесь! Ты нават спрабавала адцягнуць маю ўвагу на глупства! Цяжка табе? Азірніся — каму лягчэй? Зацісні зубы ды цягні, а мяне пакінь у спакоі — ведаю, што раблю!

— Не-е, ты скажы, чаго на мяне крычыш?! Ах ты, няўдачнік,— шчэ і крычаць будзеш? Я табе ўжо казала: у мяне тры нахлебнікі, трэці — ты! З той розніцай, што цябе ўсе ведаюць, ты — бытта вясельны генерал! Мыльная бурбалка!.. Ты нават жыццё ведаеш — праз мяне!..

— Не хамі. Не забывай, я твой муж...

— Які ты мне му-уж? Ты са мной калі пагаварыў, як з чалавекам? Звадзіў мяне калі ў тэатр ці на канцэрт? Першы раз у жыцці прывёў у рэстаран і то пацягнула цябе рысавацца перад жанчынамі — хоць скрозь зямлю мне праваліся!

— Во-во! Шчэ скажы — не так відэлец трымаў, не з той нагі пайшоў! Наслухалася розных Вераў, Кіраў ды нясеш тут іхнюю ідэалогію!.. Тэа-атр ім падавай, вы-ыстаўкі!.. Італьянскае кіно-о!.. Му-узыку!.. У вас ужо «слых» і на музыку, і на іншае—куды там!.. Вы толькі гуляеце ў інтэлігентак, бо на самай справе — гнілыя

мяшчанкі!.. Не сустрэў яе, не падрыхтаваў, не памыў, не пакланіўся, не ўсміхнуўся, не так павіта-аўся, слё-оз не выцер, не падзя-акаваў!..

— А чаго ты на мяне крычыш? Хто я — баец тваёй роты, што ты са мной так гаворыш?

— ...Так ужо і паміраеш ад працы! Па тры гадзіны можаш мянціць языком з якой-небудзь мяшчанкай Верай, закрыўшыся ў пакоі, па гадзіне вісіш на тэлефоне!..

— Чаго ты на мяне крычыш?!.

Косця бачыць, што нашая сварка можа зайсці задалёка, бярэ сябе ў рукі, гаворыць больш памяркоўна:

— Вядома. табе нялёгка. А каму лягчэй? Я і кажу — зацісні зубы і цярпі, пачакай вынікаў!

— Я хачу сёння быць шчаслівай — як усе людзі! Чалавек родзіцца для гэтага, як птушка для палёту!

— Пакінь ты класіка! Падумай, Іра, сама, што такое шчасце. Трапляецца яно, а як жа, ды існуе надта коратка. Памятаеш, як была студэнткай, твая аблігацыя выйграла тысячу рублёў? Мы радаваліся нават за цябе! А доўга ты была шчаслівая?.. Трэба жыць нармальна, радавацца ўсяму комплек-су, што ўваходзіць у гэтае паняцце, а шчаслівыя хвіліны ў ім — бы разынка ў булцы. Ты што — адны разынкі хочаш усё жыццё есці?

— А ты не перакручвай на прозу! І не крычы на мяне зноў!

— Куды ты ад гэтай прозы дзенешся? Зрэшты, вы, жанчыны, шчасце бачыце крыху па-свойму, але ж хоць ты не будзь бабай і не лезь да мяне са сваім бабствам!

— А я якраз хачу ёю быць! — адчуваю, як у мяне аж пырскаюць з вачэй слёзы.— Хачу, каб мяне хоць крыху кахалі, мной даражылі, пра мяне памяталі, мной займаліся, удзялялі ўвагу, радаваліся са мной!..

— Во-во, як малая!..

— Ну і няхай!..

— Прабач, Іра, мо я сапраўды часамі... Але ж не забудзь, ты ўжо — маці, жонка. Сямейныя абавязкі... Прызванне жан-чыны — падтрымліваць ачаг сям'і...

— Чорт сваё, поп сваё. Нічога да цябе не дайшло. Ой, які ты нудны!..

## 15.

Некалькі дзён няёмка перад мужам за свой выбух у гасцініцы. Ужо ведаю — не трэба было яго абражаць. Але ён па-ранейшаму сядзіць над паперамі, не падае і выгляду, што была ў нас сварка,— не падаю выгляду і я. Паступова ва мне нават расце помслівае задавальненне, што мужу я дапякла і гэта яму не пашкодзіць.

Пасля доўгага перапынку нарэшце сустракаю незнаёмага ды ледзь стрымліваюся, каб не выдаць сваю радасць. Ківаю на прывітанне галавой. Ен усміхаецца. Нават прыпыніўся. На нагах у яго замшавыя чаравікі.

— Дзень добры! — кажа.

— Добры дзень...

— Ці не пара нам пачаць вітацца?

— І я думала пра гэта! — смяюся і ведаю, што ў мяне блішчаць зубы, вочы.

— Вось і дамовіліся! — з жартоўнай дзелавітасцю кажа.

— Дамовіліся! — у тон крычу і я.

Убягаю ў нейкі пад'езд, аглядаю сябе ў люстэрка. Ух, як усё атрымалася проста і натуральна! Перабіраю ў памяці, як усё адбылося, і зноў радуюся — лепш і не прыдумаеш!

З таго дня мы вітаемся і нават абменьваемся нязначнымі словамі — аб надвор'і, вуліцы, вітрыне, прахожых. Тое, што гавару я,— заўсёды з клічнікам, Тое, што кажа ен,— дакладнае, нешматслоўнае, лагічнае і, як мне здаецца, вельмі разумнае і значнае. Голас у яго мяккі, спакойны, поўны затоеных пачуццяў, сілы і страсці.

«Ён — незвычайны! — падказвае кожны раз пасля такой сустрэчы маё сэрца.— От бы пазнаёміцца з ім блізка, запрасіць дадому, звесці іх з Косцем...— прыкрываю ўсё фігавым лістом ды раблю выгляд, што нічога кепскага не адбываецца. І радую-ся, бо знайшла прычыну для размовы: — Я павінна яго павін-шаваць са святам, гэта будзе наш першы крок да зблiжэння! Потым запрашу дадому, і будзем мець новага сябра!»

Муж адставіў машынку ды пачынае гартаць газеты:

— Хоць кінуць вокам, халера, што на свеце робіцца? Мо там ён перавярнуўся дагары нагамі, а ты і ведаць не будзеш!

Дарэмна ён апраўдваецца. Я задаволеная, што не звяртае на мяне ўвагі. Адчуванне беспрычыннага сораму, якое мела дарогай, і незразумелае хваляванне зніклі. У прывычнай атмасферы дома раблюся зноў упэўненай і беззаганнай.

Займаюся гаспадарчымі справамі. Тады саджуся пісаць цётцы ліст. Памалу вяртаецца ранейшае — з галавы не вылазіць незнаёмы. Механічна выводжу словы, а сама мяркую, як выканаю задуму.

Толькі чаму ён у замшавых чаравіках?.. Страшэнна не люблю мышэй і мужчын у замшавым абутку!.. Чаму?..

Але ж гэта — глупства: такі абутак, як іншы!..

Ужо гадзін дванаццаць ночы. Выходжу на вуліцу, каб кінуць канверт у паштовую скрынку. Можна кінуць і заўтра, але ж хочацца на свежае паветра, пабыць са сваімі пачуццямі.

Ад нашага ганка нехта зашлёпаў ботамі на босую нагу.

— Гэта — мы! — чуецца вінаваты Тосін голас.

Калі вяртаюся з вуліцы, Тося ляжыць ужо ў ложку.

— Цёця Іра...— шэпча.

Да гэтай простай дзяўчыны ў мяне шчырая цікавасць і спачуванне. Прысядаю на раскладны ложак.

— Уцёк пасля адбою з казармы праз плот! — са шчаслівым смехам ды захапленнем, бытта хлопец да яе пралез праз пекла, хваліцца мая Тося і пырскае: — У адных трусах і шынялі!

«Вось табе і Тося! А з-за мяне ўжо не будуць так лезці на ражон! Ой, няўжо праўда — ніхто і ніколі-ніколі не будзе?!»

— Яго не пакараюць за гэта?

— Ен кажа: «Днявальны — свой хлопец. У крайнім выпадку — дванаццаць сутак губы, падумаеш! Той не салдат, хто на губе не сядзеў!» Яшчэ летам прабілі трактарам дзірку ў плоце, прыкрылі дошкамі і бегаюць...

Тосю маю не пазнаць.

## 16.

Школа рыхтавалася да Кастрычніцкага свята. Трэба маля-ваць транспаранты, прыбіраць класы, выводзіць ацэнкі за чвэрць, тэрмінова выпускаць насценную газету. Устала я ў гэты дзень, можа, гадзіне а пятай. Мяне напаўняе таямніца, радуе прадчуванне нечага новага, абуджаецца якаясьці ненатураль-ная чуласць.

— І ты ўстаеш? — з пяшчотай звяртаюся да Косці.

— Ага!

— Паспаў бы! Сядзіш і сядзіш, нельга ж так! Мяне вымушае свята. А цябе?..

— А па-твойму, як? — нагінаецца ён па гантэлі.— У мяне чартоўская прага да работы і радасць ад таго, што магу рабіць, што хачу!

— Геній аб'явіўся! Колькі разоў табе гаварыла: не хваліся, усё роўна састарышся...

— Во-о!.. І ў старасці жывуць — яшчэ як! Тады, можа, толькі і атрымліваюць асалоду ад паўнаты жыцця, зоркасці духу, пачуцця меры з'яў!.. Давай старасць, я ведаю, як мне жыць, я — бачу неба! Якія ж вы ўсе... вартыя літасці — не можаце адчуць нешта падобнае!

— О, зноў!

— Хвалюся? Навошта мне хваліцца? Пабачыш, калі гэтая мая праца шугане на ўсю краіну!

— Тады што?

— Як — што? — застывае з узнятымі гантэлямі. Гляджу па разгубленую постаць у адных трусах, на спіну і грудзі ў ка-рычневых шрамах — слядах вайны — і адчуваю, які ён мне блі-зкі, родны, які наіўны ў сваёй упартасці. Нібы Віця... Хочацца гэтаму роднаму і магутнаму зубру, што дзень і ноч заўзята працягвае сваю задуму, перадаць частку свайго шчасця і радасці. Падыходжу ды чула дакранаюся да рубца старой раны.

— Дзяўчынка, знайшла час!..— бянтэжыцца ды грыміць жалязякамі аб падлогу.

Ад стуку прачынаецца Віця ды адразу свежым галаском, бытта не спаў, крычыць:

— Та-ата, ведаеш, што цікавае мне снілася?

— Не.

— Як... Як...— сіліцца знайсці слова.

— Ну, ну!

— Мама, раскажы мой сон тату!

— Дурненькі. Думаеш, і я бачыла яго?

— А ты не бачыла? — вельмі дзівіцца Віця.— Мы ж разам спалі!..

Мы з Косцем смяёмся.

— Ой, Косцік, гані мяне да работы, а то трэба ў школу рана, а ў мяне спраў яшчэ колькі!

— Ану, гультай, марш! Што гэта такое?!

— Ой, іду, іду!

— Давай, давай! — пратурвае мяне ў другі пакой. Ад руху паветра з ложка злятае паперка.

— А, новая лістоўка? — падбірае Косця верш і паблажліва чытае: «Э. Межэлайціс. Ты на карціне Рэнуа...»

— Аддай! — вырываю з яго рук паперку.— Усё! Давай будзем за работу брацца!..

Рыхтую Марынцы сукенку, школьны фартух. Чышчу чаравікі. Гатую ўсім снеданне. Буджу Тосю. Мы снедаем, і я апранаюся, бяру партфель.

## 17.

Выходжу раней, чым трэба. Горад яшчэ сонны. Асенняе паветра сцюдзёнае, але свежае і бадзёрае. Бачу вакол сябе толькі добрае. Мяне абганяе машына. З акенца кабіны вылятае вугольчык папяросы і падскоквае на тратуары, рассыпае іскры... Не, горад ужо не спіць.

Спыняюся на аўтобусным прыпынку ля хлебнага магазіна. Побач два здаровыя дзядзькі ў камбінезонах з

кузава крытай машыны выцягваюць кручкамі скрынкі з булкамі і ў ранішняй цішы нарабілі лёскату на цэлы квартал.

— Усё! — уздыхае адзін.— Закурым!

— Як усё? — пярэчыць другі.— А снеданне сябру? І кідае на тратуар кавалачак хлеба: — Лаві сваю порцыю, браце, наядайся!

Толькі цяпер у паўзмроку бачу жывы шэры камячок, які па тратуары скача да хлеба.

— Кожную раніцу, жэўжык, прылятае! — з захапленнем тлумачыць дзядзька мне.— Просіць есці...

Падкаціў бітком набіты аўтобус, уздыхае тармазамі.

Расшпільваю паліто, каб не адляцелі гузікі, складваю рукі клінам, прыціскаю локцем партфель і ныраю за тоўстай дзяўчынай. Ледзь зачыняюцца за намі пнеўматычныя дзверы. Вакол мяне — тугія бакі, плечы, локці ды незадаволенае гырканне. Людзі нязлыя — яны проста яшчэ сонныя.

— Не штурхайся!

— Яна так дыхае! — заўважае другі.

— Не заступайся! — адзываецца трэці.— Лепш з маіх ма-залёў злезь!

— Хіба ты тут выходзіш?

— А калі не выходжу, то не трэба злезці?.. А вы не пад-міргвайце!

— Я вам падміргваю?

— У вас такая, мабыць, звычка, вы і не заўважаеце ўжо!

— Ёлачкай, ёлачкай станьце, і ўсім хопіць месца! А ты не выхіляйся з акна! Закрый яго!

— Выхіляйся, выхіляйся, пабачым, чым ты заўтра выхі-

ляцца будзеш?!

У аўтобусе прачынаюцца, усім весела.

У гэтую пару нашым маршрутам ездзяць пераважна рабочыя з заводаў, людзі, якія любяць вострае трапнае слова. У гуморы і наша кандуктарка.

— Грамадзяне, бярыце білеты, не саромейцеся! — крычыць зычным голасам і папраўляе на грудзях «Раман-газету», якая занадта вылезла з-за пазухі.— Тут мы ўсе свае, смялей, смялей! Вы, дзве дзяўчыны, чаго азіраецеся?

— А што, не пара ім хіба азірацца?

— Не хвалюйся, не на цябе!

— А чым я кепскі? Толькі што рыжы!

— Байчэй плаціце!

— Шукаем грошай у кішэнях!

— Доўга чамусьці!

— Ну, іншыя ў чужых кішэнях знаходзяць хутчэй, чым вы ў сваіх!

— А ў мяне праязны!

— З праязным мог бы і прайсціся!

— Га-га-га-га!

Цяпер у аўтобусе — нібы адна сям'я. Здаецца, каб магла, азалаціла б усіх.

Нехта ўступае месца, саджуся. Маё сэрца як бы раздалося ўшыркі, увабрала ў сябе не толькі гэтых пасажыраў, але і цэлы горад! Зноў здаецца, што я ўжо некалі жыла на свеце, я — вечная...

Што мой незнаёмы робіць? Яшчэ, відаць, спіць. Паспі, даражэнькі! Спіце і вы, добрыя людзі, каму яшчэ можна

не ўставаць!..

Знадворку да мяне ўсміхаецца твар сімпатычнай маладой асобы з жывым і здаровым бляскам вачэй і зубоў. Я ахвотней гляджуся ў шыбу, чым у люстэрка. Косця смяецца, што гэта — самаашуканства, бо так менш відзён узрост. Ну і няхай! Крадком падцягваю ззаду касынку, і над лобам паказваецца просты прабор. Прыглядаюся. Сапраўды, цяпер падабенства да італьянскай сіньярыны бачу і я. Толькі мой твар куды маладзейшы, ды і сама я больш жывая.

А вось і школа.

Як ні рана выехала з дому, аднак у настаўніцкай ужо нехта ёсць. Мяне адразу ўцягваюць тысячы спраў. Камусьці нагвалт патрэбна выставіць адзнакі за чвэрць. Дырэктару неадкладна падавай справаздачу аб выхаваўчай рабоце. Нейкі бацька, дзівак, прыйшоў менавіта цяпер, каб я напісала яго дачцэ распарадак дня...

Аднак праз занятасць і клопаты я агорнута і прадчуваннем сустрэчы. Маё сэрца то калоціцца, то ад жудаснага і незнаё-мага шчасця заміраe. Недарэчы лезуць у галаву яшчэ і вершы. Цякуць лёгка, самі сабой словы Эдуардаса Межэлайціса, вызуб-раныя з паперкі, якую раніцой адабрала ў Косці:

*Так на картине Ренуара ты,*
*Земной и неземною возникая,*
*Являешь нам прекрасного черты,*
*И ты действителыю такая,*
*И наяву такая ж, как во сне,*
*Вся красота, вся — радость.*

18.

Вяртаюся са школы.

Іду па вуліцы насцярожана, і ў мяне такое адчуванне, што вось-вось зараз нешта здарыцца. Здарыцца напэўна,

няўмоль-на, немінуча — штосьці хвалюючае, важнае і фатальнае. Я нават ужо не ўпэўнена, ці сапраўды жыву, іду, ці мне толькі гэта ўсё сніцца. Прадчуванне не ашукала.

Яшчэ здалёк бачу добра знаёмы капялюш, карычневае паліто і мяккую хаду мужчынскіх ног у замшавых туфлях. Мне раптам не хапае паветра, замірае сэрца. і падгінаюцца ногі. Хаваюся за прахожага, пачынаю аддыхвацца.

Спаткаліся мы на мосце. З нейкай п'янай рашучасцю ды толькі таму, што было раней запраграмавана, я запыняю яго і на гэта трачу ўвесь запас смеласці. Гаварыць ужо не магу.

— Вы штосьці хацелі сказаць мне? — пытаецца ён ветліва, але паспешліва.

— Я?..

«Ну, гавары ж ты, калі пачала!» — чую свой кволы ўнутра-ны голас скрозь узрушанасць.

— Хацела павіншаваць вас...

— З чы-ым? — у яго вачах шчырае здзіўленне.

Пакутліва і дарэмна спрабую ўспомніць тыя душэўныя і прыгожыя словы, якія падрыхтавала.

— Са святам...— выдыхаю.

— А!.. Узаемна!

— Дзякуй... Няёмкая паўза.

— Прабачце,— кажа ён.— Я вельмі спяшаюся!

Маўчу.

«Спяшаешся... Ну і спяшы, а мне што? Збіралася толькі цябе павіншаваць і свайго дамаглася!»

«Але чаму так не хачу, каб ты адыходзіў? Чым так

расчара-ваная?..»

Ён збіраецца бегчы і апраўдваецца:

— Ля рэстарана рыбу свежую даюць!

— Калі ласка...

— Трэба паспець хэпнуць і мне!

— Што «хэпнуць»!

— Ля рэстарана ў падвале — свежую рыбу выкінулі, кажу!

— Яку-ую?

— Свежую!

Аслупянелая гляджу на яго і ніяк не магу зразумець, пра што ён гаворыць. Пры чым тут якаясьці рыба, я ж хацела яго так бачыць?!

— Паслязаўтра ж — свята! — тлумачыць.

«Мабыць, сню».

— Ну, пабягу, а то расхапаюць!

— Расхапа-аюць?..

— Ну! Яшчэ людзі не ведаюць, але зараз наваляцца — збягуцца з усіх канцоў!

«Бо-ожа, што ён вярзе?!»

Некалькі секунд маўчым. Паміж ім і мной убілася кампанія вёрткіх вучняў з ранцамі, раздзяліла нас, але я не кранаюся нават з месца. Стаю, не магу адысці ад здзіўлення. Мяне агортвае адчай.

Школьнікі прайшлі — і зноў мы ўдваіх.

— Ну, пайшоў! — паўтарае.

— А як жа я-а?! — вырываецца ў мяпе не то скарга, не

то адчайны крык.

— Можа, і вам трэба? — на хаду пытаецца ён з гатоў-насцю.— Заадно магу ўзяць, мне ж — усё роўна!

— Чаго ўзяць?

— Свежай рыбкі.

— Навошта?

— Вы яе не любіце?

«Не, я не сню, аднак!»

Ён ужо бачыць — нешта здарылася, адчувае віну, спрабуе яе загладзіць. Бадзёра кажа:

— Ганіце манету! Колькі вам браць? І якую — малую ці большую?

— Не!! — паспешліва і з жахам баранюся я, нібы ён падбі-ваў мяне на злачынства.

— Чаму-у?!.

— Не!

— То як сабе хочаце, я — ад шчырага сэрца!

— Не! Не-е!! Не-е-е!!.

— Тады я пабег!

— ...

— Ну, бывайце!

— ...

— Да пабачэння, кажу!

— Шчасліва...

**19.**

Пасля фатальнай сустрэчы дамоў іду не адразу. Доўга цягаюся па засмечаных апалым лісцем вуліцах. Хаджу, як аглушаная, з пустэчай на душы і ўсё не магу зразумець: што ж такое здарылася, што за землетрасенне? А памяць настойліва падказвае інтанацыю і мужчьшскі чужы голас:

«Свежая рыба там, у падвале...»

«Хочаце свежай рыбкі?..»

«Вы яе не любіце? Не можа быць!.. Я і вам дастану, мне што, заадно стаяць!..»

Калі першы раз ён да мяне загаварыў, я падумала, што яго голас гучыць так мякка, з затоенымі пачуццямі, са страсцю і сілай толькі для мяне. Мана! Прырода дала такую інтанацыю гэтаму чалавеку ад нараджэння, і яна гучыць у яго гэтак нават і тады, калі ён гаворыць пра звычайную рыбу.

Ой, якой агіднай здавалася гэтая самая рыба, якімі агіднымі і ненавіснымі былі яго замшавыя туфлі, хада!

...І не заўважаю, калі і як апынаюся ў вёсцы, дзе жыве мама. Выгляд у мяне вельмі неахайны, а ўся я растрапаная і расстроеная, але мама не з тых мацярок, каторыя заўважаюць такія дробязі ў сваёй дачцэ.

— Прыехала адпачыць? Ну і добра, што нарэшце здагадалася выбрацца, што ўспомніла! А што ў цябе чуваць?

— Нічо-ога...

— Як дзеці?

— Здаровыя... Марынка прыносіць адныя пяцёркі... І па музыцы настаўніца хваліць... Сын таксама паводзіць сябе нармальна покуль што...

— Днямі ў райкоме будзе нарада, прыеду ў горад.

Вырвуся на хвіліну з райкома, да вас забягу.

Але больш я не вытрымліваю ды пачынаю скардзіцца на жыццё.

— Можа, ты хворая? — палохаецца яна.

— Не-е!..

— То што з табой здарылася?

— Косця ўсё піша і піша, дзень і ноч, дзень і ноч, а я адна і адна. Сумна, нават няма з кім і словам перакінуцца дома. Асабліва калі дзеці спяць або паразыходзяцца... Хоць тапіся тады...

— То схадзіла б у кіно, у тэатр ці музей!

— Ну што ты, мам, кажаш? Хіба гэта заменіць?!

— Дык што ж з табой такое?!

Яна хвіліну думае, тады з перакананнем кажа:

— Ведаю ўжо. Табе трэба ў добры калектыў! Мне адразу расхацелася ёй больш скардзіцца. Мама ніколі мяне не разу-мела. Усё дзяцінства я пражыла па дзіцячых дамах, сваёй маці амаль не бачыла і ніколі не бывала так, каб яна ведала мае ду-шэўныя таямніцы, перажывала мае захапленні, смяялася з наіўных расчараванняў, радавалася маімі перамогамі. Мы — бытта чужыя людзі, якія наведваюць адзін аднаго толькі па традыцыі ці таму, што ўзіраюцца людзі.

— На вянок цыбулі і торбу груш, занясі дахаты. А мне трэба адпраўляцца ў брыгаду малаціць. У мяне гэты тыдзень такі напружаны, а тут камісіі панаехалі з абкома, нас хочуць на выстаўку вылучыць...

— Я цябе, мама, разумею... Дзякуй і за гэта... Механічна бяру цыбулю, бяру торбу ды валакуся ў горад.

**20.**

Больш за іншых ведае мае таямніцы і разумее мяне Косця. Застаю яго дома. Расказваю пра выпадак з незнаёмым мужчынам.

— Ха-ха-ха-ха! Вось дык гісторыя! — дзівіцца ён, выслухаўшы з цікавасцю.

— Ты смяешся!

— Чаго ж не пасмяяцца з таго, што сапраўды смеху вартае?

— І не баішся?

— Чаго?

— Які бяспечны!..

— Думаеш, гэта было каханне? Імітацыя! У цябе яшчэ сядзіць жывы інстынкт кахання, яму трэба неяк праявіцца, ён вось так і праявіўся! Чаго ж мне баяцца імітацыі?

— Імітацыя...

— Я ўпэўнены!

— Як мне цяпер усё гэта перажыць?

— Што тут перажываць? Зрэшты, як сабе хочаш! Ты ж не пыталася ў мяне перад тым, як уліпнуць!

Ён бачыць, што пачынаю злавацца, кажа ўжо сур'ёзна:

— Іра, не трэба апускацца ды вешаць носа!

— Лёгка казаць збоку!

— А ты вазьміся за што-небудзь цяжкое, каб ні секунды не мець спакою! «Труд меня жаждою жизни наполнил, цель указал, чтоб в мечтах не блуждал...»

— Яшчэ і цытату з «Капітала» прачытай!.. Тады скажы,

што мне трэба ў добры калектыў, праўда?

— Ну! — сцвярджае ён упэўнена.

І толькі цяпер бачыць маю іронію ды здзіўлена моргае вачыма:

— Не ведаю, чаго ты пакрыўдзілася? Я ў такіх выпадках клін клінам выбіваю.

— Ты ж мужчына!

— Якая розніца?

— Ты сур'ёзна яе не бачыш?

— Сур'ёзна!.. Во, Іра, займіся па-сапраўднаму гаспадаркай!

— Яко-ой? Хіба мала займаюся і так?

— У нас няма халадзільніка, нейк жа яго дабываюць людзі, знаходзяць!

— Ага!

— Тэлевізар добры трэба раздабыць... Не хопіць грошай, бяры ў крэдыт!..

— І персідскія дываны!.. І наведвай камісійныя магазіны, таўку-учкі, праўда? На курорт уборы шый, пуцёўкі здабывай! І трохпрацэнтныя абліга-ацыі хапай, залатыя пярсцё-онкі!.. Ты гэта сур'ёзна? Не-е, даражэнькі, мяшчанкі з мяне не зробіш!

— Што ты перакручваеш?! Добры тэлевізар дзяцей дома ўтрымае, а халадзільнік, кажуць, вельмі практычная рэч! Да-руй, не хацеў цябе пакрыўдзіць, слова гонару!

— Добра яшчэ, што хоць просіш прабачэння!

— Пабачыш — адна гаспадарка цябе вылечыць!

— Ла-адна! — уздыхаю.— Толькі скажы чэсна — зусім не раўнуеш?

— Да гэтай «свежай рыбіны», да імітацыі?

— А нават і да яе!

— Выдумала!

— І ані крыхі?

— Лепшага за мяне не знойдзеш!

— Упэўнены?

— Абсалютна!

— Глядзі ж...

— Што глядзець, хіба не праўда?

Косця бесклапотна смяецца. А мне вельмі на яго крыўдна. Нават з'яўляецца нейкая адчужанасць.

## Раздзел другі

*Жена разрушила очаг,*
*Он был ей не по нраву,*
*Хотя его не кто-небудь,*
*А сам аллах сложил.*
*Но если сложит для семьи*
*Жена очаг на славу,*
*Его разрушить никогда*
*Не хватит у аллаха сил.*
***(Усходняя мудрасць)***

### 1.

Пазванілі мне на кватэру з рэдакцыі мінскага часопіса, перадалі адрас нейкай жанчыны — Любы Гарошка — і папрасілі к 8 Сакавіка напісаць пра яе нарыс. Усе мае доказы, што ў жанры нарыса я ніколі не выступаў, ні на што не здаліся.

— Мы ўсе тут упэўнены — атрымаецца! — пераконвае мяне літработнік рэдакцыі.— Калі вы аб складаных навуковых ісцінах умееце пісаць гэтак цікава і пераканаўча, тады напэўна яшчэ лепш напішаце пра жывога чалавека! Дык — чакаем!

Па праўдзе кажучы, мне гэта палесціла. Хоць і няўпэўнена, аднак адпраўляюся ў горад шукаць сваю гераіню.

«Ладна,— думаю сабе,— напішу і вышлю, мажліва, і надрукуюць. Калі паеду ў Маскву на вучобу, Іра атрымае за мяне ганарар і будзе ёй лішняя капейка на пражыццё. Толькі ж — які з мяне літаратар?! І выдумаюць нешта!..»

На прыпынку дачакаўся я аўтобуса ды заняў месца. Ужо гадзін дванаццаць. Машына — амаль пустая, пасажыры спа-койныя ды гаваркія.

На першым прыпыпку ў пярэднія дзверы пачала пнуцца сагнутая пытальным знакам сівая кабеціна. Яе намаганні ба-чыць з тратуара малады рослы сяржант. Вайсковец падлятае да старой, хапае яе на рукі і лёгка ды беражліва ўносіць у машыну, прыгаворваючы:

— Спакойна, бабуся, спако-ойна, вось та-ак! А цяпер мы вас сюды паса-адзім ля самага акенца, а кіёчак ваш тут паста-а-вім, і вы сабе спакойненька паедзеце! Вам выгодна? Выгодна! Ну, бабуленька, шчасліва!

Сяржант спрытна выскоквае на тратуар. Пнеўматычныя дзверы зачыняюцца. Аўтобус ужо едзе. Пасажыры адразу пачы-наюць абмяркоўваць здарэнне. Дзівяцца: вось якія трапляюцца добрыя маладыя людзі, а то іншы, зараза, не толькі не дапа-можа, не ўступіць месца, а яшчэ табе і папіхне старога чала-века. Зусім не рэагуе на выпадак сама гераіня. Бабка паклала на кіёчак жылістыя рукі і хмурна ўставілася перад сабой.

Побач са старой з сеткай бульбы ля ног сядзіць жанчына. Гэтую гаваркую ды бойкую мяшчаначку я заўважыў у нашым горадзе гадоў з пятнаццаць таму

назад. З каравокай ды кірпаценькай маладзічкі на маіх вачах за пасляваенны час яна ператварылася ў скуластую таўставатую кабету. Не змяніліся ў ёй толькі бесцырымонныя манеры ды зычны голас.

Вось і цяпер жанчына свабодна, як у сябе дома, загаварыла да суседкі:

— Цётко, то чаго вы шчэ і нездаволеныя? Ён жа з вамі так культурна абыходзіўся: так асцярожна на руках нёс, бабу-уленькай назваў!

— Э-э, мілая, чаго тут радавацца? — праскрыпела старая панылым голасам.— Каб ён мяне назваў дзе-е-евушкай...

Усе дружна рассмяяліся.

Аўтобус спыняецца зноў. Ага, недзе ж тут жыве і мая гераіня! Вылажу з машыны ды пачынаю прыглядацца да нумароў на сценах.

Каля старога дома наганяю скуластую жанчыну з бульбай. Яна ўзнімае на мяне вочы і нам абаім становіцца ясна, што думаем аб адным. Мы ўсміхаемся. Я нават яшчэ ківаю галавой, а жанчына не вытрымлівае ды каменціруе:

— Ужо, здаецца, такая лядашчая і зно-ошаная — аж пясок сыплецца з яе, а яшчэ чапляецца за жыццё!.. Скажы-ыце вы, як чалавек створаны!

Зноў ківаю галавой. Затым пытаюся, як мне знайсці кватэру Любы Гарошка.

— Перад вамі — яна сама! — дзівіцца жанчына.— Калі ласка, заходзьце, зараз адчыню дзверы!

Адчуваю расчараванне. Яна ўсё ж такі вельмі звычайная. І гэта — гераіня? Такіх — поўныя гарадскія вуліцы! Але нічога іншага не заставалася цяпер рабіць, як узяць сетку з бульбай ды пакрочыць за кабетай.

А неўзабаве з прыемным здзіўленнем сам сабе

адкрываю: перада мной — не звычайная мяшчанка, а — рэдкай энергіі і жыццяздольнасці чалавек, які столькі перажыў, застаючыся аптымістам ды чалавекалюбцам.

Прасядзеў я ў жанчыны да глыбокай ночы ды ўсё слухаў.

## 2.

Гісторыя Любы Гарошка і яе сям'і збольшага выглядала гэтак.

Лейтэнанту Паўлу Макарэвічу — дваццаць два. Ен — камуніст. Яго Любе — дзевятнаццаць. Пазнаёміліся яны, на думку Любы, не так, як усе. Найбольш запомніліся ёй сустрэчы ля казармы пяхотнага вучылішча. Яна — сірата, магла ісці, куды хацела, бо — сама сабе гаспадыня. Горш было яму. Толькі позна ноччу, пасля адбою, Павел прабіраўся праз глухі плот — высокі, ды яшчэ з калючым дротам наверсе. Тады хаваліся яны ў цяні дрэў, і Павел, трывожна азіраючыся, туліў яе да сябе.

Праз некалькі тыдняў яна скончыла педвучылішча, ён — вайсковае. Паўлаў водпуск правялі ў парку, за горадам у лесе, у жытах. А скончылася гэта тым, што ўзялі сведак, пайшлі ў загс ды распісаліся. Камандзіры зрабілі складчыну, з тостамі павя-чэралі ў рэстаране — гэта і было іхняе вяселле.

Лейтэнанта зараз жа накіравалі за Ломжу ў часць — ля граніцы ў Заходняй Беларусі, за ім паехала і маладая жонка. Толькі жыць з мужам усё не даводзілася: ля граніцы покуль што сямейным не хапала кватэр. Яна асела ў вёсцы Паўлішкі, дзе знайшлося месца настаўніцы.

Аднойчы аб'явіла яна вучням, што апошняга ўрока не будзе — клас адпраўляецца на даўно абяцаную экскурсію ў лес.

Пад лесам была свежазабаранаваная зямля.

— Звер якійсьці бег, во — сляды! — закрычалі дзяўчынкі.

— Воўк!

— А страшна як, Люба Макараўна!..

— Гэта —заяц, дзеці! — супакоіла іх настаўніца.

— Або заяц так роўна ставіць след — адзін за адным? — высмеяў яе троечнік — Горбік.

— Бо ён тут, Міша, якраз не скакаў, а так сабе ішоў! — бараніла свой аўтарытэт настаўніца.

— Ы-ы-ых? — са здзіўленнем уцягнуў у сябе паветра хлопчык.—Зайцы толькі скачуць — як вераб'і!

Клас выслухаў Горбіка з маўклівай пашанай.

Па некалькіх падобных выпадках Люба выдала сабе пры-суд: яна кепская настаўніца. Пісала пра гэта мужу, плакала.

Навокал жылі яшчэ жанкі камандзіраў ды таксама чакалі, калі іх забяруць да сябе мужы. Гэта былі найбольш трыццаці-саракагадовыя кабеты. Яны падпарадкоўваліся інстынкту сама-захавання і на граніцу не надта спяшаліся. Сярод іх Люба часамі забывалася. Большасць жанчын не мела ніякага дыпло-ма, але маладая настаўніца з пашанай адносілася да іхняга жыццёвага вопыту.

Зрэшты, гэтыя жанчыны да Любы гарнуліся самі. З уласцівым старэйшым людзям імкненнем да маладога кабеціны непрыкметна ёю любаваліся і нават лесцілі, ад чаго Люба паводзіла сябе ўсё больш упэўнена. Камандзірскія жанкі адкрывалі адна перад адной душу, скардзіліся на «цыганскае» жыццё. Люба тады ў гутарку не ўдавалася — больш слухала.

Такім чынам, у Любы і заставалася ўсяго радасці, што

на рабоце — з вучнямі, а ў сваім асяроддзі — маўклівае прысутні-чанне. Але, калі ў школе здараліся няўдачы, каму паскар-дзішся? І яна сумавала. Прыходзіла дадому, скідала з твару маску, бездапаможна падала на ложак ды плакала ў падушку.

Часамі яе агортваў незразумелы неспакой. А тут яшчэ жанчыны падбухторвалі.

— Мой нарэшце знайшоў кватэру! — пахвалілася адна. — Піша, каб чакала машыны — забіраць едзе!

— А мой злёг,— паціху, нібы сама сабе, паскардзілася другая ды цяжка ўздыхнула.— Хто аб ім стане там клапаціцца?

— А для чаго дактары, Ксеня Мікалаеўна? — нясмела пацешыла яе Люба.

— Дактары — людзі казённыя!.. Ой, цяжка нам, бабанькі — свет такі трывожны!.. А твой калі забярэ цябе?

— Ніяк не знойдзе памяшкання! — з сумам праказала настаўніца.

— Нічога, мілая, прыйдзе час — і выкліча, у вас шчэ ўсё наперадзе — абы толькі вайны не было!

Калі яны выйшлі з дома паштальёна, куды назбіваліся жанчыны, чакаючы пошты, Любу адклікала жонка камандзіра часці, прашаптала:

— Не слухай ты іх! Мужыкі робяць усё, каб толькі быць далей ад нас! Не вер ніводнаму яго слову і не выпускай яго з рук! Ведаеш, сколькі там на граніцы полек? А параўнай нас з імі! Яны ўсе зграбныя, ладныя і ўмеюць падлезці да мужчыны, не тое што мы!.. І твой забудзе цябе, калі станеш варонай!

Люба ў душы пасмяялася — гэта Паўлік забудзе? Але яд, выпушчаны кабетай, пачаў дзейнічаць. Праз хвіліну ёй зрабі-лася страшна — не хацелася заставацца адной ні секунды!

Яшчэ ёй раптам да болю захацелася таксама пажыць сапраўднай сям'ёй: клапаціцца аб мужу, як іншыя. Калі б Паўлік захварэў, як бы яна яго даглядала: старанна, душэўна, ласкава! І не толькі хворага: калі б нават прыйшоў п'яны ці вярнуўся мокры з палігона! Калі ўсё гэта будзе?

А неўзабаве жыццё стала яшчэ больш складаным. І ўсё адбылося незаўважальна для яе.

Найсамперш Люба пачала ставіць на ложак чамусьці лялькі, весці гутарку пра малышоў, раздаваць ім цукеркі...

Аднойчы ў яе на кватэры сабралася жаночая кампанія. Нехта прынёс вестку —у горадзе знайшлі грудное дзіця ў рэчцы. Люба абурылася:

— Расстраляць такую маці мала! Ой, як добра мець дзіця! Такі малюсенькі жывы камячок шукае ў цябе грудзей, цмокае — слабы, бездапаможны: калі не абароніш яго ты, не абароніць ніхто! Я б хацела мець такое!..

Гаспадыня дома, цётка Марыся, уважліва яе разглядзела ды строга праказала:

— У цябе ж жывот ужо — каго ты ашукаеш, мілая?

Жанчыны глянулі на яе фігуру ды прымусілі настаўніцу пачырванець да вушэй. Любу агарнула дзіўнае, упершыню зведанае пачуццё: сарамлівасць, страх перад невядомым, нейкае бязмернае шчасце і нават — гонар. Яшчэ Люба заўва-жыла, што жанчыны ёй крыху пазайздросцілі. Першы раз адчула — нечым узнялася над сяброўкамі.

Калі ўсе разышліся, Люба з радасцю села пісаць Паўлу. На жаль, радасць была нядоўгай. Калі б потым у яе хто спытаўся чаму, яна сказала б — зрабілася надта страшна.

Што ж, трывожны быў гэта час ля граніцы. Не праходзіла дня, каб Люба не пачула нешта жудаснае.

Маладзейшыя сяброўкі пачалі яе пераконваць ужо, як не ў час цяпер роды, ды пацешылі — мужы любяць якраз тых кабет, у якіх няма дзяцей. Усё гэта Люба прапускала міма вушэй. Уразіла яе вестка, якая пракацілася па Паўлішках:

— У Шудзялаве мінулую ноч шпіёны выразалі сям'ю: мужа, жонку, старога дзеда і трое дзяцей!

Жонка камандзіра часці дадала:

— Раніцой прыязджаў мой па сям'ю і апавядаў — ноччу немцы ўкралі нашага афіцэра ды зарэзалі двух байцоў. Я адмовілася ехаць на граніцу. Думала, што хоць тут спакойна, а во — і ў Шудзялаве ўжо!.. Пішуць у газетах, як немцы раз-бамбілі Лондан. Колькі дзяцей загінула пад друзам — тысячы!..

Люба адчула неспакой. Пачала раіцца.

— Што ты надумала? — напала на яе жонка камандзіра часці.— Не перасаджалі шчэ ўсіх ворагаў народа, на носе вайна, усюды шпіёны, а ты — сірату хочаш на свет пусціць? Давай, давай, радзі!..

Любе стала яшчэ больш страшна.

— Схадзі, покуль не позна, у горад да Вялічкі. Акушэрка такая. Бярэ ўсяго дзве сотні і робіць па новай методзе, амаль без болю...

Карацей кажучы, Люба і сама не ведала, як апынулася на ўскраіне былога польскага гарадка ў ціхім доміку, абвітым дзікім вінаградам. Тоўстая і салідная дама паклала яе на цвёрды тапчан, пакрыты старой цыратай з рыжымі плямамі ад марганцоўкі і ёду, аглядзела пацыентку ды вызначыла тэрмін.

Ішлі дні, тыдні, а настаўніца другі раз наведацца ў ціхі домік не адважвалася — усё адкладвала. Выпадкам, калі хадзіла ў горад па зарплату, спаткала акушэрку.

— Вы да мяне? — насцярожылася тая.— А я ўжо вас не чакала, лічыла — перадумалі! Пайшлі!

Люба бязвольна падпарадкавалася, і яны падаліся на ўскраіну.

Агледзеўшы настаўніцу яшчэ раз, акушэрка заўважыла без ніякага намеру:

— Шкада, што не прыйшлі раней. Ужо можна будзе разабраць — хлопчык ці дзяўчынка.

Люба раптам апамяталася. У яе аднекуль з'явілася рашучасць. Покуль Вялічка на кухні звякала бліскучымі прыла-дамі, яна схапілася з жудаснага тапчана ды хуценька адзелася.

— Вы куды?! — здзівілася акушэрка.

Люба нешта прамармытала і вылецела з дому. На двары глыбока ўздыхнула і раптам адчула сябе найшчаслівейшым чалавекам на свеце. Ну і што, калі будзе вайна? У яе справа — больш важная! Застаецца толькі чакаць! І таму, што здарыцца, ніштo ўжо не перашкодзіць — яна гэтаму гаспадыня!

Па дарозе ішла маладзіца з хлопчыкам. Малы роў на ўсю вуліцу. Люба падалася за імі і палюбавалася.

— Ты чаго румзаеш? — захацелася ёй пагаварыць з малым.— Перастань, бо міліцыянера паклічу!

Малы сціх ды павярнуў да яе галаву. У сур'ёзных вачанятах, на вейках яшчэ дрыжалі слязінкі.

— А оты я не табе плацу, а — маме сваёй, от! — выпаліў.

Ёй стала надта смешна — ой, які цудоўны жэўжык!

— Нічога, нічога,— супакоіла яна маладзічку, калі тая стала прасіць прабачэння за наследніка. У голасе незнаёмай Люба выразна адчула захапленне арыгінальнасцю сына.

Няўжо і ў яе будзе такі, няўжо і яна будзе так ганарыцца? Божа, каб толькі хутчэй!

Люба ўжо і слухаць не хацела ні пра вайну, ні пра шпіёнаў, ні пра здраду Паўла, ні пра што іншае.

У час родаў, вядома, яна не раз праклінала мужа. Але неўзабаве Люба, стомленая, абяссіленая і шчаслівая ды крыху ўжо іншая — бытта дабавілі ёй дзесяць гадоў — ляжала на бальнічным ложку. Каля яе — малое: родны, бездапаможны камячок. Маладой маці ўсё здавалася, што яно галоднае.

— Ладна, даю вам яшчэ дваццаць мінут! — строга сказала сястра і знікла.

Побач сядзеў Павел. На яго з усіх куткоў глядзелі жанчыны, муж губляўся і шаптаў ёй:

— Разумееш, атрымаў тэлеграму. Ведаю, аб чым яна, а разарваць баюся. Гадаю: арол ці рэшка. Нарэшце адкрываю. Дачка... Кальнула такое пачуццё — бытта атрымаў тройку на выпускным экзамене!

— А цяпер?

— Ужо — усё роўна! Мама мне напісала: няхай будзе адна дачка, а то ў нашай сям'і ўсё хлопцы ды хлопцы... Як жабяня яна яшчэ ў нас... Ну, выздараўлівай...

— Павел, а вайна будзе?

— Што ты?! Хіба на нас адважыцца хто напасць? Сіла якая!

— Так і перад фінскай гаварылі!—умяшалася Любіна суседка па ложку.

— То было тады, а то — цяпер. Нам жа вайна непатрэбная, ці не так? — даводзіў Павел.

З гэтым і паехаў.

А праз пару тыдняў немцы перайшлі граніцу. Павел заскочыў да яе ў Паўлішкі, каб толькі кінуць:

— Любачка, бяры Святланку ды хутчэй — на ўсход! За

мяне не хвалюйся — скора вернемся! Я нават свой кубак схаваў у траве ля лагера і на сасне зрабіў знак! Гэта мы толькі адступаем, бо нашыя паркі адсталі! Хто меў чым страляць, пайшоў на захад! І ўвогуле нічога кепскага не думай — усё роўна пераможам!

Такі быў яе Павел, такім яго запомніла.

А далей — трагедыя адступлення, жахі бамбёжак. Маці сваім целам не раз і не два закрывала ад куль і асколкаў дачку. Раны, хваробы...

Дайшла Люба толькі да Бабруйска, і дарогу перарэзалі нямецкія танкі.

Голад. Прыніжэнне жонкі савецкага афіцэра пад акупацы-яй, чаканне кожную хвіліну арышту і смерці...

Стойка трымаецца Люба Макарэвіч. Яна неўзабаве — партызанская сувязная.

Аднойчы на вуліцы маладую бежанку сустрэў Паўлаў камандзір палка ўжо ў форме ўласаўскага палкоўніка.

— А-а, Люба Макарэвіч?! Прывітанне, прывітанне! Разам з тваім мужаньком у палон трапіў. Яму снарадам развярнула жывот. Сядзелі з ім доўга ў віленскім лагеры. Але твой гаворыць — памру, а немцу служыць не буду. От дзівак! Дубіна! Відаць, нямецкі снарад не ўсё сталінскае нутро з яго вырваў!.. Зрэшты, шкада хлопца. Што, думаеш, у мяне няма сэрца? А думаеш, не разумею, як страдаеш па мужу?.. Ты — свая стала: столькі ра-зам з маёй жонкай выцерпела ў нейкіх задрыпаных Паўліш-ках!.. Напішы запіску, перадам — неўзабаве буду зноў у Вільні. Хай бы падыхаў, калі такі дурань, ды цябе шкада...

Люба — да партызан на нараду. Тыя загадалі:

— Пішы, няхай уступае ва ўласаўскую армію, падбярэ людзей, зброю, колькі адно зможа, і пераходзіць з цэлай групай да нас, нам спатрэбіцца!

Люба напісала так, што муж не зразумеў.

«Пасля гэтага ты мне больш не жонка, а — прадажная шкура! Цябе я і ведаць не хачу!» — адказаў ён запіскай.

Люба — у Вільню. Павел не падышоў нават да калючага дроту, не прыняў яе цяжка здабытых сухароў.

Наплакаўшыся, жанчына вырашыла — паміраць пасля вайны.

У Бабруйску аддала паўтарагадовую дачку бабцы, а сама — у лес! Гісторыі яе баявых дзеянняў хапіла б на пяць поўнаметражных фільмаў.

Нарэшце немцаў прагналі.

Мінуў год-другі. Дарэмныя пошукі Паўла. Сумна і невыносна цяжка здаровай і прыгожай маладзіцы ў дваццаць пяць год быць адной на свеце. Люба выйшла замуж за былога нача-льніка штаба партызанскай брыгады — старшыню райспажыў-саюза Гарошку. Яны пераехалі ў наш горад, дзе Люба нарадзіла блізнят.

Раптам знайшоўся Павел! Ён — за Уралам у лагеры. Што рабіць? І тайком ад мужа яна стала пасылаць яму пасылкі. Даведаўся Гарошка. У парыве гневу пачаў біць жонку. Стаў зганяць злосць і на дзіцяці «здрадніка».

Аднойчы Гарошкі ехалі з Баранавіч на грузавіку і дзяўчынка заснула. Муж не зумысна, а проста з-за неахайнасці паклаў малую ў кузаў на салому. Туды якраз выходзілі газы ад матора — машына трапіла замежнай маркі з крытым кузавам.

Міналі гады. Памёр муж.

Выпусцілі Паўла — зламанага чалавека, камяк нерваў. Сысціся з Любай ён не змог і неўзабаве загінуў ад гарэлкі — захлябнуўся ў звычайнай лужыне.

Люба жыла з блізнятамі, цяпер яны хадзілі ў дзевяты клас, а яна працавала ў нашым горадзе загадчыцай дыетсталовай. Сёння якраз была выхадная.

У апавяданні Любы прагучала яшчэ шмат

падрабязнасцей з яе першага замужжа. Мабыць, каб уваскрэсіць Сашу Матро-сава і расказаць яму пра Макарэвічаў, то і ён зняў бы перад імі пілотку. Аднак пра іх людзі нічога не ведалі.

Гэта быў рэдкі выпадак, калі само жыццё давала аўтару гатовую схему і асноўных тыпаў для твора. Тут не нарыс трэба было выводзіць, а — раман, ды я ж — не раманіст! На жаль, гісторыю трэба перадаваць якому-небудзь пісьменніку...

Чорт на яго, а мо ўзяцца за справу самому?

## 3.

Яшчэ па дарозе ад Любы Гарошка я загарэўся новай кніжкай. Пра яе толькі думаў і ў наступны дзень. Ува мне, як кажуць, настаў «пункт кіпення». Але ж неадкладна садзіцца і пісаць новы твор не мог, бо дамоў завітаў на некалькі дзён.

Цяпер у Маскоўскім навукова-даследчым інстытуце псіхалогіі я вучуся на курсах павышэння кваліфікацыі. Вось ужо год жыву ў сталіцы, пару гадзін у дзень слухаю лекцыі, а рэшту часу — сядзі, пішы, чытай — нішто мне не перашкаджае. А зараз у мяне канікулы.

За адзін дзень я накідаў нарыс на пяцьсот радкоў для мінскага часопіса, адправіў у рэдакцыю ды вырашыў: вярнуся ў Маскву — адразу вазьмуся за тэму Макарэвічаў. Покуль што пра гэта нікому — ні слова. Ото ж будзе фокус: пісаў, пісаў навукова-папулярныя брашуры для таварыства «Веды», а тут: раз — і раман!

Па складаных законах сувязі псіхікі чалавека з яго фізіч-ным станам у мяне з'явілася ўжо добра знаёмая ўзбуджанасць — мой арганізм падрыхтаваўся да новага твора.

Люблю такія моманты творчага ап'янення!

Нібы ты зноў скончыў інстытут ды адпраўляешся на работу поўны жудасна рамантычнага хвалявання ад навізны, якую маеш спазнаць, а на душы — бытта першы раз закаханы.

Знаёмыя часта прапапуюць тэмы. Надзённыя, Вострыя. Цікавыя. Не хачу людзей крыўдзіць, абяцаю ўсё выкарыстаць. Дзівакі. Каб усё было так проста! Адно тады парад мы слухаем, калі супадаюць з нашымі жаданыямі. Можа падбіць на кніжку толькі той жыццёвы факт, сюжэт, што з'явіцца як бы сімва-лічным выказнікам пачуццяў і думак, якімі перапоўненая твая душа.

Мне самому даводзілася паспытаць несправядлівасці. І ба-чыў я людскія беды, жудасці вайны. Але калі б усё гэтае па парадку апісаць, атрымалася б няскладная, супярэчлівая, без пачатку і канца рэч, якую ніхто не змог бы дачытаць да канца.

І раптам шчаслівая выпадковасць — званок з мінскай рэдакцыі: давалі магчымасць расказаць людзям пра гераізм, цвёрдасць духу, заблытаныя ды нялёгкія шляхі майго пакалення ў лаканічна тыпізаванай гісторыі жыцця шматпакутнай кабеціны. Толькі над гэтай біяграфіяй папрацуй. Не хапала ў ёй шмат элементаў, але ж навошта фантазія?

Цалкам ахоплены гэткімі разважаннямі, я пераходзіў вуліцу ля свайго дома. Раптам страшэнна завішчэла гума колаў ды прымусіла мяне прачнуцца — перада мной аднекуль выныр-нула і навісла тупаносая аграмадзіна аўтобуса. Наступіў такі момант, калі ў чалавека нараджаецца здольнасць паскоранага ў тысячу разоў мыслення. І вось дзіва — у жудаснае імгненне я падумаў не аб сям'і, не аб дзецях, якія застануцца сіротамі. З роспаччу я гатовы біцца з аўтобусам, што не дасць напісаць кніжку, і надта пашкадаваў — загіне бясцэнны матэрыял пра Макарэвічаў!

На шчасце, выратавалі добрыя тармазы ў машыне. Успацелы, бы ўдараны токам, выскокваю на тратуар ды

ўздыхаю з палёгкай.

**4.**

Жонка — на рабоце, Марынка — у школе, а я з самага рання — да сваіх нататкаў, выразак са старых газет ды часопісаў, якія мелі адносіны да вайны. Усё гэта зараз я складваю старанна ў асобную папку — збіраю матэрыял, каб узяць з сабой у Маскву. Ранейшыя тэмы гэтага не патрабавалі — ні адна фраза, ні адзін факт адгэтуль мной не быў скарыстаны. Здымкі, фашысцкія загады, дробныя рэчы: лагерныя нумары, няўклюдныя цацкі, зробленыя нейкім палон-ным для абмену на кавалак хлеба, пажоўклыя лісты дзённікаў мяне ўраз перанеслі амаль на дваццаць гадоў назад. От дзіва — колькі гадоў прайшло ад вайны, а варта адно сутыкнуцца з якім-небудзь дакументам, што звязаны з тым перыядам, як зноў пачынаеш жыць ёю. Што ж, эмацыянальны напал пачуц-цяў у людзей тады быў незвычайны, вайна як бы ўядалася нам не толькі ў мазгі, нават — у косці. Ёсць пра што цяпер успомніць.

Я жахнуўся, калі ўсвядоміў сабе, колькі маю матэрыялу. Усё гэта я некалі спакойна запакаваў і легкадумна закінуў. Ліха на яго, мо што-небудзь у мяне зараз і выйдзе?!

Вярнуў мяне да рэчаіснасці рэзкі званок. Стала чуваць, як сын гупнуў пяткамі з ложка на падлогу, як патупаў да тэлефона, закрычаў:

— Галё-о! Гэта — я! Ну, я — Віця! А гэта — ты, Толік? Чаго табе?

Нейкі час у суседнім пакоі толькі часта тупалі босыя ногі, бытта Віця стаяў на распаленай пліце. Затым чуваць яго стала зноў:

— Не ведаю! Папрашу тату, мо і пусціць!.. А мушкецёры за нашых ці за немцаў?.. Ой-ой, пачакай крыху, збегаю ў туалетку! Я зараз!..

Сын гупнуў трубкай аб столік, паляцеў. Толькі цяпер да мяне даходзіць — я ж дома не адзін, трэба заняцца малым!

— Ідзі мыйся! — кідаю.

Чорт, давядзецца адкласці занятак і накрываць на стол.

— Тата-а, а я адным пальцам адчуваю баразёнкі на другім пальцы! — аб'яўляе малы, вяртаючыся ад мыцельніка.

Залівае пачуццё бацькоўскай цеплыні. Толькі цяпер дахо-дзіць да мяне сэнс і камізм размовы малога па тэлефоне ды прычына яго нецярпення. Я ўжо цярплівы да яго, спагадлівы, шчодры і клапатлівы. Мне прыемна, як і тады, калі пішу новы твор (творчасць — з тых самых катэгорый, што і інстынкт?!).

Люба Гарошка накрывала сабой дачку ад бомбаў і не думала пра сябе, як не думаў бы, напэўна, аб сабе і я, каб раптам што-небудзь здарылася падобнае цяпер, а сын трапіў у такую ж небяспеку. Напэўна, яна адчувала ў тую хвіліну нават асалоду ад ахвярнасці, нібы цяпер я, калі б аддаваў для Віці апошні кавалак хлеба. Ні Люба, ні я не лічым сябе героямі, бо гэта ж не нашыя асабістыя якасці. Такую ўласцівасць прырода ў генах перадала нам па ланцужку пакаленняў, бо мы — крупінкі аднаго вялізнага цела чалавецтва. У такіх клопатах праяўляецца інстынкт прадаўжэння нашага роду.

О, ідэя — трэба прапанаваць такую тэму часопісу «Знание — сила».

— Адчуваеш? То добра! Я таксама некалі адчуваў, а цяпер рукі пагрубелі і няма ўжо адчування!.. Эй, браток, навошта ж ты павыдзіраў з календара лісткі?

— Бо там памылка, тата!

— Памы-ылка?!. Дзе?

— А паглядзі: чырвонае і чырвонае!.. Гы, хіба дзве

нядзелі адна за адной могуць быць?

— Дурань! Гэта два дні ўзапар свята: сёмага і восьмага лістапада, зразумеў?

— Та-ак?..

— А яшчэ гэтак бывае першага і другога мая, запомні!.. Ды паднімі з падлогі лісток! Давай уклеім яго назад ды будзем снедаць!

Праз хвіліну мы ўжо сядзім і п'ём чай. Хатняя работніца да нас заходзіць цяпер толькі час ад часу, Віцю нядаўна жонка ўладкавала ў дзіцячы сад, але адпраўляць туды яго даводзіцца кожны раз ледзь не з боем.

«...А мушкецёры за немцаў ці за нашых?!» Камедыя!

Прыглядаюся да малога. Віця чагосьці ўпарта моршчыць лоб, бытта вырашае праблему сусветнай важнасці. Вось з такога вырас некалі і Павел Макарэвіч. А якім будзе мой сын? Калі і яму жыццё наладзіць суровы экзамен, ці здолее яго вытрываць?

Па праўдзе кажучы, то я адарваўся ад сям'і. У маіх дзяцей свой цэлы свет, я ж ад яго надта далёкі — усё на Іру склаў. Хіба справіцца адной жанчыне?

Я адчуў трывогу.

— Віця, чаго моршчышся?

— Тата...

— Ну?

— Тат, от крыўдна бывае, калі ты страляеш, страляеш, а танкі нямецкія ўсё ідуць і ідуць, праўда?

— Гм!.. Што табе ўзбрыло ў галаву, чалавеча? Не балбачы, чаго не трэ, еш! Ваяка мне знайшоўся!

— Я ем...

Ад аўтараў патрабуюць сучаснасці. Залежыць, як хто яе

разумее. Я, напрыклад, кожную ноч у сне ўцякаю ды ўцякаю ад немцаў, а то іду ў атаку ці трапляю пад бамбёжку. А ў дзяцей усё яшчэ гульні пра вайну. Яна для нас — таксама сучаснасць, толькі праўдзіва яе малюй.

Віця запіхыуў у кішэньчык на грудзях пластмасавую чарку, уставіў туды доўгую макароніну ды смокча праз яе чай. Іра на яго, у дадзеным выпадку, напэўна, накрычала б. Бацька ўдарыў бы калісьці мяне па руках...

Накрычаць на Віцю, ударыць яго і мне? А ці ўсё правільна рабілі нашыя бацькі? Заўсёды так, як трэба, паводзіць сябе жонка?! Няхай развіваецца ў ім дзіцячая фантазія! Здаровы арганізм малога, напэўна, патрабуе руху, адчування сітуацыі, адчування смаку, фарбаў і гукаў,— нездарма ўсё гэта для яго робіць такую прыемнасць.

У выхадцы малога нават бачу самастойную арыгінальнасць і на момант адчуваю ўсё, што адчувае Віця. Мяне кранае струнка бацькаўскай гордасці, адчуваю сябе шчаслівым. І тут прыходзіць думка, што беднаму Паўлу Макарэвічу не давялося гэтак вось сядзець са сваім сынам, паспытаць гэтую прыемнасць, выслухоўваць наіўнае і даверлівае балбатанне нашчадка. Зрабілася шкада чалавека да слёз.

— Недагрызак каму пакідаеш?

— Ай!

— Бяры вунь мёд і намаж! Не выкідваць жа нам яго!

— Не хачу!

— Грашыш, брат. Як бы ты яго падабраў у вайну, калі людзі марылі аб кавалачку хлеба!

— А оты не падабраў бы! — неахвотна падпарадкоўваецца малы.

Ліха на яго, няўжо кожнаму пакаленню трэба перажыць

тое самае, што перажылі бацькі, і— мець сваіх Макарэвічаў, каб дайсці да розуму? Як перадаць свой вопыт роднаму сыну?!

— Тата, а калі афіцэр рускі, а салдат армянін, то як яны гавораць?

— Гм...— збіраюся адказаць, ды ўпэцканы мёдам малы пытаецца ўжо другое:

— А калі стрэліць з пісталета на пчол, то яны збаяцца, тата?

— Не.

— А — з гарматы?

Што ж, у малых звычка задаваць пытанні з упартасцю аўтамата. І тут прырода. Арганізм — складаная самаарганізава-ная сістэма. Для існавання будучага чалавека трэба набраць энную колькасць інфармацыі, таму ў малога абуджаецца цікавасць. Яно робіцца ўпартым, цастойлівым, вынаходлівым і настырным — абы цябе выпытаць. Прытоены механізм. Малому рабіць пытанні прыемна, хоць яно і не разумее часамі тваіх адказаў. Яны ў яго недзе там адкладваюцца, уступаюць ва ўзаемадзеянне...

Чаму перастаеш заўважаць старасць іншага пажылога чалавека пасля першых яго слоў? Бо ў яго фразах вылазіць дзіцячая душа, не прытуплены прыродны механізм. Стары чалавек — не з вусамі ды барадой, а — хто страціў гэтую ўласцівасць.

Пытайся, Віця! Пытайся, родны, набірай інфармацыі, колькі ў цябе ўлезе, і будзь такім да старасці. У каго доўга захоўваецца цікавасць, той доўга чулы і на беды людскія, на крыўды і справядлівасць...

— Тата, а чаму ў цябе тут такі гуз? — кранае мяне сын за шыю.

— Гэта — гартань, сынок.

— А чаму ў мяне няма? — мацае сабе шыю.

— Яшчэ будзе. Яна праяўляецца толькі ў дарослых. А яшчэ гэта называюць — Адамаў яблык.

— А чаму, калі ты глытаеш, і яблык Адама рухаецца?

Як табе вытлумачыць? Анатомія горла для цябе, мабыць, яшчэ заскладаная. Успамінаецца гатовы адказ для такой сітуацыі нейкага класіка:

— Таму, Віця, бо пер-пен-ды-ку-ля-ар!

— А-а!..

Праз хвіліну спахопліваецца:

— Я ўжо ведаю, чаму мамка не хоча, каб у нас жыў кот.

— Ну?

— Бо ты будзеш спаць, а гар... гыр... яблык дзядзькі Адама заварушыцца, кот падумае: мыш — і цябе загрызе!

Малы кажа з перакананнем ды радасцю, што дадумаўся да такой ісціны. Божа, колькі гэтаму чалавечаму парастку яшчэ з'есці кашы, колькі яшчэ развівацца, каб такое не гарадзіць. Нічога, вырасцеш і ты, хлопча. Успамінаю сваё дзяцінства. Аднойчы ў садку зязюлька пракукавала мне сем раз, і я надта ж узрадаваўся — от доўга буду жыць!..

— Праўда, тата?

— Не, тут ты не маеш рацыі.

— Чаму-у? — пытаецца расчараваны.

— Гм... Бо той самы пер-пен-ды-ку-ля-ар!

І на гэты раз магія незразумелага слова супакойвае цікавасць малога. Уваходзіць Іра.

**5.**

— Ну, як вы тут? — пытаецца ўзбуджаная жонка.— Яшчэ толькі снедаеце?

— Адно селі.

— А чаму ж ты ў дзетсадзік не пайшоў? — пытае малога.

Вінаваты я, але Іра стрымлівае сябе, стараецца не даць прычын да сваркі ў апошнюю гадзіну.

— Мам, ужо адзінаццаць гадзін!

— Чаму ж не пайшоў раней?

— Бо позна ўжо было ісці раней! — са шчырым перакананнем даводзіць ён.

Я смяюся.

— Во, а ты шчэ і рагочаш! — не вытрывала Іра.— Не мог выправіць? Дарэмна толькі грошы садзім на дзетсад!

— Спецыяльна не пусціў. Няхай апошні дзень хоць пабудзе з бацькам,— пачынаю тлумачыць ды адразу змаўкаю: Іра мяне зусім не слухае.

Я не гаварыў ёй пра Любу Гарошка, бо тады гісторыя жан-чыны здалася б менш цікавай. Чамусьці не магу прадоўжыць пісьмо, калі ў яго нехта загляне. Падабаецца паказваць жонцы ўжо гатовыя рукапісы, чытаць іх услых і назіраць у яе твары выраз здзіўленага захаплення. Як жа яна ўзрадавалася б, калі б на гэты раз я паказаў ёй не артыкул, а — цэлы раман!

Зрэшты, сёння, мусіць, каб і хацеў нават, то не змог бы расказаць Іры з-за перамен, якія адбыліся з ёю ў апошнія месяцы. Мяне гэта крыху непакоіць, перамены гэтай чамусьці я баюся, таму цяпер за жонкай так насцярожана сачу.

Спачатку Ірыны туфлі бадзёра прагрукаталі па дошках

падлогі, потым замерлі, нібы яна забылася куды ішла. Азіраюся. Яна ўсё яшчэ трымае партфель.

«Запрацавалася, бедная. Пацярпі, Ірынка, праз паўгода пакладу перад табой новую кніжку!..»

І тут я падумаў, што першы перыяд жыцця Паўла з Любай зусім быў падобны да нашага. Гэтаксама Іра з Марынкай жылі адны, гэтаксама я бачыў іх тады толькі, калі прыязджаў у горад па камандзіроўцы...

Як усё проста — пачынай апісваць Макарэвічаў, успаміна-ючы пра нас!..

Не забыцца ўзяць з сабой пісьмы Іры таго часу, у іх можна будзе тое-сёе перайначыць ды падаць за Любіны...

— Паеш з намі! — бяру ад жонкі ношу. На мяне находзіць хваля чуласці.— Ух, колькі наладавала сшыткаў — вярблюду пад сілу! Падсаджвайся да нас!.. Раніцой, нябось, не надта хацелася табе...

— Ага...

Яна сядае за стол і толькі цяпер вяртаецца аднекуль здалёк. Уздыхае ды заглядвае ў чайнік.

— Не маглі заварыць свежы?!

— Па-салдацку...

Звоніць тэлефон.

— Гэта — мне! — з якімсьці незнаёмым мне імкненнем і новымі рухамі апярэджвае мяне жонка ды зачыняецца ў пакоі.

Скрозь шкляныя дзверы відаць, як гаворыць у трубку. У суседзяў хтосьці барабаніць на піяніна ды заглушае словы. У Ірынай прыгажосці — такой звычайнай, дагэтуль спакойнай і свойскай — з'явілася нешта незнаёмае. У яе з'явілася нейкая жывая разгубленасць, неспакой ды напружанае чаканне чагось-ці

незвычайнага. Нешта зусім новае, незнаёмае было і ў Ірынай фігуры, нават — у патыліцы.

Як за год асобнага жыцця мяняюцца людзі!

Успамінаецца анекдот, што мне ўчора расказала. Першы раз ад яе пачуў такое — ледзь не вульгарнае, нясмачнае. Раска-заць ёй мог толькі мужчына, з якім трэба мець ледзь не інтым-ныя адносіны...

А яшчэ — учора прыйшла з працы з навіной. Мяне надта здзівіла — дакладна гэта самае пару дзён таму сказаў ёй я, але ж чаму мае словы прапусціла міма вушэй?!

Іра — якаясьці неспакойна прыгожая, з асаблівым бляскам у вачах — вяртаецца:

— Са школы званілі...

Пару мінут маўчым.

— Ты сёння едзеш. Што табе падрыхтаваць?

— Як заўсёды...

— Тата-а, не выкідвай у Маскве катушак, калі ў тваёй машынцы ленты скончацца,— просіць Віця.— Прысылай іх мне, добра?

— Навошта?

— Самазвал буду рабіць...

— А-а!.. Прышлю абавязкова.

— У мяне яшчэ два ўрокі ў другую змену. Дастану твае рэчы з шафы цяпер, а ты ўкладзеш іх сам. Віця, дапамажы сабраць са стала! Што твае чаравікі робяць тут на падлозе?

— Сама бачыш! — крыўдзіцца сын.— Адзін сабе стаіць, другі — ляжыць...

— Не балбачы, лепш падбяры!

Дзіўна. Нават страціла пачуццё гумару. Няўжо ўсё гэта ад стомленасці?

— Косця, ты меўся ў рэдакцыю ісці. Пойдзеш?

І ў тым, як выгаварыла маё імя было штосьці новае. Я яшчэ не цвёрда перакананы, што гэта кепска. Мяне больш уражвае навізна з'явы:

«Чорт, як можна адно і тое самае слова вымаўляць па-рознаму?!»

«А мо толькі так здаецца? Мо да Іры прыдзіраюся? Што са мной адбываецца?!»

— Трэба, відаць, схадзіць. Даведаюся, як там з нарысам — яны хацелі скарочаны варыяпт надрукаваць, покуль надрукуе яго часопіс. Мо і паспеюць. Дагаваруся заадно, каб табе ганарар выдалі...

— То ідзі,— кідае абыякава.

Але я не спяшаюся.

Сын памчаў у кіно. Поўны спачування і віны, прыцягваю жонку, нахіляюся пацалаваць. Звычайна на мой парыў вусны яе паслухмяна раскрываліся і яна адказвала сардэчна, чула і аддана. Цяпер жа тыя самыя вусны былі нецярплівыя, бытта Іра некуды спяшалася, бытта не хацела мяне пакрыўдзіць і толькі таму паддалася. Спахопліваюся: усе канікулы яна такая — як бы баялася, каб я да яе не дакрануўся!

— Знайшоў час прыставаць! — вырываецца праз хвіліну. Пастаяла, паслухала: — О, першы канцэрт Чайкоўскага нехта на піяніна іграе над намі! Эх, як бы я хацела паслухаць зараз добрую музыку! — уздыхае ўжо лагодней.— Ідзі займайся сваімі справамі, табе ж сёння ехаць!

Дарэмна напамінаць. Я фактычна ўвесь жыву дарогай. Магнітам цягне паспрабаваць здзейсніць сваю задуму — што атрымаецца?.. Успамінаю сваё рабочае месца, стосік паперы, спакойную атмасферу ў пакоі ды

вобразы, якія пачынаюць паўставаць перад вачыма, і — нібы пасля доўгай разлукі, я ўжо ўвесь рыхтуюся, нецярпліва чакаю спаткання з усім гэтым — бытта з каханай!

## 6.

Вечарам збіраемся ўсе дома. Сын ужо спіць.

— Што табе прыслаць? — пытаюся ў Марынкі.

— Фатагра-афій з кінаартысткамі!

— Я знаёмы з некаторымі. Яны жывуць побач са мной. Прыедзеш у госці з мамай, то пакажу іх табе.

— Ой, пра-аўда?! — дачка аж падскоквае ад шчасця.

— Няўжо буду цябе ашукваць? Абавязкова пазнаёмлю... Го, а чаго ж ты ўжо гэтак пасмутнела?

— А-ай, тата! Усё роўна ў двары мне ніхто не паверыць, што іх бачыла! Лепш прышлі фота!

Я зарагатаў.

Іра не рассмяялася і на гэты раз...

Здаецца, я яе разумею. Зноў пакідаю адну з дзецьмі. Мае частыя прыезды толькі дабаўлялі ёй турбот: кожны раз збірай мужа ў дарогу, праводзь, каб потым зноў акунуцца самотнай маладой кабеціне ў клопаты. Толькі наладзіць рытм сям'і, толькі прызвычаіцца да новага парадку, ды ўсё ёй разбураю...

Але ж ці мне аднаму патрэбна гэта вучоба? Ці не яна падбівала мяне на курсы, не малявала таго, што будзе, калі я стану доктарам?

Адправіўшы дачку спаць, жонка праводзіць мяне да поезда.

Пакідаем у купэ чамаданы ды вяртаемся на перон. Стаім і маўчым. Робіцца надта шкада жонку, адчуваю сябе вінаватым. У кішэні ляжаў спіс рэчаў, каторыя я меўся купіць у Маскве ды прывезці наступным разам. Вымаю паперку, каб упэўніцца, што яна са мной, чытаю:

— «Пласцінкі Рахманінава. Бетховена. Чайкоўскага. Сро-дак на моль. Пальчаткі шостага памеру...» — усё табе дастану, будзь спакойнай...

— Можаш не даставаць, нічога мне не трэ-эб...— праглы-нае яна камяк ды адводзіць поўныя слёз вочы.

Прыкідваюся пакрыўджаным. Бо, на самай справе, гісто-рыя з Паўлам і Любай далі мне зарадку, дадалі якойсьці ўпэўне-насці ды зрабілі нячулым да нападак. Усе навакольныя падзеі мераю з пункту гледжання гэтай трагедыі.

— Чаго ты, Іра?! Ведаеш, якую цікавую тэму знайшоў я на канікулах? Клад! З-за адной яе варта было прыязджаць з Масквы! Такую жанчыну мала назваць гераіняй...

— Дзесьці-то ты знаходзіш, толькі каля свайго носа нічога не бачыш!

Я прамаўчаў. Іра дома рабіла выгляд, што вельмі занятая. А калі я закрываў чамадан ды зыркнуў убок, то выразна ўба-чыў, як грымаснічала перад люстэркам. На твары тады ў яе не было і ценю стомленасці. Яна шчасліва бліскала вачыма, бытта да некага ўсміхалася. Цяпер усё гэта я ўспамінаю, і мяне да-віць крыўда.

Адным словам, абое чакаем, калі нарэшце адыдзе той поезд. Час цягнецца невыносна доўга.

Ля ўвахода ў вагон пачынае буяніць маладзенькі афіцэр марфлота. Гэта нам як бы наруку, і мы паварочваем галовы. Афіцэр абдымаецца з нейкім тыпам, лаецца ды штурхае пасажыраў налева і направа. Іра адчувае, што не змагу ўстаяць на месцы, хапае мяне за руку,

накідваецца:

— Стой, не пушчу!.. Ёсць на гэта міліцыя, вайсковыя патрулі, яны і разбяруцца!

Яе філасофія мяне злуе. Збіраюся вырваць руку, ды бачу пажылога міліцыянера з планкамі ордэнскіх калодачак.

— Маладыя людзі, нядобра так сябе паводзіць! — па-бацькоўску звяртаецца ён да буянаў.— Вы ж тут не адны...

Марак узвісквае:

— Старшы сяржант, як размаўляеце з лейтэнантам? Ану, стаць смірна!

Ад яго нахабнасці людзі нямеюць. Міліцыянер паныла змаўкае ды самотна ідзе прэч.

— Нягоднік! — памкнуўся я да п'янага.

Іра ўшчаперваецца за рукаў мацней. Мяне ўсяго аж трасе ад абурэння і злосці цяпер ужо на жонку:

— Пусці!

— Не пушчу!.. Да чужых людзей ты, нябось, надта ўважлі-вы! — гаворыць яна ўжо з нянавісцю.

Каб не пасварыцца зусім, бяру сябе ў рукі ды гавару амаль спакойна:

— Дарэмна затрымала! Мы б яго з міліцыянерам скруцілі!

— Чаму ты пра мяне так не клапоцішся, як аб іншых?! — голас Іры ўздрыгвае.

— Ну чаго ты, Іра, увесь час такая раздражнёная! Яшчэ не хапала, каб мы нагаварылі адно другому чорт ведае што якраз цяпер, на развітанне!

— Жывеш — нібы ўдава, няма да каго нават загаварыць. Чакаеш, чакаеш яго, а ён кажа, што завітаў у дом не да

цябе, а — з-за нейкай там бабы! — заплакала.

— Даслухай! — дзіўлюся я разгублена.

— Другі раз з вакзала адразу ідзі да яе! — як бы радуецца яна.— Дамоў можаш цяпер і не заходзіць! Ужо яна цябе будзе чакаць!

— Што ты мелеш?!

— Усё роўна з цябе карысці дома — нуль!

Ірын выбух — лепшы за маўчанне. Ведаю з вопыту — зараз з яе выйдзе горыч, і тады яна зноў стане ласкавай ды развaж-лівай. Толькі патрэбен час, а поезд вось-вось адправіцца. Ці не здаць білеты ў касу, не паехаць заўтра?

Аб'яўляюць адпраўленне.

— Ладна, едзь ужо сабе ў сваю Маскву!— уздыхае яна з папрокам.

Мне здаецца, што Іра адно цяпер адкінула ўсе капрызы, драбязу і, нарэшце, збіраецца нешта сказаць, але замала мае часу. Нерашуча тапчуся. Яна зразумела — я ведаю, што яна нешта хавае, і гэта прыносіць ёй мсцівае задавальненне.

— Сядай, сяда-ай, што ўжо з табой зро-обіш!..— падштур-хоўвае мяне.

Ускокваю на падножку.

Упрытык да вагонаў стаяць праважатыя. Вагоны рушылі, і гэтыя людзі адсталі. Іра адыходзіць далей ад пуці, бяжыць па пероне, махае рукой. Мы заўсёды так праводзім адно другога. Яна бяжыць доўга, покуль не канчаецца перон, тады штосьці крычыць. Выхіляюся з вагона.

— Косця, ты мяне болей не кахаеш? — далятаюць яе словы.— Што са мной бу-удзе, Ко-осця?!

— А ў чым справа?! — ледзь не да паловы корпуса высоў-ваюся з акна. Ліха на яго, выходзіць — яна сапраўды нешта недаказала?!

Мяне раптам кранае якоесьці прадчуванне. Хочацца павыкідваць праз акно чамаданы і выскачыць з вагона, покуль не набраў поезд хуткасці.

Перабіраючы ўсё ў памяці, потым я не раз сябе папракаў, чаму тады не выскачыў— было б усё ў парадку. Але ж я тады паддаўся эгаістычнаму самалюбству. Разважаў прыкладна так: столькі збыткавала з мяне, выбіла з настрою, а цяпер адумалася? Позна! Пацярпі і ты крыху — табе гэта карысна!

Задаволены помстай, вяртаюся ў купэ. Там — дзве маладзенькія прыгажуні. Дзяўчаты ажыўлена шчабечуць, але бачаць чужога дзядзьку і адразу робяцца сціплымі школьніцамі. Заставацца з імі нязручна.

**7.**

Выходжу ў калідор і спыпяюся ля акна. Агні горада зніклі, за акном — цемень, няма за што зачапіцца воку. Я яшчэ злую на жонку, аднак у глыбіні душы адчуваю сябе вінаватым. Каб не прыдумваць на Іру кепскіх слоў, стараюся адцягнуць сваю ўвагу на іншае.

Шкадую міліцыянера. Уяўляю сабе бывалага чалавека, які цяпер якраз валачэцца ў дзяжурку з пачуццём, бытта яго аплявалі. Азіраюся, шукаю вачыма афіцэра-малакасоса. У калідоры — нікога з дарослых. Уздыхаю. Чуваць, як малады голас з усходнім акцэнтам дурачыцца з правадніцай:

— Па-ачыму міне лаіш? Адын узбэк на цэлы вагон, і ты яго лаіш? Па-ачыму так?!

Непадалёку якаясьці дзяўчынка ў спаднічцы паверх

лыж-ных шараварaў палахліва кранае пальчыкамі панікеляваны прэнт для занавесак, гладзіць узор на сценках вагона. Яна вельмі нагадвае мне дачку з яе праблемай: «Ай, усё роўна ніхто ў двары мне не паверыць, што бачыла актрысу і размаўляла з ёю!..»

Дзяўчынцы падміргваю.

Перад вачыма зноў паўстае Іра. Бяжыць па пероне ды махае рукой, бытта выцірае шыбу. Апошнія словы яе гучалі роспачлівым крыкам у цемры і прасілі ратунку. Мог жа я сказаць нешта добрае, каб вярнулася шчаслівая дадому, горла шкадаваў? Цяпер будзе хадзіць па горадзе і мучыцца...

Чаму на свеце так зроблена, што такое простае, як пару цёплых слоў, якія могуць узаскрэсіць чалавека, часамі і кляш-чамі з нас не выцягнеш?! Зрэшты, блізкія людзі не павінны быць такімі дробязнымі, Іра, вядома, даруе і гэты раз. Яна, бедная, перажыла столькі, што і пра яе можна напісаць добрую кніжку.

Хто бываў на раённых нарадах ці ў райвыканкомах у пасляваенны час, той не мог не бачыць у нас жанчыны з галавой, абвязанай цёплай шэрай хусткай, у растаптаных валёнках і ў старамодным паліто ў талію. На перапынку гэтая жанчына прагна смактала цыгарку ў кампаніі з мужыкамі, як роўная з роўнымі. Яна мела звычку ўбіраць галаву ў плечы ды зацягвацца папяросай так, што трашчала махорка, млелі вочы. Дакурыўшы, зноў гатова была рынуцца на спрэчку. Толькі ўвечары перад кім-небудзь дзівілася:

— То ўжо но-оч?! Ой, а я раніцой як узяла кавалак хлеба ў рот, так больш яшчэ нічога і не ела!.. Ды ў мяне ж заўтра даклад перад выбаршчыкамі, калі мне рыхтавацца?!

Прыбыўшы на кватэру, садзілася канспекціраваць. Калі ж зморваў сон, яна з паўгадзіны драмала. Прачыналася ды зноў выпісвала цытаты. А раніцой, усхапіўшыся з кушэткі, скубла пару разоў грэбнем свае жорсткія валасы, хавала іх пад хустку ды, праглынуўшы што-

небудзь на хаду, імчала на працу, сельвыканком ці ў брыгаду. З дзесяткам людзей на перапынках пачынала размову і ні адной не паспявала кончыць.

Гэта была Кама Вацлаваўна — Ірына маці.

Да вайны паміж сходамі і нарадамі Кама нарадзіла дачку Іру і сына Івана. Ей не было часу ўдзяляць ім увагі. Дзецьмі заапекаваліся блізкія і далёкія сваякі ды знаёмыя.

Настала вайна.

Першым поездам Кама Вацлаваўца адправіла малых у тыл, будучы ўпэўненай, што ў цяжкі для Радзімы час яна гэтым споўніла мацярынскі абавязак, пасля чаго ўключылася ў эвакуацыю заводаў ды ўстаноў. Яе дзеці самі пакутавалі па прыфрантавых дарогах, разбітых вакзалах, у абгарэлых вагонах, перапоўненых вёсках, іх апекавалі людзі.

Пасля вайны маці дзяцей знайшла ў дзетдоме. Прывёзшы малых да сябе, яна хадзіла за імі, сюсюкала, падлешчвалася ды надта перажывала, што яны цураюцца. Цяпер ужо нельга было, пакінуўшы на цэлы дзень ежы, замкнуць іх у кватэры ды ляцець на работу, як да вайны,— вылезуць праз акно.

На рабоце нехта заўважыў, што Кама Вацлаваўна «здала пазіцыі». Начальства ёй зрабіла вымову. Бедная кабеціна вінавата прамаўчала, аддала дзяцей пад нагляд суседак і зноў прападала па вёсках і на нарадах. Надзіва, дзецям гэта спадабалася. Нездарма яны прайшлі франтавыя дарогі: цэлымі тыднямі маглі жыць ледзь не на адным сухім хлебе і кільцы.

Сын рабіў электроліз вады ды страляў грымучым газам. Прывалок шчаня і вучыў яго па камандзе брахаць. Змайстраваў адмысловы лук, спрабаваў яго дома на сценах, шафе, а потым папрастрэльваў нават падручнікі. Затым Ваня знайшоў сабе кампанію. Сталі паступаць ад настаўнікаў скаргі. Урэшце яго выключылі са школы. Хлапец матляўся нейкі час без заняткаў,

покуль не ўзяўся за розум. Паехаў у Мурманск, паступіў у марское вучылішча, скончыў яго і ўжо каторы год плаваў памочнікам капітана рыбалоўнага сейнера.

Гэтым часам Іра, прыгледзеўшыся да адносін сябровак з мацяркамі, стала прыходзіць дадому і гарнуцца да маці. Жанчына палохалася, разгублена цярпела выбухі доччынай ласкі ды адчувала сябе гэтак, бы нешта крала.

Скончыўшы сяк-так школу, Іра паступіла ў інстытут. Там мы і пазнаёміліся — я быў аспірантам, а яна — студэнткай. У Іры заўважалася развітая здольнасць адклікацца на ўвагу чу-жых. Прызвычаеная да апекі выпадковых людзей, яна і падрос-шы была да ўсіх даверлівай і непасрэднай. Я — старэйшы за яе на пятнаццаць гадоў дзядзька, які прайшоў агні і воды, стаў ёй адразу і бацькам, і братам, і мужам...

Надзіва, у Іры, якая сама не зазнала сямейнага шчасця ды цяпла, абудзіліся буйны інстынкт мацярынства і здольнасці гаспадыні. У самыя цяжкія для нас абаіх дні яна ўмела стварыць дома атмасферу радасці і дастатку. Гадоў сем пражылі мы абое ў згодзе і спакоі, покуль не захапіла мяне цалкам навуковая праца. Вось тут я, мабыць, нешта ўпусціў, Іра пачала жыць як бы сваім жыццём, а я — сваім...

Нам трэба было шчыра пагаварыць. Нічога, прыеду на месца і адразу напішу жонцы доўгае і цёплае пісьмо.

## 8.

Ад таго, што я сам сябе супакоіў ды прыняў рашэнне, адразу робіцца лягчэй. Думкі пайшлі ў іншым напрамку.

Цікава, чаму кніжак, як маладыя знаёміліся, кахаліся ці адно за аднаго змагаліся — тысячы, а пра тое, як жывуць па-тым, гэтак мала? Што за прычына гэтай з'явы? Няўжо чытачоў цікавіць адно той перыяд, калі маладыя імкнуцца да збліжэн-ня? Жаніцьба ж не

завяршае біялагічную дзейнасць пары, яна — адзін толькі з этапаў на доўгім і складаным шляху яе існавання.

Расце матэрыяльны ўзровень чалавека. Клопаты аб сям'і пастпова бярэ на сябе грамадства, дзяржава, і ўсё больш чалавек вызваляецца ад турбот, а перыяд змагання аднаго партнёра за другога ў рамках адной пары расцягваецца. Што ж, продкам нашым не было калі высвятляць адносіны — іх займалі праблемы хлеба, жылля, мажлівасць спаткання з драпежнікам. Аднак і зараз трапляюцца людзі, для якіх усё жыццё — цярпенне.

От бы вывесці ў кнізе такіх, як Іра: яны ні ў дзяцінстве, ні цяпер не маюць спакою. А які з яе цудоўны чалавек і маці — сардэчная, клапатлівая, старанная, сумленная, якая з яе чысцёха... Што — нявытрыманая? Характэрная жаночая рыса!.. Мне часта падабаюцца ў ёй гэтыя выбухі спантанныя!..

Правёўшы мужа, яна там недзе зараз паклала дзяцей спаць, паплакала, вядома, папераджывала ды села рыхтавацца да ўрокаў, а пасля — правяраць сшыткі. Потым будзе зашы-ваць, мыць, скрабці, чысціць, сушыць. Яшчэ загляне ў якую-небудзь кніжку. Наставіць будзільнік і... Раніцой настроіць на цэлы дзень малых ды адправіцца ў школу.

Гэтак — дзень у дзень! Звар'яваць можна. Застаўся нейкі жаль у душы да Іры, крыўда за тое, што нагаварыла столькі глупстваў? Ну і што, перажыву! Жыццё ў яе — бы на перадавой.

У будзённых клопатах такіх гаротніц убачыць добрае і вялікае надта цяжка, бо яно пакрыта штодзённай турботай, губляецца ў дробязных капфліктах. Аднак чаму ж не паказаць і ў гэтым гераізм, адданасць справе, прыгажосць?

Паспрабую зрабіць гэта потым. Усё залежыць ад таго, як пойдзе гісторыя Макарэвічаў.

У чамадане ляжыць папка з матэрыяламі. Толькі цяпер успамінаю, там — паперка з апавяданнем знаёмага.

У ліпені 1941 трапіў ён у віленскі лагер палонных. Немцы іх вадзілі ачышчаць савецкі склад з кажухамі. Гітлераўцам тэр-мінова спатрэбіліся баракі склада, а немцы былі так упэўнены ў хуткай перамозе, што кажухі здаліся ім зусім непатрэбнымі: цэлы тыдзень палонныя вывалаквалі іх на двор, складвалі ў сцірты, аблівалі бензінам і... палілі.

Сярод зняволеных размяшчу і Паўла.

У мяне — амаль гатовы раздзел з перажываннямі героя ў першы тыдзень няволі! Вось мой Макарэвіч валочыць кажухі разам з іншымі і дзівіцца: дзе ж нямецкая гаспадарлівасць, эканомнасць, руплівая прадбачлівасць? У гэты момант падыхо-дзіць да іх франтаваты вартавы ды самаўпэўнена кажа:

«Паліце, паліце гэтае смецце, усё роўна да зімы — рускім капут!»

Ад думкі, што мяне чакае новы твор і рабочы ціхі пакой, дзе застануся сям-насам з маімі героямі ды вобразамі, мяне разбіраюць знаёмыя дрыжыкі. Пачынаю спяваць. Рабіць гэта можна і без гукаў. Мпе падабаецца спяваць ва ўяўленні пад стук колаў у дарозе, у аўтобусе, пад шум вады з кранаў у лазні, і тады ў мяне атрымліваецца надта здорава. Вось і зараз выводжу мысленна фантастычнай прыгажосці мелодыі.

З цемры выскачылі агні. Праз хвіліну іх становіцца многа. У моры святла паказваюцца будынкі — карпусы цукровага за-вода. Выбягаюць з купэ мае суседкі ды прыпадаюць да акна. Толькі цяпер разглядаю, што яны даволі звычайныя дзяўчаты. Гэта мне ўжо столькі гадоў, калі кожная маладзенькая дзяўчына здаецца прыгажуняй.

— Во, тыя дамы — я будавала! І тыя парніковыя рамы! — паказвае сяброўцы рыжаваценькая таўстушка.— А там унь — наш завод! Тут — бальніца! Гэты будынак —

кантора. А вось адсюль як пачнуць ісці цукровыя буракі, так да самай вясны!

— З горбаў, што ляжаць?

— Яшчэ іх няма — не навязлі! Там ляжыць вапнавы камень. Яго ў цукар дабаўляюць.

— Каб цяжэйшы быў? — жартуе нехта з калідора.

— Не-е! — абураецца таўстушка.— Каб быў белы. Яго ме-люць, разбаўляюць содай на малако...

— З каменю можна малако зрабіць?

— Мо-ожна!

— Гм, не ведаў!..

Добры дыялог. Шкада, не выкарыстаеш у гісторыі з Мака-рэвічам. Мо спатрэбіцца іншым разам, трэ абавязкова запі-саць... Памяць маю слабую, нічога ёй не давяраю, усё заношу ў блакноты. Яны заўсёды са мной і розныя: для дыялогаў, для фактаў, для замалёвак з натуры...

Неўзабаве дзяўчаты з чамаданамі выходзяць. На іх месца ўносіць чамадан нейкая дама.

Нас цяпер двое.

Сярэдніх год жанчына знімае плашч, кладзе на верхнюю паліцу матрац ды збіраецца туды лезці.

— Што вы, што вы, кладзіцеся на маё месца, а наверх палезу я! — уступаю незнаёмай сваю паліцу.

— Дзякуй,— кажа абыякава.— Здаецца, і другая ніжняя свабодная, не трэба наверх узнімацца і вам.

— А і праўда! — бяруся пераносіць сваю пасцель. Жанчына вяртаецца з туалета пераапранутая ўжо, кладзецца на коўдру ды бярэ кніжку. На ёй кофта без рукавоў, распушчаная русая каса, молада завернутая на грудзі. Ува мне абуджаецца якаясьці нездаровая

клапатлівасць аб ёй. З перабольшанай стараннасцю аглядваю акно:

— Ці не прасквазіць нас ноччу?

— Яшчэ на дварэ цяпло,— кажа яна зноў абыякава.

Далей едзем і маўчым.

Я ляжу на другой лаўцы, разглядваю часопіс. Паміма волі мае вочы зыркаюць на белыя плечы суседкі. Выразна адчуваю прахалоду яе рук, плячэй, шаўкавістасць валасоў.

«Цьфу, чорт, я ж — бацька амаль дарослых дзяцей!» — лаю сябе за грэшныя думкі ды рашуча бяруся чытаць абзац спачатку.

Мне ўдаецца ўлавіць сэнс артыкула, але толькі на хвіліну. Цяпер ужо адчуваю нават рукамі пругкае супраціўленне, падатлівасць трапяткога цела.

«Мне нельга гэтага рабіць!» — кажу сабе без пераканання. Як у сне, бачу Ірын твар і гляджу на яе з нейкім помслівым здавальненнем...

Жанчына як бы насцярожваецца, кладзе сабе на грудзі кніжку ды пачынае са мной гутарку.

Гадзіны тры мы вельмі ветліва і ажыўлена гутарым пра сёе-тое, а мяне не пакідаюць упартыя імкненні. Ліха на яго, што здарылася, са мной жа такога ніколі не бывала?!

Спыняецца поезд у Смаленску. Успамінаю — трэба абавязкова даць тэлеграму каменданту інтэрната; прымушаю сябе гэты флірт абарваць. Прашу прабачэння ў спадарожніцы, накідваю на сябе паліто, выходжу з купэ.

У калідоры натыкаюся на заплаканую жанчыну з вырванымі гузікамі на світэры. Правадніца падводзіць да яе міліцыянера і на хаду апавядае:

— Вось да гэтай, што плача, п'яны прыставаў! Ламаў рукі, лез цалавацца. Яны былі толькі ўдваіх у купэ...

Нейкая жанчына каля мяне кажа другой:

— І са мной так аднойчы было!.. Як прыстаў, як прыстаў нейкі тып — нават і не п'яны!.. Міліцыю таксама давялося вы-клікаць!.. А спачатку прыкідваўся такім клапатлівым, галант-ным — чамаданы мне ўладкаваў, нават сваю ніжнюю полку мне ўступіў... Не-е, больш адна з мужыком у купэ не сяду ні за якія скарбы!..

Крочу ўжо на пошту неяк вінавата, няўпэўнена, бытта злодзей. Зноў адчуваю нібы крыўду на Іру, нібы страх...

**9.**

У інтэрнаце прачынаюся раніцой ад думкі, што мяне нешта чакае прыемнае. З затоенай радасцю, каб не спужаць прыемнасць, пачынаю прыдумваць цэлыя вузлы твора і адчуваю іх ужо нават напісанымі. Нават яшчэ і радуюся, што так здорава ў мяне атрымліваецца.

Не церпіцца хутчэй сесці за справу. Ды трэба ісці на заняткі, і я збіраюся.

У двары нікога з курсантаў ужо не відаць, мяне толькі апераджаюць студэнты інстытута псіхалогіі. З імі курсанты жывуць у адным будынку. Па даручэнню прафкома я праводжу з моладдзю «мерапрыемствы», і студэнты мяне добра ведаюць. Заўважаю, што маё вока сёння — вострае на дэталі, а сам я — узбуджаны, ва ўзнёслым настроі.

— Ой, з прыездам! Добры дзень, Канстанцін Мікалаевіч! — вітаецца дзяўчына.

— Тамара? Добры дзень. Як свята правяла?

— Канікулы? Цудо-оўна! На веласіпедзе каталася! Адсыпа-лася. Кніжкі чытала! І нават маме не

дапамагала!

— Нішто сабе дачка...

— А мне мама не дазваляла ні за што ,брацца! — шчыра апраўдваецца дзяўчына.— Во — дванаццаты тралейбус, бяжым, яшчэ паспеем!

— Ты сабе бяжы, а мне — няёмка...

— Бывайце!..

З лёгкасцю маёй Марынкі студэнтка ляціць па тратуары, пераскоквае лужыну. Перад посам машын пераШмыгвае вуліцу ды вось ужо — на аўтобусным прыпынку. Шафёр лаецца, але зараз жа зачыняе дзверы, і голас яго абрываецца. Неўзабаве перад маімі вачыма праплывае ўжо бітком набітая машына. Тамара стаіць упрытык да ўзлахмачанага юнака і гарэзліва ўсміхаецца.

Яна — не проста рагатуха. Аднойчы на бульвары ля помні-ка ўбачыў яе з букетам. Поўнымі таямнічай заклапочанасці вачыма кагосьці выглядвала.

Ішоў я бульварам у наступны дзень, а дзяўчына стаіць зноў. І толькі тут мяне штосьці штурханула, я здагадаўся — яна нікога не чакае, выдумала сабе такую гульню!..

Маёй Любе Макарэвіч-Гарошка патрэбны сяброўкі. Тамары якраз не хапала ў кніжку!

Ціснуся ў наступны тралейбус, хапаюся за панікеляваную перакладзіну. Побач з маёй рукой трымаецца за гэтую самую перакладзіну рука другая — з нейкім надпісам. Прыглядваюся.

Амаль на ўсю шырыню кісці сінім густым пункцірам выведзена сэрца, а ў ім бутэлька, дзве шклянкі ды вакол словы: «ЭТО НАС ГУБИТ». Рука мускулістая, поўная маладой сакаві-тасці, з цёмнымі варсінкамі...

Мяне нібы маланка паражае. У майго героя таксама

будзе татуіроўка на руцэ, толькі, вядома, тэкст прыдумаю іншы!.. Можа, і на выгляд гэты чалавек падыдзе да Макарэвіча?

Людзі стаяць так цесна, што нельга разабрацца, каму размаляваная рука належыць. Ад таго, што я кручуся, каб убачыць твар незнаёмага, азіраецца студэнтка Юля з нашага інтэрната.

— Гэта вы-ы, Канстанцін Мікалаевіч?!— шэпча ўзрадава-ная.— Ой, як добра, што вы ўжо вярнуліся! Бо я даўно збіралася да вас, каб пахваліцца!

— Калі ласка, з прыемнасцю раздзялю з вамі радасць. Мо кажыце цяпер?

— Ой, ведаеце, я пасябравала з адным маладым чалаве-кам! — пачынае з захапленнем.

— Віншую.

— Ён так клапоціцца, так дбае пра мяне!..

— Гэта рэдка бывае сярод мужчын цяпер. Вельмі рады за вас...

— Ой, каб вам толькі змагла расказаць, які ён сардэчны, які чулы, уважлівы, шчодры, шляхотны, высакаро-одны!..— думае хвіліну — падбірае новыя эпітэты.

Што яна вярзе?!

На самай справе дзяўчыну зачараваў аболтус. Ён — гуляка і хам, ды казалі, што ў горадзе мае сабе яшчэ некалькі жонак. Да Юлі прыходзіць, каб нажэрціся, выцыганіць грошай, і тады бедная Юля лётае па ўсіх сямі паверхах інтэрната, пазычае. За вочы дзяўчыну ўсе шкадуюць, часамі з яе пасмейваюцца, але з жаласці пазычаюць, колькі хто можа. З роспаччу на сэрцы з-за яе не раз пазычаў дзяўчыне і я, не знаходзячы адвагі сказаць ёй пра тое, што аб усім гэтым думаю.

— Я такая цяпер шчаслі-івая, мне так до-обра!— усё з тым жа захапленнем выдыхае. Голас і вочы ў Юлі

шчырыя, чыстыя, натхнёныя.

Разгублена азіраючыся на студэнтку, маўчу. Тая ходзіць з кветкамі да помніка, гэтая — хама прыняла за прынца...

«Гм, Тамара і Юля — адзін закопчаны літаратурны тып? Іх жа можна аб'яднаць?!»

Выходжу на бульвар. Заходжу за ліпу, дастаю блакнот ды пачынаю запісваць. Мной валодае пачуццё, бытта сёння рані-цой я натрапіў на залатую жылу. Здаецца, я — самы багаты ча-лавек у Маскве. На прахожых гляджу звысоку, з палітаваннем.

## 10.

На курсах машчуся ў зале ля апошняга стала.

За трыбуну заходзіць лектар — вялізны, пажылы армянін у чорным касцюме і вогненна-чырвоным світэры.

«Новае аб інтуіцыі» — тэма яго лекцыі. Усё, аб чым ён можа сказаць, ведаю яшчэ з інстытута. З прац нашых і зарубежных вучоных усё гэта добра ведаюць і мае сябры. Большасць курсантаў пасля лёгкіх пратэстаў бярэцца пісаць нешта сваё, а хто — чытаць свежыя газеты ды часопісы. Мабыць, толькі адзіны чалавек слухаў лекцыю армяніна ўважліва.

Перада мной сядзела загадчыца кафедры з Разані і ста-ранна вяла канспект. Вечарам у інтэрнаце яго зубрыла да рані-цы, каб толькі яе пахвалілі на семінары. Пасля кожнага семіна-ра атрымлівала з дому тэлеграму: «Машанька віншуем пяцёркай цешымся тваёй адукацыяй тата мама». А скончыла ж два фа-культэты, сама выкладала псіхалогію ў нейкай ВНУ...

Навошта перапяваць тое самае і даводзіць сябе да атупен-ня? Паглыбляць веды можна без канца. На

асвету чалавека ўплывае розум, які выкарыстоўвае гэтыя самыя веды, уплывае і сэрца, сумленне, чаго механічным зубрэннем не нажывеш аніяк. Ці не таму Машыны артыкулы сухія, бедныя, а чытаць іх — адно мучэнне? Асвета, адукацыя, інтэлект — дар свабоды і вольнага часу, яны ўдыхаюцца намі як паветра, на іх працуюць не прадбачаныя ні ў якіх праграмах фактары.

Гэтак разважаю між іншым. А ў душы бушуе, бытта ў мяне высокая тэмпература.

Для кафедры псіхалогіі спатрэбілася неяк шыльда. Яна ме-лася вісець пасярэдзіне калідора, на вачах студэнтаў і выклад-чыкаў, таму было не ўсё роўна, якой будзе. Якую мне заказаць? Карычневы фон? Чорную дошку і сярэбраныя літары?..

Пытанне не давала спакою некалькі дзён.

Аднойчы прачынаюся сярод ночы з настроем, бытта мяне спасцігла вялікая ўдача. Пачынаю разбірацца — адкуль гэты настрой? Ага, снілася, бытта бачыў шыльду ўжо на дзвярах свайго кабінета. Шыльда — малочна-белая з чорнымі літарамі.

Толькі цяпер спахапіўся, што на фоне сініх дзвярэй такая шыльда ў інстытуце будзе не крыклівай — сціплай і прыгожай. І вось скажыце, спаў я, а нейкая звіліна мозгу працавала па ра-ней зададзенай праграме. Знайшла вырашэнне, падала сігнал, таму я і прачнуўся. Гм, прарочы сон, інтуіцыя, а на самай справе — усё такое звычайнае.

Узаемасувязь чалавечага вопыту, ведаў, логікі, характараў з працэсам і механікай узнікнення нечаканага рашэння, з тлумачэннем гэтай з'явы, з паказам, як выглядае гэтае пытанне ў працах псіхолагаў нашых і замежных — вось пра што трэба гаварыць армяніну, а не пераважоўваць старое!

Зрэшты, такое «выкладанне» мае і дадатны бок,— прыму-шае нас саміх думаць ды шукаць ісціну. Толькі ж як можна гэтак адносіцца да лекцыі?

Нахабнік!

Тым часам аўдыторыю ўсё напаўняе голас выкладчыка. І далей у ягонай прамове думкі неглыбокія, факты нецікавыя, а найбольш — агульных фраз. У барацьбе за існаванне ён набыў спецыялыіы стыль. Вось зыркае ў канспект, схоплівае абзац ды пераносіць позірк на курсантаў, на акно, аж на столь — маскіруецца, што чытае сказ па памяці.

— Нават вялікі Эйнштэйн сцвярджаў, што адкрыццё можа наступіць не як вынік лагічнага мыслення. Шырока вядомыя выпадкі, калі той ці другі вучоны прыходзіў да вырашэння складаных тэарэтычных праблем...

Армянін пачынае абзац паціху. Паступова яго пракураны голас мацнее. Праз хвіліну сіплы бас напаўняе аўдыторыю і да-ходзіць да такога крэшчэнда, што ты нікуды не можаш падзец-ца, ужо глядзіш выкладчыку ў рот з трывогай. Яму не хапае па-ветра, бедны, становіцца на наскі туфляў, вочы лезуць аж на лоб...

І ўжо замiраюць аўтаручкі над канспектамі. Ад-кладваюцца газеты ды часопісы, а дзесяткі пар ва-чэй насцярожваюцца з трывогай. Выкладчык падскоквае, курчам жывата збірае рэшткі паветра і апошні-мі дыхамі канчае фразу.

У зале ад аблягчэння варушацца людзі.

Вельмі яскравы тып. Толькі куды яго выкарыстаць?

Ага, Макарэвіч — курсант, адну дысцыпліну ў іх выкладае такі самы армянін у чырвоным світэры...

Трэба яго абавязкова запісаць — як знайду потым. У калідоры празвінела.

**11.**

Курсанты хлынулі на перапынак.

У тым жа ўзнёслым настроі, не чуючы пад сабой ног, плы-ву за ўсімі ў калідор і я. Гэта не школа, не інстытут. Прыехалі мы сюды не на кароткі час, узросту ўсе саліднага, таму сярод курсантаў знаёмства вонкавае. Узбуджанасць яшчэ больш аддзяляе мяне ад людзей. Сябры паўстаюць перада мной, як сілуэты. Для студэнтаў сённяшнія курсанты — поўныя таямнічага арэолу і мудрасці асобы, а для мяне — звычайныя людзі са сваімі недахопамі.

Унь казахскі псіхолаг катае з паперы шарык, каб запусціць у лысіну суседа — сябра з Уфы.

Грузінскі аўтар папулярных артыкулаў у «Технике молоде-жи» таямніча ўсміхаецца і нешта шэпча на вуха вучонай з Гродна — прыгожай, элегантнай брунетцы ў тым узросце, калі жанчыны асабліва ўмеюць падабацца, бо паспелі добра вывучыць свае козыры.

Петразаводскі таварыш у акулярах — курсавы філосаф — сабраў грамадку і развівае новую тэорыю.

Малдаванка бегае па паркеце ды ўважліва цікуе: стараец-ца адгадаць, якое ўражанне выклікае ў мужчын яе новая прычоска.

Смуглы іранец падпёр сцяну, тупа глядзіць у даль ды абыякава чакае званка.

А вунь ляціць з блакнотам у руцэ да тэлефона аўтар кніжкі па псіхалогіі; апрача дзелавітасці, у яго ледзь прыкметнае шчаслівае ззянне твару, вачэй, якое бывае толькі ў таго, хто мае поспех у людзей ды ўпэўнены, што ўсе яго прызнаюць.

Самы ж малы ростам новасібірскі вучоны ходзіць ад кампаніі да кампаніі, спрабуе расказаць анекдот, ды ад яго адмахваюцца, як ад назойлівай мухі.

Дакладна так маглі б сябе паводзіць настаўнікі ў час пе-рапынку на семінары ці на любых курсах па павышэнні ква-ліфікацыі. Пра загадчыкаў сталовых нічога не

ведаю, жыцця іх не назіраў, таму Любу Гарошка трэба зрабіць настаўніцай...

— Станкевіч, да начальства!— крычыць стараста. Даводзіцца ісці ў канцылярыю. Там нас чакае той самы выкладчык. Ты глядзі, аднак ён адчуў, што з усяе аўдыторыі я найлепш яго разгадаў-—у вачах армяніна нешта ліслівае.

— Вы зможаце выступіць на семінары? — пытаецца мяне вінавата.

Я магу выступаць адно тады, калі грунтоўна падрыхтуюся. Сядзець зараз ды пісаць даклад, марнаваць час якраз цяпер — злачынства!

— Не надта...

— У яго — творчае натхненне!— заступаецца за мяне стараста не то жартам, не то ўсур'ёз.

— Ацэнку за даклад буду ставіць, як за экзамен! — заахвочваў армянін.

Гэта азначае, што ў канцы семінара не трэба прасіць у разанскай Машы канспектаў, перачытваць нудныя падручнікі, што абрыдлі мне дастаткова, калі быў яшчэ студэнтам...

— На якую тэму? — цікаўлюся асцярожна.

— Вы — чалавек эмацыянальны, таму выбірайце тэму сабе па густу!

— ?!

— Няхай даложыць аб працэсе творчасці і натхнення! — загараецца стараста.

— Ліха яго ведае, мо паспрабаваць?

— Смялей! Пашукайце толькі выказванняў па гэтым пытанні ў класікаў!

— Цытат ён назбірае больш за іншых! — іранізуе

стараста.

Армянін іроніі не заўважае:

— Да наступнай лекцыі паспееце?

— Пастараюся...

— Тады лічым — дамовіліся!

У аўдыторыю вяртаюся незадаволены і ў той жа час абра-даваны: пісанне рамана ўдалося адцягнуць яшчэ на нейкі час. Вельмі ж прыемна заставацца ў стадыі пошукаў, мар і хвалявання.

**12.**

Дык што ж такое творчасць? Ліха яго ведае! Каб не было ў гэтым сакрэтаў, усе парабіліся б артыстамі, мастакамі, пісьмен-нікамі. Таямніца гэта і для мяне. Магу толькі, як іншыя, падвесці да гэтай таямніцы. Святой. Складанай. Глыбокай. Незразумелай...

Я цвёрда ўпэўнены, што творчасць абавязана не так асобе аўтара, як прыродзе чалавека.

Нядаўна я прачытаў у акадэміка Энгельгарта, што твор-часць — вынік дзеяння інстынкту, калі чалавек знаходзіць па-трэбу ў творчасці гэтаксама, як дзіця імкнецца пераадольваць перашкоды, як рыбы — плыць супроць цячэння горнай рэчкі.

Па Паўлаву творчасць — рэфлекс мэты: «Основа формы жизненной энергии каждого из нас. Жизнь тому красна, кто все время стремится к постоянно достигаемой, но никогда не достижимой цели...»

Выходзіць, кожнага чалавека прырода ўзнагародзіла здольнасцю тварыць. Зрэшты, многія і не ламаюць галаву над такім пытаннем, бо знайшлі сабе лёгкі і бесклапотны шлях — піць гарэлку, «заганяць казла»,

хадзіць на паляванне...

Спазнанне, спасціжэнне невядомага, нязведанага — такая ж сіла, як каханне і голад.

Вучонага штурхае да дзеяння ўпэўненасць, што кожны міг на дарозе да спазнання невядомага прывядзе да авалодання сіламі прыроды, падпарадкаванню іх патрэбе чалавека. Асноў-ны стымул вучонага — жаданне ўнесці яснасць, упарадкаваць нашае хаатычнае ўяўленне аб свеце. «Разоблаченных тайн живой родник их утолит в бессонной жажде знаний!» (Валерый Брусаў).

Яшчэ далей ідзе праяўленне чалавечага духу (інстынкту мэты) у пісьменніка, калі мастак-літаратар бачыць чалавека ў цэлым, са здольнасцю, скажам, да матэматыкі, вынаходніцтва і з цягай да рыбалкі ці, напрыклад, да шахмат...

Здольнасць да творчасці — найвышэйшы дар, які́м узнага-родзіла прырода чалавека на доўгім шляху свайго развіцця. Акадэмік Энгельгарт, перафразіраваўшы вядомую прымаўку, дадае: «Чалавек для творчасці створаны, як птушка для палёту!»

Па сіле і глыбіні радасці, якія дае чалавеку творчая праца, яна, мабыць,— самае высокае і магутнае пачуццё задаволе-насці, якое можа адно паспытаць жызая істота. Творчасць — найбагацейшая крыніца радасці. З гэтага боку, вядома, вучоны — шчаслівец. Радасць уласнае перамогі над тэмай тут зліваецца з усведамленнем, што ёю ты ўзбагачаеш людзей.

Анатомы адкрылі: косць нашай галёнкі можа вытрымаць дваццаціпяціразовую вагу нашага цела! І такі запас моцнасці ў нашым арганізме наогул. Напрыклад, чалавек выкарыстоўвае толькі пяць працэнтаў таго, што можа яму даць мозг!

Выяўляецца, прырода аб нас, дзякуй богу, паклапацілася. Увесь сэнс у тым, мабыць, каб карыстацца не пяццю-сямю пра-цэнтамі сваіх

магчымасцей, а — усімі сто. Толькі не лянуйся, не шукай лёгкіх шляхоў, не мокні ў піўных, не складвай рукі пры першай няўдачы, дабудзь з сябе ўсе сілы — і ты абавязкова нечага даб'ешся.

Калі творчасць — праяўленне інстынкту, дык поспехі і намаганні аўтара галоўным чынам зводзяцца да таго, што ён дае магчымасць сваім здольнасцям развівацца ў той час, калі іншыя б'юць бімбікі...

Так разумею гэтае пытанне цяпер, становячыся вучоным. Бо мой творчы інстынкт зараз знаходзіць выйсце ў праблемных артыкулах, што хвалююць чытачоў, як у час студэнцтва я зна-ходзіў сябе ў грамадскай рабоце, а да вайны — на бацькоўскай гаспадарцы.

Гэта ўсё так. Але многае яшчэ залежыць і ад абставін, якія штурхаюць чалавека на адкрыцці, пісанне кніжак...

Пра творчасць будзе што сказаць.

Ліха на яго, чаму ж так бывае, што сядзіш і пішаш дзень і ноч, месяц, паўгода, тэма перад табой развіваецца па ланцуго-вай рэакцыі, то зноў надыдзе на цябе перыяд ляноты, калі пісьма дамоў не можаш скласці, хоць ведаеш: толькі вазьміся за тэму — і будзе вельмі прыемна, тым не менш — зноў нічога не робіш?! Прычына ўсяму — натхненне? А што гэта такое, і адкуль яно прыходзіць, адкуль яго чакаць?..

Аб чым гаварыць на семінары? Будзе ж слухаць сорак вучоных, не аскандаліцца б!

Падумаеш пра даклад — робіцца страшна. Ад эмацыяналь-най узбуджанасці пачынаюць дробненька выстукваць зубы. Гэты стан мне добра вядомы з дзяцінства, з вайны, па экзаменах у інстытуце...

Часамі табе здаецца ўсё пастылым і сумным, а свет нямілым ды ўжо не хочацца жыць. Варта, каб што-небудзь цябе кранула, адразу эмоцыі настрояць на мажорны лад, і той самы свет ты ўжо бачыш цалкам

іншым.

Чалавек не скажа ў звычайных умовах таго, што вырвецца ў яго з душы ў перыяд эмацыянальнага ўздыму.

А мо творчасць ідзе не ад міфічнага натхнення, а ад гэтых самых эмоцый, што нараджаюць у чалавеку страх, самалюб-ства, пачуццё абавязку, гонару, патрыятызму ці — імкненне праславіцца, якое тоіцца на душы кожнага чалавека?

У вайну сам бачыў, як людзі са страху рабілі геройскія ўчынкі. Менавіта з-за эмацыянальнага ўзбуджэння, а не з-за разумнай і халоднай развагі — розум якраз гаварыў бы чалаве-ку не лезці пад кулі, куды-небудзь зашыцца і перачакаць небяс-пеку. Вось чаму трэба, каб наш чалавек і грамадзянін быў эма-цыянальна багаты.

На свеце шмат кніжак, скульптур, карцін, навуковых прац. Ступень якасці кожнай рэчы, яе прыдатнасць грамадству залежыць ад развітасці аўтара, яго культурнага ўзроўню, характару, здольнасці, ну і безумоўна,— ад сілы напалу эмоцый, якія ён абудзіў у сабе, калі тварыў рэч. Менавіта яны дапамаглі аўтару дабыць з сябе ўсё, што пакоілася ў тайніках яго душы. А ў комплексе ўсе гэтыя якасці мы, мабыць, і называем — талентам.

Я ўжо ў добра мне вядомым творчым настроі. Я ўпэўнены — будзе пра што сказаць.

Толькі ж, ліха на яго, зноў закавыка: тэму мне навязалі, а хіба можна тварыць па заказу?

А чаму б і не? Колькі сярод нашых курсантаў сумленных вучоных, якія пішуць выдатныя працы для часопісаў толькі та-ды, калі ў іх на руках умовы з рэдакцыяй! Афіцыйная паперка з пячаткай абавязвае чалавека прынесці ў вызначаны тэрмін рукапіс, у аўтара ад гэтага нараджаецца пачуццё самадысцып-ліны і эмоцыі выклікаюць працаздольнасць, як заданне армяніна выклікала ў мяне ўжо цэлую буру пачуццяў.

Успамінаецца даўно пачуты факт.

Сусветныя шэдэўры «Страшны суд», «Сікстынская мадон-на» — створаны Мікеланджэла па заказу. Выходзіць, і ў геніяў такая самая канструкцыя ў механіцы пачуццяў, такі самы склад душы? Вядома, такі!

У чым жа тады сакрэт папулярнасці мастака? Мабыць, у характары прафесіі. У часы Льва Талстога былі, напрыклад, артысты не менш таленавітыя і перадавыя за яснапалянскага графа, але іх творчасць не пержыла іхнюю смерць. Пасля вучонага застаюцца адкрыцці, пасля пісьменніка — кніжкі, а пасля такога артыста — толькі ўспаміны, жыццё якіх, як вядома, кароткае.

Цікава — натхненне можна арганізаваць, а гэта азначае — прадбачыць. Вось у мяне ўжо абвостраная ўвага да новай тэмы, пра якую сёння раніцой яшчэ і не думаў. Пачынаю заўважаць рэчы, што раней, напэўна, прапусціў бы міма вачэй.

Перапынак яшчэ не скончыўся. У калідоры гудзе, як у вул-лі. Каля мягіе калега з Новасібірска штосьці разумнае сказаў, петразаводскі таварыш адразу пачынае з ім спрачацца. І было відочна, што спрачацца няма чаго, але апанент хоча ўтрымаць марку філосафа, узяць верх, таму ў яго знаходзіцца ўжо столькі аргументаў і так ён мадуліруе голас, махае рукамі ды есць ва-чыма маленькага ростам праціўніка, што той, бедны, здаецца.

У «філосафа» — самалюбства, прага ўсіх нас уразіць. Усё гэта спарадзіла эмоцыі, а яны мабілізавалі ўсе здольнасці арганізма, каб даказаць тое, чаго, здаецца, даказаць нельга.

**13.**

Еду зноў тралейбусам.

Побач са мной дзяўчына нервова перабірае апошнія ста-ронкі кніжкі. У добрым творы з першага абзаца які-небудзь факт запальвае ў табе эмоцыі, ты пачуеш асалоду і вось ужо абудзілася фантазія, памяць. Табе становяцца блізкімі апісанні, сітуацыі, псіхалагічныя моманты, якія калі-небудзь перажыў ты сам. Уяўленне дапаўняе няясна сказанае, і пайшло-паехала.

Эмацыянальна напісаная кніжка выклікае цікавасць таму, што запальвае эмоцыі чытача.

Перада мной сядзіць пара закаханых. І з імі адбылося нешта падобнае. Ён яе нечым уразіў, і яна пачала пра яго крыху думаць. Гэтае «крыху» ўзрадзіла ў дзяўчыны эмоцыі, тым больш што яны аж прасіліся адклікнуцца. А хлапец на гэта — ніякай рэакцыі. У яе ўзнікла пакрыўджаная гордасць — жадан-не давесці сваё, а ўсё спарадзіла новыя эмоцыі ды прыёмы. На-рэшце яна звярнула на сябе ўвагу жаданага, і яны зблізіліся. Але зблізку ён паказаўся зусім іншым, чым той герой, якога яна вынасіла ў сэрцы. Абвостраная фантазія ды ўяўленне дамалява-лі яго, сцёрлі розніцу з запаветным. І наступіў такі момант, калі мы скажам: яна ў яго закахалася.

Кажуць, той, хто можа закахацца,— таленавіты. Мабыць, гэта праўда, бо таленавітасць і эмацыянальнасць ходзяць разам. А мо гэта адно і тое самае?..

...Пазвалі Паўла ў канцылярыю. Валачэцца ён туды з-за калючага дроту згаладнелы, чорны — адно скура ды косці (рэмень адабралі, усе гузікі адрэзалі, і ўжо даўно не хадзіў у туалет — ні па малому ні па большаму, бо мізэрную колькасць таго харчу, які яму ўдавалася здабываць, яго малады арганізм засвойваў увесь, без астатку). Павел дзівіцца, да чаго дайшоў — пальцамі абедзвюх рук можа абхапіць сябе ў поясе!

У канцылярыі яго чакае адкормлены славянін у светла-карычневым, з іголачкі, мундзіры, а на рукаве ў яго бялеюць літары «РОА» (Русская освободительная армия). Прадажнік ро-дам з якога-небудзь суседняга з

Паўлам раёна, скончыў гэтаксама школу чырвоных камандзіраў, прымаў прысягу перад чырвоным сцягам з партрэтам Леніна, а цяпер вось ён — на службе ў фашыстаў.

Тып цынічна ўсміхаецца, ляскае бізуном па далоні ды са здзекам пытаецца:

— Ну, Макарэвіч, будзеш яшчэ трымацца ці расколешся? Дапамагчы?..

У «дахадзягі» Паўла звычайная чалавечая гордасць выклі-кае эмоцыі: ах ты, гадзіна, хочаш, каб і я такім стаў? Трэ было набіць морду мярзотніку, ды Павел адчувае, што «зямляк» зваліць яго з ног адным пальцам.

А праз хвіліну «землячок» ужо катуе палоннага. Але эмацыянальнае абурэнне дадае лейтэнанту новай сілы ды яшчэ большай упартасці. Млее цела, ды ён поўны лютасці і рэшткамі свядомасці сабе ўнушае: не, ніколі! Адпаведна стану напружа-насці нерваў з'яўляюцца сілы. Дарэмна злуецца прадажнік — Паўла агортвае асалода перамогі над ім.

У адной кніжцы Бальзака спешчаная і далікатная герца-гіня ў адчаі ламае тонкімі, зусім не трэніраванымі пальчыкамі стальныя прэнты турэмных кратаў.

Біёлагі тлумачаць: у такія моманты адбываецца «выбух мышц», калі працуюць абсалютна ўсе клеткі, мабілізуюцца рэ-сурсы арганізма, перадаецца ў кроў увесь цукар, павышаецца нават тэмпература. А з пункту гледжання псіхолага ў герцагіні наступіў момант звычайнага афекту.

Такое здарылася і з Макарэвічам на допыце.

Вось і ў аўтара ўсё ідзе не ад міфічнага натхнення. Вучо-ны, артыст ці пісьменнік — чалавек, які здольны эмацыянальна ўзбуджацца да такой ступені, калі яму становіцца даступным многае.

Узровень таленту, відаць, залежыць і ад памераў ці

дыяпа-зону эмацыянальнай узбуджанасці, а таксама ад патэнцыяль-най магчымасці, якая тоіцца ў аўтару да пары, покуль эмацыя-нальная напружанасць зачэрпвае матэрыял для вобразаў.

Апынаюся ў метро.

Чамусьці найлепшыя ідэі мне прыходзяць у галаву, калі я куды-небудзь іду ці еду. Людзей тады не заўважаю, знаходжуся — нібы ў лесе, а тэмп навакольнага жыцця па нейкай індукцыі перадаецца і мне, напальвае нервы ды прыспешвае думкі. Адно пасля гэтага баліць галава. Як, напрыклад, і зараз.

Каб крыху развеяцца, накіроўваюся ў цэнтральную залу Маскоўскага Дома вучоных на вечар. Эскалатар нясе мяне ўверх. Я ў метро, трымаюся за гумовую стужку поручня ды стараюся пазбавіцца ад назойлівай і дакучлівай ідэі. Гума паступова адносіць руку, я вымушаны час ад часу брацца за іншае месца, бо прыступкі чорнай стужкі рухаюцца не сінхрон-на з поручнем. Прыладжваюся нарэшце да рытму тэхнікі, узнімаю галаву і дзіўлюся.

Каля мяне стаіць красуня. І такая, што не адвесці вачэй. Дзяўчына адчувае мой позірк, штучна загаварыла да сяброўкі, і адразу прыгажосць яе кудысьці знікае.

Дзіўна.

З іншымі бывае наадварот. Ведаю адну маладзіцу без таліі, з плоскімі грудзямі, з зямлістым тварам, вялікімі вуснамі і доў-гім носам. Варта толькі звярнуць на яе ўвагу, як яна раптоўна мяняецца. Тады ў яе з'яўляюцца і мяккасць, і грацыя, і жаночая прывабнасць, і душэўнасць, а вочы прамянеюць ужо ласкай, нават вусны свяжэюць, як у дзіцяці, а твар — ружавее. Бо і ёй хочацца быць прывабнай, і паслужлівыя эмоцыі мабілізуюць увесь арганізм. Талент у такой — падобны таленту вучонага, мастака?..

Глянеш, на выгляд аўтар маленькі, хілы і слабы, а вывеў у кніжцы свайго галоўнага героя волатам ды гэтак

падрабязна, бытта сам бываў у яго шкуры — эмацыянальнасць дае магчымасць аўтару пабыць у вобразе свайго героя.

### 14.

Ужо цямнела, калі я выбраўся з метро на вуліцу, дзе знахо-дзіцца Дом вучоных. Ля ўвахода чакае галоўны ўрач нашай бальніцы. Ён тут таксама на курсах, толькі на кароткатэрмі-новых — у інстытуце груднай хірургіі. Днём я пазваніў яму, што маю білеты на сустрэчу з пераможцамі алімпійскіх гульняў.

Распранаемся ў гардэробе ды займаем месцы ў зале. Да трыбуны падыходзіць няскладная дзяўчына, пачынае няўмела, нудна апавядаць свае прыгоды:

— Ну, далі старт, і я гляджу: бягу ззаду ўсіх. Ну, думаю, навошта сюды ехала, толькі каб пячыся ў гэтай гарачыні ды яшчэ апошняй прыйсці да фінішу?! Але балельшчыкі як закрычаць на мяне: «Давай, Жэня, давай!..» Аднекуль з'явіліся і сілы, і я ўсіх з лёгкасцю неспадзяванай абагнала!

Дарагая, гэтыя ж самыя балельшчыкі абудзілі ў табе эмо-цыі! Вось чаму ў дні адказных матчаў важна, каб былі поўныя стадыёны народу!

У перапынак выходзім у калідор. Мой практычны сябра пачынае да ўсяго прыглядацца і ацэньваць. Нават нагінаецца ды мацае дыван, зайздросціць:

— А то-оўстыя!.. От бы мне такія ў бальніцу — ні гуку не пачуў бы ніхто ў будынку!.. Цікава, падлогу яны паліруюць кожны дзень?

— Не ведаю...

Зямляк бачыць на паркеце акурак:

— Ну-у, закурыў бы гэтак у мяне, нягоднік, я б яго ў два

шчо-оты!..

Чалавек мяне кранае. Пачынае сябе лаяць, што не ўдзяляў яму ўвагі, і знаходжуся ў стане трызнення.

— Уладзімір Макаравіч, у грудным інстытуце шмат нова-га? Цікавыя ў вас там людзі?

Урач уздыхае:

— Розныя!.. А ўчора аднаго хірурга-хулігана нават выту-рылі адтуль!.. Але таленаві-іты-ы, бадзя-ага-а, столькі адкры-ыццяў зрабіў!

— То і ў вашай прафесіі могуць быць хуліганы?

— Разумееце, калі ў мяне памрэ чалавек на стале, я тыд-нямі не знаходжу сабе месца. Нават у сям'і ў мяне жалоба!.. А гэты пачаў аперацыю, хворы пад пажом сканаў, а ён ужо крычыць: «Хутчэй нясіце другога!» Памёр другі — і ён: «Трэцяга сюды!..» І трэці памёр... Але ж таленаві-іты, як той чорт! Колькі ён новага ўнёс у аперацыю сэрца! Штук восем кніжак пра свае адкрыцці ўжо выдаў, ды якія — пайдзі ў кніжныя магазіны ды знайдзі іх!.. Па яго метаду ўратавалі не адну тысячу людзей! Яго ў Англію выклікалі на паўгода!..

Хірурга эмоцыі давялі да такой стадыі, што хворыя ў яго сталі трупамі для доследаў.

Стараюся, як магу, выпытаць у сябра пра тое, што мяне цікавіць. Эмоцыі і мне дапамагаюць. Раптам адчуваю, якім зрабіўся хітрым, цярплівым, настойлівым, і ў выніку сябра працягвае дзяліцца вопытам:

— Аднойчы выклікаў мяне следчы, каб я даў яму заклю-чэнне аб адной арыштаванай. Няшчасная кабеціна ўчудзіла ліха ведае што. Праўда, на гэта былі ў яе свае прычыны. П'яніца-муж з яе надта здзекаваўся. Жонка старалася, як магла, адвучыць яго ад гарэлкі, ужывала розныя спосабы і сродкі, але — усё дарэмна. Тады суседкі параілі яшчэ адзін спосаб — самы правераны, цётка вырашыла яшчэ і яго выпрабаваць. Калі муж зноў прывалокся п'яным ды стаў буяніць, кабеціна паклала

свайго няўдалага на ложак ды прывязала ручнікамі. Раніцой п'яніца прачнуўся ды папрасіў пахмяліцца. Няшчасная кабеціна кажа: «Зараз ты ў мяне пахмелішся! Так цябе пахмялю, што больш ніколі не захочаш!..» Завязала яму рот, прывалакла з сяней тачыла — давай тачыць сякеру і прыгаворваць: «Мучыў ты, злыдзень, мяне дваццаць гадоў, праз цябе не магла данасіць ні адно дзіця, ні дня, ні ночы не мела спакою, але цяпер разлічуся за ўсё! Маліся!» Жанчына накінула мужу на вочы хустку і лёгка ўдарыла па лобе валёнкам. Муж адразу і богу душу аддаў. Яна — у крык! З плачам прыляцела ў міліцыю ды пра ўсё расказала. Я следчаму адразу і заявіў: тут профіль не мой, а — неўрапатолага, бо забіла алкаша не кабеціна, а самыя звычайныя эмоцыі страху стэрарызаванага і вінаватага чалавека.

Ліха на яго, як усё атрымліваецца!

А можа быць і наадварот. У вайну цяжка паранены лётчык аднойчы пасадзіў з намі на аэрадром машыну, упэўніўся, што ўсе ў ёй цэлыя, жывыя, ды толькі тады памёр!

Відаць, самыя магутныя эмоцыі могуць узбудзіць інстынкт мацярынства.

Адправілася Люба Гарошка з партызанамі на заданне. Зіма, усе перамерзлі, стаміліся і згаладнелі. Пры пераправе лодку льдзінамі перакуліла, ды абладаваную вінтоўкамі, патро-намі, гранатамі, толам маладзічку адразу пацягнула ў ледзяную твань. Рэшткамі сілы яна ўстрапянулася, вынырнула, трапіла галавой у дно лодкі і — зноў патанула. Болей не было ні магчымасці, ні жадання ратавацца. Адразу захлынулася ды адчула, што траціць прытомнасць — канец. Але тут раптам перад вачыма паўстала светлая галоўка дачкі, успомніла пакінутую ў старой малую, жахнулася — што будзе са Святланкай?! Ад гэтай думкі партызанка адразу апрытомнела.

Аж за чацвёртым разам, ужо з поўнымі лёгкімі вады, яна з усім ладункам на плячах нарэшце выплыла, паказалася паміж ільдзін. «Люба, Макарэвіч, лезь да

нас!» — узрадаваліся таварышы, хапілі яе за мокоы каўнер ды ўзвалаклі на абсмоленае дно да сябе. Даплыла яна з хлопцамі так да берага і толькі тут дазволіла сабе такую раскошу — самлець.

Мая мама была даволі здаровая жанчына, ды памерла недарэчна. У апошні час я назіраў у яе апатыю, яна страціла да ўсяго цікавасць, бо галоўная мэта яе жыцця — дзеці к таму часу вывучыліся, пажаніліся, павыходзілі ў людзі, мала яе і наведвалі. Мама адчула сябе сярод нас як бы лішняй, а тут надарыўся выпадак пазбавіцца ад зямных клопатаў: выйшаў са строю нейкі вінцік арганізма. Не дапамаглі ні ўрачы... ні лякарствы, ні бальніцы, і ўступіў у дзеянне адвечны механізм прыроды — самаліквідацыя з-за непатрэбнасці! Самае трагіка-мічпае тое, што калі б у той момант, як яна злягла, здарылася няшчасце са мной, з братам ці з сёстрамі, то ў ёй абудзіліся б эмоцыі, якія мабілізавалі б яе сілы, ад чаго напэўна мама выздаравела б ды дапамагла б катораму-небудзь з нас, як гэта рабіла заўсёды ў цяжкі час...

**15.**

Вяртаюся з хірургам дамоў. Я задаволены: ужо добра ведаю, пра што гаварыць на семінары. Толькі абавязкова трэба заглянуць у знцыклапедыі, паглядзець апошнія працы і пра тое, як цяпер тлумачаць значэнне слова «эмоцыі».

Еду ды ўкладаю сабе ў галаве, які прыклад за якім упішу заўтра ў даклад. Мяне зноў разбірае радаснае хваляванне, якое крыху прытупілася ад навязанага даклада,— да вечара яго скончу, а там што рабіць?..

Ці не напісаць лепш кніжачку аб эмоцыях? Папулярную, з простымі цікавымі прыкладамі, даступную для кожнага? Гэта ж мне бліжэй і зручней, чым раман!..

Уладзіміру Макаравічу спатрэбілася зайсці на пошту.

— Жонцы пазваню...— тлумачыць.— Дадуць наш горад хутка, зараз і паедзем!.. Гаварыць доўга нам не прыйдзецца.

Спахопліваюся — так і не напісаў Ірыне.

— А мне, думаеце, не трэба?.. Зойдзем разам, пазваню і я сваёй!

Ужо каля гадзіны ночы, калі тэлеграфістка злучыла мяне з кватэрай. У трубцы нейкі час чуюцца доўгія гудкі.

— Ало!.. Ало!.. Ало!!.

— Чуеце? Ніхто не адзываецца! — са спачуваннем заяўляе дзяжурная з міжгародняй.

— Званіце, званіце яшчэ! — малю жанчыну.— Гэта мая кватэра, я ведаю ў ёй парадкі, там напэўна зараз нехта ёсць!..

— Паспрабую...

Дарэмныя намаганні дзяжурнай — трубку не паднімаюць. Надта дзіўлюся: Іра ж у такі час павінна быць дома?!

— Мо заснула моцна,— супакойвае хірург,— спіць і сны бачыць.

— А што думаеце? Пасля працы...— прыкідваюся спакой-ным: Іра спіць вельмі чуйна.

Нічога не разумеючы, выходжу з кабіны, прапускаю туды сябра ды пачынаю мітусіцца па вестыбюлі. Чамусьці адно цяпер заўважаю ў пакоі дробязі. І ўсе адмоўныя.

Вышчарбленае настольнае шкло.

На плакаце, які крыва вісіць на сцяне, нехта веерам насадзіў агідных чарнільных плямак.

Паміж сцяной і партрэтам — шматок чорнага ад пылу павуціння.

Падлога не вельмі чыстая. Дошкі ўсохліся, са шчарбінамі.

У дзяжурнай за акенцам — патрэсканы лак на пазногцях...

Спалохана паварочваю.

Праз шкляныя дзверы кабіны відзён хірург. З выразам найшчаслівейшага чалавека ў свеце прыціскае да вуха трубку, глядзіць у мой бок, хаця мяне, вядома, не бачыць, бо ў гэты момант ён за тысячу кіламетраў адгэтуль, перанёсся да сваіх.

Страшэнна чалавеку зайздрошчу.

Раптам мяне агортвае жах — на якую халеру мне тыя эмоцыі, семінар, даклад?! Уздумаў займацца ліха ведае чым!.. Зрабілася невыносна сумна і ніякавата. Пацягнула да Іры, да дзяцей. Адначасна агортвае якісьці жудасны неспакой. Захаце-лася ехаць, бегчы, ляцець — папярэдзіць нейкае няшчасце ды небяспеку і бегчы, ляцець зараз жа, не заходзячы ў інтэрнат.

## Раздзел трэці

### 1.

Як і трэба было спадзявацца, Косця дома тады нездарма праседжваў дні і ночы: выдаў кніжку — «Малое і вялікае». Прыпала яна людзям да густу нават болей за папярэднія. Праз выдавецтва «Веды» кніжка разышлася па краіне стотысячным тыражом, надрукавалі яе нават у Польшчы, Венгрыі, Балгарыі і Францыі.

Яшчэ ў часопісе «Наука и жизнь» муж змясціў вялікую працу з працягам на сем нумароў — «Значэнне памяці ў жыцці чалавека», здаў яе для асобнага выдання і з

гэтым паехаў у Маскву на вучобу. Застаюся адна з двума малымі.

Мінае нейкі час.

...Я ўжо дырэктар вячэрняй школы. Пасада яўна не па ма-ім узросце, але энергіі ў мяне — хоць адымай. Мала такой на-грузкі, на лета іду яшчэ працаваць начальніцай піянерскага лагера, а выхавацелямі да сябе бяру сваіх настаўнікаў.

У школе рамонт, замена мэблі, папаўпенне кабінетаў, «выдзіранне» грошай у загадчыка РАНА, а ў лагеры — праблема агародніны, ягад, свежай смятаны для дзяцей. У лёгкім танным сарафане ды ў стаптаных басаножках, не зважаючы на несалід-насць свайго выгляду, лётаю паміж лесам і школай.

Выхаваўцы лагера самі лёгка апрануты. Але настаўнікі з тых, хто ўжо вярнуўся з адпачынку, глядзяць на свайго дырэк-тара са здзіўленнем: дзе строгі англійскі касцюм, дзе тыповая прычоска, дзе важнасць і саліднасць, дзе дырэктарская недаступнасць?

Касцюмы, вядома, ёсць, яны вісяць у шафе, а мне нават прыемна дражніць калег, заўважаць недаўменныя позіркі, пры-чына якіх для мяне здаецца так мала значнай. З захапленнем раблю сваё, лаўлю пахвалы бацькоў, чые дзеці адпачываюць у лагеры. Мала мне і гэтага: успамінаю з асалодай, як падабаецца вучням улада новага дырэктара, гэта значыць — мая, і ўспа-міны дадаюць новых сіл.

Нарэшце канчаецца лета, здаю лагер. Але прыбывае клопатаў у школе — хутка ж навучальны год! Я — і заггас, і маляр, і бухгалтар, і вербаўшчык, і вартаўнік...

І вось у адзін такі гарачы дзень, калі за сталом падлічваю плошчу пафарбаванай малярамі падлогі, каб можна было выпісваць ім аплату, да мяне ў канцылярыю вячэрняй школы ўваходзіць нейкі малады чалавек ды аб'яўляе:

— Мне дырэктара!

— Ён перад вамі.

— Я не жартую.

— І мне не да жартаў. Я сказала — ён перад вамі.

— Вы-ы?!.

Пасля хвіліны недаўмення чалавек падае нерашуча руку:

— Пятро Уладзіміравіч.

— Ірына Іванаўна...— з пытаннем узіраюся на яго, устаю і даю яму пацiснуць сваю далонь.— Скажыце, а чаму б мне дырэктарам і не быць?

— Не-е, вы мяне не зразумелі, Ірына Іванаўна! Наогул я нічога не маю супроць гэтага! — шчыра бароніцца ён.— Толькі, як жа — такі малады і прыгожы дырэктар?

— А-а!..

З выразу сур'ёзнага твару не то юнака, не то мужчыны вынікае, што госць мае нешта важнае сказаць. Ад перакanання ў слушнасці сваёй справы ён упэўнены да дзёрзкасці. Мяне падкупляюць яго пастава, шчырая рашучасць, зычнасць голасу, а найбольш за ўсё — дзіўна знаёмы позірк. Робіцца надта няём-ка за штапельны сарафан у чырвоную клетачку і за стаптаныя басаножкі. Адчуваю, як мяне залівае чырвань, горбяцца плечы, а ўся я бытта імкнуся залезці пад стол.

— Я — з «Інтурыста»,— даносіцца да мяне нібы скрозь імглу.

— З «Інтуры-ыста»?

— Так, ёсць такая арганізацыя ў нашым горадзе. Няўжо ніколі не чулі?

— Крыху пра яе чула... Але чым я вам?.. Чым вы нам?..

Якое вы да нас?..

— Зараз скажу. Слухайце. Учора ехалі галандцы. Нейкія дзве дзеўкі нахабна прыставалі да іх на вакзале, вешаліся чу-жаземцам на шыі. Сорам, як сябе паводзілі! Кажуць, яны — на-вучэнцы вашай школы. Пакідаць гэты выпадак без увагі, тава-рыш дырэктар, нельга! Зрабіце класны сход, ці што ў вас бы-вае, і дайце ім як трэба, няхай не ганьбуюць нашай моладзі!

— У нас жа няма заняткаў...

— Ведаю. Але праз які тыдзень вы ўжо зможаце гэта зрабіць?

— Бадай, можна...

Чалавек называе прозвішчы дзяўчат. Уздыхаю з палёгкай — незнаёмыя. У шэрых маладых вачах па хвіліну з'яўляецца заклапочанасць.

— Спытайце ў настаўнікаў, мо часамі хто іх ведае? І, прашу вас, тады пазваніце мне. Добра?

— Калі ласка!

— Запішыце тэлефоны!

— Давайце...

Покуль бяру ручку, наладжваю пяро, макаю ў чарніліцу, ён адводзіць вочы, і я адчуваю, што яго надта бянтэжаць мае голыя да плеч, незагарэлыя рукі. Штосьці запісваю ў настоль-ным календары, а на самай справе з пакутай чакаю, каб чалавек хутчэй сабе пайшоў. Тэмп яго гутаркі быў такі, што з пачатку візіту мінула мо ўсяго дзве мінуты. Маладому чалавеку няёмка адразу знікаць, ён хвіліну яшчэ топчацца:

— А прыемна тут у вас — чысціня-а, ці-іха!..

— Бо шчэ нікога няма! — падхопліваю.— Хутка напоўняц-ца калідоры ды класы галасамі!.. Зноў паабіваюць сцены, паломяць...

— О-о, уяўляю сабе!..

Болей гаварыць няма пра што, і ён усё ж такі выходзіць.

Абяссіленая, падаю ў крэсла. Такое пачуццё, бытта мяне хвіліну таму назад ударыла токам: аж задрыжэлі рукі і ногі. Бачу люстэрка. Мяне і цягне да яго паглядзецца, і чагосьці баюся. Адчуваю якісьці неспакой.

Раптам успамінаю: бо-ожа мі-ілы, дык гэта ж яго я бачыла ў сне!

Пару дзён таму назад сніла, бытта бы зайшла ў нейкую вя-сёлую кампанію і там, у далёкім кутку пакоя, сядзеў мужчына з вылупленымі на мяне вачыма. Ён так уставіўся ў мой бок, што яго позірк пацягнуў мяне, нібы магнітам. Ішла я тады доўга, ногі мае чамусьці запляталіся, і да чалавека адлегласць усё не мянялася, я ўсё бачыла перад сабой гэты цяжкі гіпнатычны позірк. Наступныя дні я была пад уражаннем гэтага ўпартага позірку і ніяк не магла ад яго адвязацца. Паступова пра ўсё забылася. І вось толькі што зноў убачыла тыя самыя вочы. Так, гэта яны! Успамінаецца ўся атмасфера жудаснага сну...

Прадчуванне? Што за ліха?!

Робіцца страшна-страшна і горача. Школьныя справы рап-там перастаюць цікавіць. Азіраю сваё ўбранне — я ж амаль раздзетая, ці звар'явала, што гэтак хаджу? Хутчэй дамоў — накінуць па сябе што-небудзь!

Клічу заггаса, даручаю яму разлічвацца з малярамі.

## 2.

Дома застаю Веру з Ігарам. Сяброўка прыйшла пажаліцца. Барыс ноччу ўварваўся ў кватэру, напалохаў сына, пабіў посуд і пабудзіў старых суседзяў.

— А сам такі брудны, абарваны. Я не вытрывала, надзела на яго ўсё чыстае, толькі тады праперла...

— Во-во! Цяпер ён і наступны раз прыйдзе!.. Трэ было адвадзіць — не пусціць нават на парог! Ты, Верка, надта добранькая, з-за гэтага і пакутуеш!..

— Самім лёсам наканавана мне пакутаваць, Іра,— не тое што табе, шчаслівай.

— Ну і ну! Знайшла каму зайздросціць! Таксама саламянай удавой жыву!

— Не грашы, сяброўка! Косця ж — вернецца! І можаш за яго быць спакойнай — у Маскве табе не здраджвае ні з кім!

— О-о, гэта — напэўна! У крайнім выпадку ходзіць там за прыгажунямі з блакнотам ды запісвае! Эх, нічога ты не разуме-еш у нашых адносінах!.. Не раз сабе думала: мажліва, лепш бы-ло б, калі б Косця там і глянуў на каго, як звычайны мужчына!..

— Ы-ы-ых, што ты вярзе-еш?!.

— Так, так! Давай прызнаемся сабе чэсна — мы з табой так створаны, што любім крыху быць раўнівымі: гэта, прынам-сі, асвяжае! А ўсе гэтыя так званыя выдатныя асобы цікавыя толькі для тых, хто пра іх любіць языком мянціць. Зблізку мой муж — нудны рабочы мул ды сумны аўтамат. Вернецца і зася-дзе за машынку, як пень, ды зноў не будзе да каго загаварыць, адвесці душу...

— Змоўкні, дурніца! Ы-ы-ы, што на цябе найшло, што за грэшныя думкі? Ты не ўмееш яго цаніць! За твайго Косцю тры-мацца трэба абедзвюма рукамі! Ён — асаблівы! Мала дапама-гае, цяжка з ім? Ад майго Барыса і сотні іншых такіх, выхо-дзіць, карысці больш?.. Павер мне, Ірка, самай адданай табе сяброўцы, такому, як твой чалавек, трэ служыць, як служылі нашыя сёстры ў манастырах госпаду богу!..

— А, хіба што... Тады мяне зусім не ведаеш. У

паслушніцы я не падыходжу.

Няма больш пра што з Верай гаварыць. Толькі цяпер заўважаю яе абмежаванасць. Слухаю яе далей, нешта раю, нават — спрачаюся, а сама перажываю ўжо каторы раз сон і дзіўнае спатканне ў канцылярыі. Раптам захацелася Косцю ўкалоць — напісаць пра выпадак. Зраблю гэта потым. Нават адчуваю задавальненые ад помсты.

Што мне зараз рабіць?

Ага, насамперш схаджу памыюся. Увечары нагрэю вады ды выкупаю дзяцей дома. А чым заняць на гэты час малых?

— Вера, няхай Ігар пайграецца з маімі, не будзеш жа браць хлопца ў школу! Ды і мае лепш будуць сябе разам адчуваць!..

— Няхай. Буду вяртацца — забяру.

Сяброўка праводзіць мяне да лазні. Што за сон, што за супадзенне?!

Вера пра штосьці безупынна гаворыць і гаворыць, я пры-кідваюся, бытта яе ўважліва слухаю, але не разумею ніводнага слова. Не магу авалодаць і сваім хваляваннем. Ды расказаць сяброўцы пра выпадак не магу таксама. А як ты пра яго раскажаш, калі яна ўсё расхвальвае і расхвальвае Косцю. Бытта яе завялі. Цяпер наогул не змагу з ёю быць шчырай. «Мілая Вера, няўжо надышоў канец нашай дружбе?! Даруй мне, але я нічога не магу з сабой зрабіць!..»

— Ну, бывай, мыцца пайшла!..

Прымаю ванну.

Праз хвіліну ўжо і распарылася. Мяне агортвае радаснае адчуванне свайго цела, я ўпершыню заўважаю гэтак выразна, што яно ў мяне свежае, ружовае. Ніколі яго яшчэ так не любіла. Дагэтуль свайго цела саромелася, а часцей за ўсё — не заўва-жала. Недарэчы

вельмі шкадую — чаму мяне ніхто не бачыць!

— Што за ліха? — пытаюся сама сябе ўголас. Кранае прадчуванне нечага дрэннага. Толькі трывога гэтая кволая. «А чаго мне трывожыцца? Зайшоў да мяне наведвальнік? Го, коль-кі іх ходзіць кожны дзень! Заўтра — нарада дырэктараў вячэр-ніх школ, на ёй магу вельмі проста даведацца, адкуль тыя дзве дзеўкі-лядашніцы, але ж навошта мне займацца гэтым, яшчэ малады чалавек што-небудзь сабе падумае?! Хітранькі, дай яму гатовае! Пашукай сам!..»

Успамінаю, які ў яго быў выраз твару, калі даведаўся, што я — дырэктарка. Пераможна рагачу. Да мяне зноў вяртаецца энергія ды бадзёрасць.

Ну і пасада ў мяне!

Між іншым, наведвальнік — інтэлігентны і мажны мужчы-на. З «Інтурыста». Мяне надта ж уражвае гэтае слова. За ім адчуваюцца экзатычныя краіны, народы... На нашым вакзале, калі прыходзяць замежныя паязды, па рэпрадуктары гавораць мо на васьмі мовах! У людзей з гэтай установы — цікавая работа, яны бачаць рамантычны, заманлівы свет. Хто там працуе, вядома, і не цэніць. Што ж, заўсёды так...

Аднойчы чакала з Мінска Косцю. Поезд спазняўся, і я падышла да касы замежных білетаў. Мне аж крыўдна зрабілася, што такі сабе звычайненькі лысы чалавечак-смецюшок кво-ленькім галаском звярнуўся да звычайнай касіркі з рэдзенькай «бабетай»:

— Мне ў Сірыю. На дваіх выпішце купейны. Чым плаціць? Мне лепш — у індыйскіх рупіях!..

З'ездзіць бы туды, сваімі вачыма паглядзець на тое, што ведаю толькі з кніжак. Пахадзіць бы па Луўры, Акропалі, Калізеі, паўзірацца на розных людзей! Даўно з Косцем збіраемся павандраваць па Еўропе, і ўсё аніяк не выходзіць. Мо і надарыцца магчымасць? Толькі куды дзяцей уладкаваць?..

Аднаго дня зайду ў кабінет да гэтага інтурыстаўскага начальніка ды пракажу:

— Вось — візы. Мне — два білеты да Рыма. Лепш нам у лірах падлічыце. У крайнім выпадку — у доларах...

І ўсё гэта скажу такім самым раўнадушным голасам, хоць на душы будзе неабыякава — выгляд на сябе напускаць умею, яшчэ як!

Зусім мажліва — так яно і будзе.

Ух як цікава жыць на свеце! Толькі што за супадзенне са сном, што за містыка?!

Па дарозе з лазні ногі мяне нясуць у касметычны кабінет, існаванпе якога дагэтуль я бытта і не заўважала. Тады купляю ў кіёску польскія часопісы з модамі. Добрую бялізну, свежую пасцель, тонкія пахі, модныя туфлі, прычоскі, кофты любіла і раней, але не прыдавала ім вялікага значэння, бо не прыдаваў значэння гэтаму Косця. Цяпер жа ва мне раптам абуджаецца жаданне нагвалт зрабіцца прывабнай. Цярпець ужо не магу на сабе трантаў, як і зразумець — як змагла на сябе іх надзець?!

Заношу сумку з мылам дамоў, адпраўляюся ў ашчадную касу. Затым ва універмагу купляю матэрыю адразу на дзве су-кенкі ды бягу да нашай настаўпіцы англійскай мовы, ультра-модніцы Кіры, каб спытацца адрас добрай краўчыхі. Ужо не магу апрануць яшчэ новую, але крыху не па модзе пашытую сукенку.

## 3.

З Ленінграда прыехаў сімфанічны аркестр. Тэатра, вядо-ма, у нашым горадзе ніколі і не было. Гасцям доўга шукалі памяшканне. Нарэшце на нядзелю аб'яўляюць у раённым Доме культуры так чаканы канцэрт.

Аматараў сімфанічнай музыкі ў нашым гарадку не

многа, сустракаючыся на канцэртах, мы ўжо ведаем адзін аднаго нават з твару. Знаёмага з «Інтурыста» я ўжо заўважыла на «Песнярах». Тое спатканне было для мяне нечаканым, была непадрыхтаваная ды так збянтэжылася, што цэлы канцэрт знаходзілася пад гэтым уражаннем. З-за гэтага добра не разгледзела і славутых артыстаў. Супакоілася тады толькі дома. Але цяпер аж загараюся ўся насцярожанай цікавасцю: калі спаткаемся зараз на канцэрце ленінградцаў, ці ўспомніць, што мы знаёмыя? Хавацца ўжо не стану — не буду дурной.

Настае нядзеля. Куды дзяваць дзяцей? Вера з сынам месца ненадзейнае — яшчэ прыйдзе п'яны Барыс і малых мне напалохае!

Бяру таксі, Віцю і Марынку вязу ў вёску да маці.

Мамы дома няма. Агорнутая ўсё тым жа ўзбуджаным не-спакоем, паспешлівасцю ды адчаем, што калі не паспею, то нешта надта важнае згублю, малю гаспадыню паназіраць за малымі, покуль вернецца іхняя бабка. Жанчына адразу садзіць іх са сваімі ўнукамі лушчыць фасолю.

Ну, дзякуй богу, з малымі — парадак. Выбягаю на вуліцу.

Імчыць грузавік. Упіваюся вачамі, гляджу на шафёра, бытта пазнаючы ў ім брата.

— Девушка, вам у горад? — паддаецца ён на маю хітрасць, але не адчуваю нават няёмкасці.

Праз пару мінут вяртаюся ў горад поўная ўздыму і хвалявання. За апошні час сваю краўчыху не раз здзіўляла выдумкамі фасонаў. Цяпер гэтыя ўбранні старанна прасую, прымяраю, так і гэтак прыладжваю.

Прыносяць пошту. Ладна, пагляджу потым...

Нарэшце, падрыхтаваная, выходжу ў тэатр і адчуваю, што, мабыць, ніколі ў жыцці так добра яшчэ не выглядала. Ка-лісьці, дурніца, саромелася нават новых

туфляў, новай сукенкі і цешылася з іх перад люстэркам, зачыніўшыся ў пакоі. Цяпер — наадварот! Вельмі прыемна сваім выглядам рабіць ураджанне навокал. Скурай адчуваю нават ветрык, які выклікаю сваёй хадой. Што ж, стала дарослай, як сказаў бы Косця. І я шчаслівая ад усведамлення, што вырасла, я — надта багатая.

Прадчуванне не ашукала.

У фае сустракаю знаёмага элегантнага мужчыну ў чорным гарнітуры. Ён ветліва кланяецца, і мы разыходзімся. Але і се-кунднага спаткання дастаткова. Плыву на крылах сярод нейкіх чароўных гукаў, паху духоў ды дзіўных вобразаў, поўных незям-ной раскошы і значнасці. Колькі гэтае лунанне працягваецца: секунду, гадзіну — не змагла б вызначыць.

На перапынку да мяне набліжаецца выкладчык гісторыі Сяргей Міхайлавіч.

— О-о, якая вы сімпатычная асоба! — крычыць здалёк.

— Толькі сёння заўважылі?

— Вінаваты!

— Вінаватых б'юць!

— Ахвотна панясу кару! Даю сваю галаву на адсячэнне — бярыце яе!

— Велікадушна вам дарую!

— Ірына Іванаўна,— пачынае ўжо таямніча.— Пойдзем, пазнаёмлю вас з маім найлепшым сябрам. Таксама, як і мы,— аматар класічнай музыкі.

Мяне агортвае з ног да галавы жудасны страх.

— Куды вы мяне валачэ-эце? — бытта бы дзіўлюся, інстынктыўна ўпіраючыся.

— Нічога, нічога, смялей! Я ведаю напэўна — ён вам

спадабаецца!

Сябра пераходзіць на шэпт ды робіцца паважным:

— Скончыў інстытут міжнародных адносін у Маскве. Валодае аж трыма замежнымі мовамі!

— О-о, палігло-от!..

— Бацька яго — былы дыпламат... Другі раз здзівіцца не паспяваю.

— А вось і ён сам! — Выкладчык ажыўляецца.— Ірына Іванаўна, перад вамі...

— Пятро Уладзіміравіч! — апярэджвае яго мужчына ў чор-ным гарнітуры ды працягвае руку.

Нешта гавару, што належыць казаць у такіх выпадках, падаю руку таксама і чырванею.

— Шчыра кажучы, Сяргей, то мы — знаёмыя!

— Ну-у?!

— Я заходзіў да Ірыны Іванаўны ў школу! І, калі быць дакладным, вельмі здзівіўся!

— Чаго-о? — прыкідваюся.

— Першы раз убачыў такога маладога ды абаяльнага на-чальніка. Слова гонару! Дырэктары школ — худыя зануды альбо мардатыя тыпы, а спаткаў — чароўную і сімпатычную істоту!..

— О-о, пра гэта мы ведаем даўно-о! — падхоплівае адразу гісторык.

А я адчуваю, як мяне залівае новая хваля чырвані, але цяпер ужо толькі ад таго, што ў гэтую хвіліну пачырванець мне выпадае. Бо я поўнасцю сабою валодаю. Сама з сябе нават дзіўлюся: як усё лоўка ў мяне атрымліваецца, і працягваю, як роўная з роўнымі, гульню. Пра тое, што абодвум мужчынам я нераўня, што парушаю прынятыя грамадствам правілы паво-дзін

замужняй жанчыны, што існуюць забароны, не хачу і ведаць. Бо так здараецца ўжо, што не бачыш, не хочаш бачыць мяжы і ты — шчаслівы.

На жаль, у гэты момант якраз тры разы звоняць, і мы разыходзімся па сваіх месцах.

Потым на вачах у людзей, цалкам занятыя сабой, цэлы перапынак ходзім утраіх у фае. Пятро Уладзіміравіч расказвае эпізод з дзяцінства:

— У вайну я быў яшчэ зусім малым і, памятаю, усё прасіў: «Мама, хачу бачыць партызан!.. Партызан пабачыць хачу!..» А яна: «Трэба, сынок, усю ноч не спаць, адно тады і ўбачыш!» А як жа ты спаць не будзеш у такім узросце? Але аднойчы маці мяне пабудзіла...

Я так уважліва яго слухаю! Жанчыны, калі хочуць каму-небудзь палесціць, дзівяцца кожнаму яго слову. І не спадзява-лася, што і з мяне такая тэатралка, што і я магу гэтак падтак-ваць, охаць ды ахаць.

— Ой, няўжо вы іх уба-ачылі?!. Раскажы-ыце!..

— Уявіце сабе! І нават добра памятаю тую ноч! — падхоп-лівае новы знаёмы.— Вось вам малюнак. Цьмяна гарыць газніч-ка. На кухні мама ў балейцы нешта сцірае, а ля ног яе валяецца цэлая гара чужой бялізны. На падлозе ў нашай хаце поўна саломы. На саломе ўпокат, абняўшы зброю, ляжаць змардава-ныя ўшчэнт дзядзькі і дружна храпуць. Спаўзаю з ложка і давай прыглядацца да іх бліжэй.

Доўга лазіў паміж імі, балюча стукаўся каленкамі аб прыклады і боты — хоць бы каторы прачнуўся! Паспрабаваў у бліжэйшага мужчыны пацягнуць аўтамат. Партызан праз сон нешта прамычэў ды паклаў на зброю галаву...

Я цалкам ужо асвоіўся. А была і ў мяне стрэльба. Шпулькай ад нітак пры дапамозе гумкі і шпяня пстрыкаў гарохам. Выняў я свой «пісталет», стрэліў ды

знячэўку трапіў партызану ў бараду. Чалавек як усхопіцца, а за ім — астатнія. Узняліся на ногі, ляскаюць зброяй, прыцішана пытаюцца:

«Дзе?.. Га?.. Што-о?!.»

Мама з кухні іх супакойвае: «Здало-ося вам!.. Спіце, хлопчыкі, шчэ нават пеўні не спявалі!..»

А я, перапалоханы,— шмыг пад коўдру. Толькі днём прызнаўся мацеры, што здарылася.

**4.**

Адна справа, калі чалавек выпадкова зойдзе да вас, працягне з-за традыцыі ці — службовага абавязку руку і назаве сябе. Але зусім іншая, калі потым выявіцца, што ён — блізкі сябра вашых блізкіх сяброў. Пры другім знаёмстве, калі табе яно яшчэ вельмі пажаданае, ты адразу багацееш і робішся якасна ўжо зусім іншым, чым быў учора.

Агульны знаёмы, які гэта мае часамі глыбокі сэнс і дае магчымасць зірнуць на чалавека яшчэ з аднаго боку!

З канцэрта крочу дамоў. Мяне даганяе Кіра — настаўніца англійскай мовы.

— Што за шыкарныя рыцары, Ірка, да цябе заляцаліся ў фае? — пытаецца з адценнем зайздрасці і папроку.— Перапын-кі ты правяла з імі ў такой цікавай гутарцы!..

— Сяргея Міхайлавіча ты ж ведаеш...

— А другі?

— Яго знаёмы.

— Шчаслівая. Я ніколі не сябравала з мужчынамі.

— Го! Ты ж — заўсёды ў іхняй кампаніі?!

— Гэта не тое. Цябе паважаюць, а мяне толькі жадаюць, — уздыхае.

Здзіўлена гляджу па настаўніцу.

— Гаворыш ты надта складана...

— Маўчы, нічога складанага тут няма! Так сябраваць, гаварыць пра ўсё і не адчуваць у сабе самкі? Здорава! Зай-здрошчу!

— То і ты так паспрабуй!

— Якая ты, Іра, дзіўная. Калі б побач са мной быў такі абаяльны малады чалавек, нават як Сяргей Міхайлавіч, і то я з ім не магла б адно сябраваць. Стала б яму адразу...

Да Кіры ў мяне даўняя, яшчэ школьная крыўда.

— А ён, між іншым, сказаў, што ў цябе гэта на лобе ўсё напісана! — помшчу.

— Праўда, казаў?

— Ага.

Яна хвіліну думае ды зноў уздыхае:

— Усё роўна зайздрошчу.

А я, дурная, лічыла яе самым шчаслівым чалавекам на зямлі і таксама зайздросціла.

Аднак Кіра ведае замежныя мовы. Эх, мне б іх ведаць. Як прыдаліся б, калі пачнём з Косцем ездзіць па свеце! Некалі ў пятым класе вучыла нямецкую. З шостага па дзесяты — французскую. У дзесятым — англійскую. І ў выніку — не ведаю цяпер ніводнай! Зрэшты, ніякіх мы тады моў фактычна і не вучылі. Мы іх — так, «пра-хо-дзі-лі»...

**5.**

Дадому з'яўляюся ў гадзін адзінаццаць ночы. Маці якраз прывезла дзяцей, кідаюся да іх. Абвялага Віцю як не тармашу — сядзіць і спіць. Сцягваю палітэчка, а з сынавай ручкі выпадае белая фасолька. Мяне гэта расчульвае.

— Ну, мам, як яны там у цябе, не нашкодзілі? — пытаюся вінавата.

— Працавалі ўвесь час, памарыліся, бедныя. Шчыра кажучы, я толькі іх пад самы вечар і ўбачыла, калі з брыгады вярнулася. Столькі цяпер маю работы — не тое што вы, гарадскія!..

— Чаму ты забываеш пра свае гады?

— Нічога, адпачну зімой. Цяпер — малоцім, спяшаемся ўправіцца, покуль дажджы не заладзілі. А яшчэ — сама ведаеш — праводзім розныя мерапрыемствы выхаваўчага значэння... Кажы ты, што ў цябе новага? Што піша Косця?

— Даўно не атрымлівала пісем...

— А вунь, мама, на піяніна — канверт не распячатаны! — ажыўляецца Марынка.

— Пра-аўда? Чаму ж ты маўчала дагэтуль?!

— І бандэроль нават!.. Мусіць, кінаартыстак прыслаў тата — ён абяцаў! Я адно маркі абарвала!

— Сёння вечарам, мабыць, занеслі з пошты, я і не бачыла...— хлушу.

Адчуваю сябе страшэнна вінаватай: перад дзецьмі, перад мужам, перад мамай, перад цэлым светам. Маці пра нешта пытаецца яшчэ, а я зноў адказваю неўпапад. Ва мне адбываецца якаясьці барацьба:

«Зрэшты, людзі, нічога такога непапраўнага яшчэ і не зрабіла, а толькі — пабыла на канцэрце, дык хіба ж гэта

злачынства? Пабыла на культурным вечары са сваімі таварышамі па рабоце, са знаёмымі!»

«Ага, а унь ад Косці пошту прынеслі яшчэ ў абед, а ты ж ёю нават не пацікавілася, хоць добра пра яе ведала!.. А моды?.. А тое, як спіхвала абы-куды дзяцей, як збіралася на канцэрт, як на яго ляцела? На ўсё, галубка, павінна быць мера, і ты сама сабе хоць ужо не хлусі!»

«І мера — будзе! Займуся з заўтрашняга ж дня, па-сапраўднаму, дзецьмі, мужам! Нават кіну дырэктарства к д'яблу, няхай мужыка якога ставяць на маё месца, знайшлі мяне, дурніцу!»

Маці паехала.

Укладваю дзяцей у ложак.

— Ма-ам, распячатай татава пісьмо! — моліць Марынка. — Пакажы артыстак!

— Заўтра табе іх дам. Сёння ўсхвалюешся і доўга не заснеш.

— А я буду лічыць белых сланоў, як вучыў тата!

— Мы ж дамовіліся, што пасылкі ад яго будзем разглядаць разам з Віцем. Бачыш, як спіць?

— А мы яму не ска-ажам, што глядзелі!

— Так не чэсна!

Марынка ведае — просьба дарэмная і хутка мірыцца са сваім лёсам.

— То паляжы-ы са мной і раскажы-ы што-небудзь! Учора з Віцем, нябось, доўга ляжала!

— Ладна,— апускаюся на ложак.

Агортвае інстынктыўна страх перад нечым. Сорамна перад дачкой і нават — перад Сяргеем Міхайлавічам: што ж ён пра мяне падумае пасля сённяшняга вечара?!

Трэба выкрасліць, трэба выкінуць нават з галавы ўвесь гэты ажыятаж — ён мне зусім-зусім непатрэбны! Трэба, мабыць, змяніць месца работы.

— Дачушка, ты хацела б, каб я працавала ў тваёй школе настаўніцай?

— О-ой, хачу-у! — віскнула малая.— Ма-ам, пераходзь да нас, добра?

— А чаго ж ты радуешся? Я буду вельмі строгая, ты ж мяне ведаеш!

— Ну і будзь сабе! Але як прывязуць што смачнае ў школь-ны буфет, а ў мяне не будзе грошай, то пабягу да цябе ў настаў-ніцкую, як заўсёды бегае з нашага класа Люда Салаўёва, і ты адразу купіш! Праўда?

— Куплю.

— Ой як до-обра!.. Цяпер і я буду ўсё мець!..— Дачка нешта ўспамінае ды робіць вялікія вочы: — Ма-ам, а ў Шурыка дома ў буфеце стаіць гарэлка, віно — як у магазіне!

— А сшыткі ў яго ёсць?

— Не-а! У мяне заўсёды цягае!

— Бедны хлопчык!..

— О-ой, мама, ён — няшча-асны! Заўсёды абарва-аны, бру-удны, недагле-еджаны!..

Гляджу на Марынку — бытта першы раз яе ўбачыла. Упершыню мы так разумеем адна адну. Разумеем ужо нават цяпер! Уражвае шчаслівая думка: неўзабаве можна будзе з ёю размаўляць пра ўсё-ўсё! Ой, хутчэй бы мець напарніцу, вернага чалавека пад бокам і не быць такой самотнай! Удыхаю пах жывога цельца, які саграваe мяне аж да сэрца ды ўяўляю сабе ўжо, як мы з Марынай ходзім па горадзе, як паказваю ёй любімыя мясціны і гавару, гавару, гавару...

— Ма-ам, то перахо-одзь да нас!

— Паглядзім...

— Толькі — напэўна!

— Спакойпай ночы. Пацалуй мяне... Ну, спі цяпер. Пайду пагляджу, што прыслаў тата!

— Адно схавай фатаграфіі, бо Віця парве! Або вусы артысткам дамалюе, я яго ведаю!

— Схаваю, дачушка, не бойся!

Выключаю святло, выходжу ад дзяцей.

Бяру з піяніпа канверт. У ім — фатаграфіі, маркі, этыкеткі ад запалак. На аркушу паперы — Косцева апісанне змены вар-ты ля Маўзалея. Усё вельмі цікавае ды карыснае для малых, будзе пра што ім пачытаць і пагаварыць. Аднак для сябе не зпаходжу ніводнага радочка.

Ці ён мяне не кахае? Ці ў ім гордасць загаварыла з-за апошніх паводзін жонкі? Ці такая ў яго ўжо натура?!

Ох, каб цяпер дапала да мужа, то выказала б яму ўсё! Да раніцы лапатала б і прымусіла б слухаць. Тады прытулілася б, заснула, і мне было б добра, як ніколі!

Бяруся за пакет, разрываю паперу ды з недаўменнем гляджу: там — дзве кніжкі ленінградскага прафесара Васільева. Адна называецца «Сон і сны», а другая — «Тэлепатыя». Успамі-наю: я. ж Косцю пісала пра дзіўную з'яву — пазнаёмілася з чалавекам, якога дагэтуль бачыла ў сне! Гэта — мужаў адказ па маё пісьмо?

Сумна і крыўдна — вось-вось заплачу. Што рабіць?

Так, мабыць, становяцца алкаголікамі. Чалавеку нудна, адзінока, і ён пачынае ў бутэльцы шукаць прыяцеля.

Нельга распускацца!

Бяру сябе ў рукі і цешуся, што зараз забяруся пад цёплую коўдру ды буду марыць пра нешта такое, каб цікава было заснуць. Дзякуй богу, мрояў тваіх ніхто не бачыць, і ніхто цябе не зможа прагнаць з іх салодкага ўлоння.

**6.**

З Сяргеем Міхайлавічам вяртаюся са школы. Для настаў-ніка гісторыі мой Косця здаецца богам. Да мяне сябра адносіц-ца таксама з павагаю, як да жонкі вучонага з імем. І — чалавека больш вопытнага. Адносіны яго цаню.

— Ірына Іванаўна, ці вы ведаеце, як у нашым двары дзеці гуляюць у мячык? — гаворыць ён ажыўлена.— Б'юць яго аб зямлю ды ў такт: «Я ведаю пяць колераў: чорны — раз, белы — два, сіні — тры, зялёны — чатыры, жоўты — пяць!.. Я ведаю пяць пісьменнікаў: Маякоўскі — раз, Шолахаў — два, Пушкін — тры, Станкевіч — чатыры...

Смяюся.

— Слова гонару!

Такую гульню малых назірала і я на нашым падворку. Папулярнасць Косці тут вызначалася галоўным чынам мясцо-вым патрыятызмам. Аднак прыемна пачуць вестку і з вуснаў адданага маёй сям'і чалавека.

— Во, бачыце, як проста стаць класікам! Выдаў з дзесятак брашурак — і гатова! Давайце і вы што-небудзь напішыце! З гісторыі, напрыклад!

— Каб гэта было так лёгка! Я вунь нават ажаніцца ніяк не магу!

— Што праўда, то праўда. Уся настаўніцкая марыць, каб вы нарэшце знайшлі сабе каго-небудзь. Жанчыны падбіраюць і падбіраюць вам кандыдатуру, і вы, мабыць,

пра гэта ведаеце? У вас жа, здаецца, была сімпатыя. Ліда, як яна?

Халасцяк не мае перада мной душэўных таямніц і ў адказ безнадзейна махае рукой.

— Чаму-у? Вы ж так яе не хвалілі?!

— Расчараваўся.

— Надта ж вы патрабавальны! Глядзіце, так можна на ўсё жыццё і аднаму застацца!.. На сімфанічным канцэрце бачыла вашу сімпатыю. Гэты раз давай, думаю, прыгледжуся. Нішто сабе дзяўчына.

— Ат, з выгляду толькі... Яна і на канцэрце была?.. Разбі-раецца ў музыцы, а як жа!.. Запрасіў да сябе на вечар. Думаю, пасядзім, паслухаем музыку, пагутарым. Уключыў «Апасіянату» ды гляджу — вочы ў маёй Ліды без выразу, бытта ў каровы! А можа гадзінамі апавядаць пра Рахманінава, Моцарта, Бетхо-вена ці Шапэна — з кім хто ажаніўся, з кім развёўся, якую меў палюбоўніцу... За адзін вечар абрыдла да смерці! Сумна з такой — хоць ты вешайся!

— Што ж вы так?!

— Ат, сам вінаваты — не трэба было такім добранькім быць! Ведаеце, як пазнаёміўся? Заглянуў на танцы ў клуб. Усе весяляцца — трэба і мне. Бачу, сядзіць пад сцяной дзяўчо і да яго ніхто не падыходзіць. Ненатуральна голасна загаварыла да бліжэйшай пары. Затым заціскае вусны, робіць задумёны твар і кладзе нага на нагу. Грызе пазногці. Разглядвае столь. Маніпуліруе з туфлем... Я і падышоў.

— Пашкадавалі?

— На сваю галаву!..

Хлапец цяжка ўздыхае. Такі ён, здаецца, нешчаслівы, але не знайду слоў суцехі. Шкада і дзяўчыны, і яго.

— Нічо-ога, сваю шчэ знойдзеце, паверце мне,

вопытнаму чалавеку, а гэта, выходзіць, было несапраўднае!

— Не знайду, то і так дажыву. Ладна, што зробіш! Толькі мамы шкада. Усе дапытваюць яе, калі ажанюся. Суседзі, знаё-мыя не даюць спакою. Бачылі амерыканскі фільм пра халасця-ка «Марцін»? Дакладна гэтаксама атрымліваецца і ў мяне, але ж — цюцелька ў цюцельку!

Чагосьці чакаючы, маўчу зноў.

— Во, учора прывезлі мне з Масквы камплект пласцінак Рахманінава! Заходзьце вечарам, паслухаем!

Уздыхаю як аб нечым недасяжным.

— Дарэчы, будзе і Пятро Уладзіміравіч.

Цяпер сэнс размовы стаў для мяне цалкам іншы. Ажыўля-юся адразу, хоць і не паказваю гэтага.

— А ваш сябра — халасцяк таксама?

— Яшчэ больш нешчаслівы за мяне. Я — звычайны халас-цяк, а ён — высокаадукаваны, знайсці пару такім у наш час, самі ведаеце, значна цяжэй!

— Хвалькі!

— Як сабе хочаце гэта называйце, але ж — факт! Пятро пласцінкі прывёз. Пытаю: чым займаўся ў Маскве? А ён: «Вы-седжваннем на інструктажы, перабежкамі перад машынамі, а найбольш — заглядваннем пад капялюшыкі на тратуарах!» Самі мяркуйце!..

— Бе-едненькія вы абодва, няма вас каму і пашкадаваць, ашчасліваць!

— Няма, Ірына Іванаўна!

Ля дома майго пачынаем развітвацца.

— Дык заходзьце, вы ж не так і далёка ад мяне жывяце!

— Што вам — вольным казакам? Можна сабе збірацца ды слухаць кожны вечар пласцінкі, а ў мяне заўсёды работы поўна! Муж паехаў, Тосю выдала замуж... Днём прыходзіць адна кабе-ціна на пару гадзін, прыбірае, наводзіць парадак, але хапае работы і мне. Адным словам, на мне адной цяпер гаспадарка, дзеці. Шчасце, што вызвалілася хоць ад дырэктарства, а то і дыхнуць не было калі!

— Я заўсёды вамі захапляюся ды расхвальваю вас усім! Вы — маці-гераіня!

— Ага. Толькі Залатой Зоркі не хапае.

— Слова гонару, гэта не камплімент! Вы — адзіная са знаёмых, якой пры жыцці можна помнік паставіць! Ад шчырага сэрца гавару! Як вы ўмудраецеся, што ўсюды паспяваеце — і дома трымаць усіх у руках, і на рабоце ў вас усё гарыць, заўсёды хваляць, і цікавіцеся ўсім?

— Дзякуй за добрыя словы. Мой Віця кажа: ну і завяла ты, мамка, парадкі! І кладзіся, і ўставай у вызначаны час, бытта ў дзетсадзе! — хвалюся шчасліва ўзрадаваная, што Сяргей недзе абмяркоўваў мяне са сваім сябрам і, выходзіць, такая думка пра мяне ў абодвух.

— Харошыя ў вас і дзеткі.

— Толькі як зрабіць, каб яны і надалей такімі засталіся, не выйшлі з іх паскудныя людзі?

— Гэта мяне яшчэ не хвалюе, мне трэба дзяцей займець!.. Дык глядзіце, мо ўсё ж такі здолееце вырвацца? Мы спецыяльна пачнём слухаць позна, каб вы маглі ўправіцца са сваім калгасам. Выходзіць, дамовіліся?

— Пагляджу.

**7.**

Аднак я пайшла.

...Няяркае святло ў халасцяцкім пакойчыку. Гаспадар нешта чаруе ля радыёлы. Яго сябра — задумёны, нечым заклапочаны. Са шчырай цікавасцю пытаюся:

— Пятро Уладзіміравіч, раскажыце нам што-небудзь!

Ён бытта абуджаецца ды са здзіўленнем на мяне глядзіць.

— Пра што-небудзь са свайго «Інтурыста». У вас вельмі цікавая праца, вы столькі бачыце кожны дзень!

— Толькі швейцар! — прабуе жартаваць Сяргей.— З той розніцай, што Пятро — швейцар на граніцы.

— Бачыць даводзіцца, нічога не скажаш! — не зважаючы на рэпліку, згаджаецца са мной малады чалавек. Успомніўшы нешта смешнае, ківае галавой: — Вось і сёння, напрыклад! З ФРГ ехала група турыстаў — старых чыгуначнікаў. Некаторыя з іх на нашай зямлі не ўпершыню. Павылазілі на перон, уважліва да ўсяго прыглядваюцца прафесіянальным вокам. Дзіва: рэйкі аж на 96 міліметраў шырэй ляжаць, чым у Германіі, а ўсе цыстэрны і вагоны ў таварняку — шасцідзесяцітонныя. Нейкі дзядзька з мясцовых ім па-нямецку тлумачыць. Тлумачэнні яго талковыя, госці ўважліва слухаюць, тады адзін з іх з павагай пытаецца: «Вы, вядома, таксама чыгуначнік?» — «Не-е! — пярэчыць чалавек.— Але ў вайну да пуці меў дачыненне. У партызанах паязды вашыя пад адхон пускаў!» — «О-о, я-а, я-а!..» — кажуць разгубленыя госці.

З Сяргеем Міхайлавічам рагочам.

— А яшчэ ехала пара французскіх мільянераў. Па графіку ім прыбыць заўтра, так і запланаваны гасцініцы, рэстараны. «У Парыжы заўтра забастоўка авіён!» — апраўдваюцца. І вось думай, дзе іх размясціць! Цэлы дзень з імі правалэндаўся! Ней-кія жулікі прыбылі ў горад на «гастролі», баяўся, каб французаў не

абакралі...

— А міліцыя навошта? — абураюся.

— Не так проста.

— Французскія лётчыкі якраз для такіх дармаедаў пачына-юць забастоўку, каб выціснуць з іх сваё, а ты — саўдзельнік мільянераў, дапамагаеш ім выкручвацца — корміш, апякаеш! — кпіць Сяргей.— Штрэйкбрэхер ты, штрэйкбрэхер!

— Выходзіць.

Я, мабыць, ніколі ў жыцці не слухала з такой увагай.

— Найбольш апрыкралі мне багатыя амерыканскія гуль-тайкі, што швэндаюць па свеце. «Гэло, містэр, вы з «Інтурыста»? Вельмі добра, вельмі добра, о'кэй!» — па-панібрацку ляпае цябе па плячы, рагоча задаволеная на цэлы пафарбаваны рот ды пачынае: тое ёй трэба зрабіць, гэта прадбачыць. На такую зараз, здаецца, у звычайных умовах нават не зірнуў бы, а тут мусіш цярпець, усміхацца, дыпламатнічаць. Па-вашаму — цікава?

— Вельмі! — горача кажу.

— Ну яго к д'яблу з такой цікавасцю!

— Я і кажу — швейцар на граніцы! — зноў кідае свой жарт гаспадар ад радыёлы.

— Самы сапраўдны.

Аднак у мяне да Сяргея нараджаецца непрыязнасць. Пят-ра Уладзіміравіча хачу абараніць:

— Дык не ўсё ж вы самі там робіце, ёсць жа ў вас розныя гіды, перакладчыкі?!

— Часта яны бяссільныя...

— І ўсё роўна ў вас цудоўная праца! Заўсёды бачыце розныя народы, можаце параўноўваць, вывучаць

людзей...

Пятро, пешта ўспомніўшы, ажыўляецца зноў:

— Наконт гэтага маеце рацыю. Цікава, напрыклад, назіраць за італьянцамі. Як дзеці часамі! Абрынуцца на аднаго за нешта, здаецца — раздзяруць! Праз пяць мінут, бачыш, усе разам мірна і спакойна крочаць на абед у рэстаран! У нас пасля такой узбучкі з чалавекам, прынамсі, не размаўляюць з тыдзень!..

Якія мы маленькія людзі са сваімі клопатамі ў параўнанні з клопатамі чалавека вось такой прафесіі! На ім — прэстыж дзяржавы, народа! У яго дзеяннях — элементы вялікай палітыкі!..

А яшчэ сумнявалася, ці ісці сюды. Свае, простыя хлопцы. Ні ў аднаго з іх і ў намерах няма, каб падрываць мае «маральныя ўстоі»! Затое мне даўно не было так прыемна.

— Апарат гатовы! — аб'яўляе Сяргей.

Слухаем Рахманінава ў выкананні Кліберна. Сяджу на крэсле супроць кушэткі. На ёй, прыкрыўшы вочы далонямі,— гаспадар. Збоку — госць. Туды саромеюся глянуць, аднак Пятра адчуваю кожнай клетачкай свайго цела. Яго прысутнасць памалу зліваецца з музыкай, і я паступова трачу адчуванне, дзе знаходзімся і што з намі адбываецца. Перад намі ўсё выслана нейкім не то крышталем, не то шоўкам, не то палоскамі сіняга золата — лёгкімі, як туман; я трачу адчуванне важкасці. Нешта роднае, таямнічае, запаветнае агортвае нас, павялічвае ў мільён разоў, нясе ў чароўнае небыццё. Колькі гэта адбываецца — хвіліну, вечнасць, сказаць не змагла б.

Апарат змаўкае, і ў пакоі некалькі мінут пануе цішыня.

— Падабаецца? — пытае гаспадар.

Сказаць пра буру, якая разыгралася ўва мне,— бытта агаліць сябе, выставіць напаказ сваё нутро.

— Пра гэта гаварыць немагчыма,— раптам чую збоку.— І гаварыць не трэба, гаварыць нават грэх, як пра нешта толькі тваё, інтымнае...

Мяне ўражвае дзіўнае супадзенне: дык і я ж адчуваю дакладна тое самае!

...Назаўтра мяне ўсю напаўняе святочная радасць: у нашым гарадку ёсць аднадумец, блізкі чалавек, і пра гэта ў цэлым свеце ведаю толькі адна я!

Вестка, што ён скончыў інстытут міжнародных адносін, што яго бацька дыпламат, стварылі ў маім уяўленні вобраз зусім іншы — я яго сабе ўяўляла нават крыху беларучкай. Цяпер жа ўбачыла маладога мужчыну з глыбокім перакананнем у слушнасці таго, што робіць, з практычным поглядам на жыццё. Гэта быў чалавек, які шмат перадумаў, а магчыма, і перажыў. То была натура дзейная, непадкупная, клапатлівая — нечым вельмі напамінала мне Косцю, асабліва таго Косцю, якога ведала гадоў з дзесяць таму. Толькі муж і тады быў раўнадушны да музыкі. Нешчаслівы чалавек. Бетховена ад Шапэна не адрозніць, як сіні колер ад блакітнага (а мо гэта адно з другім звязана?!). І гэтая паблажлівасць да ўсіх і да мяне...

## 8.

У магазіне стаю ў чарге за нейкай неахайна апранутай старой. Нечакана яна паварочваецца ды крычыць:

— Іра, ты-ы?!

— Добры дзень, Сара Майсееўна! Прабачце, што не пазна-ла адразу!

— А мяне цяпер не лёгка пазнаць, так я ўся змардавалася, дайшла, ой!

Сара Майсееўна ў сярэдняй школе вучыла мяне хіміі. Цяпер я сама настаўніца са стажам, але не пазбылася

да былога педагога рэфлекса школьніцы, і калі спатыкаю яе на вуліцы, то — хочаце верце, хочаце не — баюся, што гэты чалавек мяне вось-вось выкліча адказваць нелюбімы прадмет.

Настаўніца вельмі радуецца, што ёсць да каго загаварыць, і выбухае:

— Ой, ты ведаеш, у майго мужа захварэлі ныркі! А адна зусім не працуе! І я ўсё так блізка ўспрымаю да сэрца, і таму я так апусцілася!

І праўда — некалі «хімічка» была нам прыкладам ахайнасці ды акуратнасці. Цяпер Сара Майсееўна расхіляе замусолены плашч, паказвае пад ім амаль голае цела.

— І яшчэ ў мяне такое няшчасце з сынам!

— Што з ім, Сара Майссеўна?

— Шалапутны!

— А-а...

— Што ты — «а-а»?! Ты паслухай!

— Я слухаю, Сара Майсееўна!

— Не дай бог, калі такі шалапутны! І ў яго двое дзяцей! І яны ўсе на маёй шыі!

— То здайце іх у яслі!

— Ведаеш, я была запісана ў гарана на яслі. Але гарком вырашыў, што гэтая чарга ўстарэлая, завялі новую. А мне цяпер па грамадскай лініі столькі даводзіцца дэманстраваць доследаў па атэізму ўсюды, што я зрабілася работніцай гарко-ма! І ты ведаеш, няма дыетычнага сыру! О-ой, я працую на такой адказнай рабоце, і ў мяне так задурана галава, што калі б апісаць гэта ўсё па парадку, то атрымаўся б добры раман! Але не маю таленту! Талент — бы грошы, як сказаў Шолам-Алейхем, калі яны ёсць, то ёсць, а калі пяма, то — няма!

І я ўсё збіраюся прыйсці да твайго мужа, каб расказаць! Калі ён ужо да цябе вернецца?

— Праз шэсць месяцаў.

— Але прыязджае на канікулы?

— Прыязджае...

— То накажы, калі з'явіцца!

Завошта яе некалі так паважала і любіла? Ці мо старасць гэтак нішчыць людзей, жыццёвыя нягоды? Божа, няўжо калісьці і я такой буду?!

— Добра, Сара Майсееўна, накажу.

— Толькі — абавязкова, чуеш?

— Чую...

З некаторага часу ў мяне стала менш сяброў. Калі пра Кос-цю загаварылі газеты, многія пачалі на мяне глядзець так, быт-та першы раз убачылі. Тыя ж, што мяне апякалі, сталі нават падлізвацца. Іншыя адпіхнулі ад сябе ноткамі зайздрасці, пытаннямі пра ганарары мужа. З'явіліся вось і такія, што паперліся са сваімі гісторыямі, каб Косця абяссмерціў іх, напісаў раман. Ён іх зроду не пісаў: ні раманаў, ні аповесцей, ні апавяданняў, ні вершаў, ні паэм,— піша навукова-папуляр-ныя матэрыялы, але ж хіба кожнаму вытлумачыш, хіба зразумее цябе, напрыклад, гэтая замуленая жыццём Сара Майсееўна? Яна сябе ўгаварыла, ёй хочацца, каб так было, яна ўжо ў гэта глыбока верыць, і годзе!

Вяртаюся з магазіна і не знаходжу сабе месца. Хоць бы Косця быў, усё ж такі без яго я кісну! Уздумала позна мяняць пасаду, усе «гадзіны» паміж настаўнікамі былі падзелены ўжо, поўную стаўку абяцаюць толькі ў новым навучальным годзе.

Наогул работа педагога — не дырэктарская, а тут яшчэ ў мяне ўсяго пяць гадзін у тыдзень, часу — хоць

адбаўляй! Куды яго дзяваць? Ад непрызвычаення — сумна. Перасоўвала два дні мэблю па кватэры, расстаўляла яе паводле схем у часопісах. «Выціскала» з Марынкі музыку. Вучыла, чаму толькі магла, Віцю. Наводзіла з цёткай Марусяй дома парадак. А далей?

Жыць стала невыносна.

Нездарма, кажуць, ад гультайства людзі вешаюцца.

Замест таго каб сілы ўсе аддаць аднаму класу, якія дзяліла некалі паміж чатырох, я бытта наогул перастала любіць сваю работу ды пачала з нецярпеннем чакаць на ўроках званка. Раніцой адпраўляю дзяцей у школу, тады кладуся ў ложак, ляжу сабе да гадзіны дванаццатай, а ў галаву лезе нейкая брыда. Не хачу спаць, не хачу есці, не бяру ў рукі кніжкі — нічога не хачу. Усё чагосьці нібы чакаю, чакаю, чакаю, і мне некага хочацца пабачыць. Веры для мяне ўжо мала. Пятра? Мінула ўжо мо з два-тры тыдні, як яго не сустракала і нічога пра яго не чула.

Няма чаго хітраваць, бачыць хачу менавіта яго. Вычытала ў газеце, што сярод замежных турыстаў злавілі шпіёнаў, і ўстрывожылася — мо з ім што здарылася дрэннае, мо яго забі-лі?! Сярод іх ёсць монстры, недабітыя фашысты, яны ездзяць да нас, напэўна, з бруднай мэтай і не спыняцца ні перад чым — сама бачыла на выстаўцы ў РДК нажы і фінкі, а на фота — фальшывыя фізіяноміі шпіёнаў: доўга такому пырнуць чым-небудзь вострым нашага чалавека ці падсыпаць атруту?

— Вось яшчэ навіна, не хапала, каб закахалася! — паўта-раю сама сабе перапалохапая.

Замест таго каб неяк ратавацца, каб вырваць з сябе гэтае няшчасце з карэннем, каторы раз прыкідваюся сама перад сабой: а што тут дрэннага? Хіба мы ханжы, хіба замужняй жан-чыне не можа, акрамя мужа, падабацца яшчэ і іншы чалавек? Сэрцу не загадаеш ды на вузялок душу не завяжаш! У Косці колькі блізкіх сяброў-жанчын?! У дзень нараджэння або калі

выходзіць яго новы твор паштар пачкамі валочыць ад іх паштоўкі і пісьмы з віншаваннямі, і ў гэтым абсалютна нічога не бачу дрэннага ні я, ні ён.

Спытацца ў Сяргея (іх абодвух у душы называю па імені!), дзе яго сябра, не магу. Час доўжыцца. Пакутлівае жаданне ўбачыць гэтага чалавека не пакідае ні на мінуту. Не ведаю, куды сябе падзець. І ў той жа час разумею, што мне нельга, не маю ніякага права з пункту гледжання агульнапрынятай маралі перажываць гэтак і хвалявацца за чужога чалавека.

— Ну і што?! — прыкрываюся зноў фігавым лістом.— Мне глянуць толькі б на яго, хіба ж гэта злачынства?!

Яшчэ, мабыць, ніколі так многа не пісала Косцю. Па два, па тры пісьмы, здаралася, адпраўляла ў адзін дзень. Аднак апісаць мужу ўсё падрабязна, прызнацца яму не магу. Пішу, што надта мне цяжка, што сяджу дома ды паміраю ад суму, што нікуды не хочацца хадзіць, нічога не хачу бачыць, усё валіцца з рук.

«...Твой Рахманінаў — цудоўны!.. Калі б ты яшчэ мне і Бетховена дастаў!.. Як ты ўмудраешся пісаць лісты на лекцыях сваёй псіхалогіі — яшчэ разумею, але як я гэта раблю на ўроках?»

«...Віця сказаў сёння, што ў яго пісьмы да цябе нарыхтаваны на цэлы год наперад!.. Сёння ўсіх вадзіла ў лазню, а вечарам за сталом спявалі народныя песні. Затым пачалі спяваць ваенныя. Здорава!»

«...Калі прыедзеш? Усё ж такі без цябе мы тут тлеем, а з табой — гарым!.. Нёман пайшоў, хадзіла з дзецьмі глядзець на крыгі. Цудоўна!»

«...Я па вушы залезла ў даўгі. Добра, што ў наш час для такіх людзей няма славутых ямаў, сядзела б у ёй на самым дне!.. Шукала сёння гадзіннік, а Марынка паказала — на руцэ. Вось да чаго дакацілася? Усё ж такі збіваліся мы з табой на драбязу, і яна адцягвала нашую ўвагу ад галоўнага. А мо гэта — якраз тыя кілаграмы солі, якой трэба абавязкова з'есці з пуд, каб пазнаць

адно аднаго?..»

«Атрымалі тваю пасылку. Каб ты бачыў, як мы яе патрашылі! У руках сякера, вочы нашыя палаюць агнём, усе чакаем, а потым — задаволеныя!.. У маіх дзяцей з'явіліся першыя даку-менты — праязны білет. Сколькі ўрачыстага гонару, калі Віця падыходзіць да аўтобуса з паперкай у руцэ! Потым будзе іх шмат у яго жыцці і розных, але — гэты?!»

«Захварэла. Дзеці хадзілі ў лес. Прынеслі галінак, а Віця — галку за адну нагу!.. Ваюю з Марынкай і Віцем за сшыткі, за неакуратнасць, за яўныя і ўяўныя ды будучыя грахі. Эх, выр-вацца б на пару дзён у Маскву, выплакацца б перад табой!.. У мяне нейкае ўпартае пачуццё страты нечага свайго, цябе, чаму?..»

Косця мне адказвае:

«...У цябе гэта — якійсьці бунт на каленях!»

Падумайце, хіба я яму школьніца? А яшчэ — псіхолаг, доктар чалавечых душ! Ото ж яму зараз дам!

Бяру паперу, саджуся зноў пісаць доўгі ліст. Праз гадзіну нясу канверт у паштовую скрыпку.

**9.**

Сяджу дома над вучнёўскімі сшыткамі. Раптам адчыняюц-ца дзверы, заходзіць настаўніца англійскай мовы — Кіра.

— Добры дзень, Ірына! Ледзь цябе знайшла! Праз рана даведалася твой адрас!..

— Што такое здарылася, што ты мяне аж так шукаеш?

Але Кіра гаворыць ужо пра другое:

— Табе падабаецца мой капялюш?

Маўчу. Капялюш — яркі, крыклівы, безгустоўны. Лічу пры-гожым толькі тое, што простае. Нічога не гаварыць больш нельга.

— Адкуль ён у цябе?

— З Румыніі!

— Ах, дык ты е-ездзіла?!— успамінаю размову ў нашай настаўніцкай.

— Ну. Была ў турысцкім падарожжы! І, ведаеш, усе грошы прасадзіла на гэты капялюш! Вырашыла паказаць і табе...

Тут штосьці не так. Кіра дагэтуль да мяне не заходзіла ані разу. Шукала мой адрас праз рана, каб адно паказаць абнову? Не веру. Дык у чым справа?

Яшчэ некалькі хвілін сяброўка пераскоквае з тэмы на тэму. Затым робіцца сур'ёзнай ды прызнаецца:

— Ведаеш, была ў адной групе з тваім знаёмым...

— З кі-ім?

— Ну, з Пятром Уладзіміравічам Вавілавым з «Інтурыста». Няўжо не здагадалася?!

Я ледзь не абамлела.

— Та-ак?!

— А ведаеш — ён такі абаяльны і элегантны мужчына! — кажа з захапленнем.— Быў нашым кіраўніком.

— А-а...

— Ты ведаеш, ён так цудоўна скроены!..

— Я-ак? — стараюся апрытомнець.

— Ну... плечы шырокія, а тут вужэй і мускулы тут такімі буграмі!.. Такі падніме цябе — як пушынку!.. У Румыніі гавары-лі, што з усёй групы вылучаемся мы двое. Нас

нельга было ад-розніць ад іншых турыстаў з Заходняй Еўропы!.. Усе два тыдні ён даглядаў мяне, быў ласкавым, уважлівым, прадбачлівым! Клапаціўся вельмі!.. Так мне спадабаўся, што не ведаю, як гэта і выказаць! Абяцаў потым званіць.

— І што? — ледзь сябе стрымліваю.

— Не звоніць! Кіра ўздыхае.

— І болей не бачыліся? — пытаюся асцярожна.

— Спатыкаемся ў горадзе. Ён такі ж ветлівы, але толькі элегантна вітаецца ды праходзіць міма. А мяне кожная сустрэча хвалюе, пасля не знаходжу сабе месца!

Ух, як адлягло — аж успатнела. Уздыхаю з палёгкай ды раблюся больш адважнай.

— Дык пры чым тут я-а?

— Іра, малю цябе, калі ўбачыш яго, зрабі для мяне паслугу! Ты нават і не ўяўляеш, як мне гэта важна! Магчыма, гэта мой лёс! Зрабі паслу-угу!..

— Яку-ую? — дзіўлюся пераможна.

У вачах Кіры ўніжэнне:

— Напомні яму мой тэлефон, ладна? Я табе яго напісала на паперцы. Адну дома пакінь ля апарата, другую ў сумку пакладзі...

У старэйшых класах сярэдняй школы ў Кіру ўлюбляліся амаль усе хлопцы. Закахаўся ў яе і дзесяцікласнік, які мне быў не абыякавы. Хлапец дзяліўся са мной перажываннямі, прасіў парады, не заўважаючы маіх мучэнняў. З-за гэтага нават школу кідала. Дзякуй добрым людзям, навучылі...

Ужо даўно вылечылася ад захаплення тым школьнікам. Мая сімпатыя вось гадоў з дзесяць працуе шафёрам таксі, вечарамі бачу яго часамі п'яным і ў кампаніі гарадскіх гуляк ды абармотаў — такіх жа агідных, якім

стаў ён: з жыццёвым дэвізам, як яны самі прызнаюць, «хап-хап!». Аднак з таго часу да Кіры ў мяне непрыязь.

Напамінаю ёй са з'едлівым сарказмам.

— Што ж, мне не прывыкаць. Яшчэ ў школе хлопцы ўлюб-ляліся ў маіх сябровак, а мяне прасілі толькі стварыць ім умовы, каб дасягнуць мэты, ці не так?

— О, Ірачка, я ведала, што ты — добрая, што зго-одзішся, таму і...

— Пачакай! Напомніць? — Гуляю з ёю, бы кот з мышшу.

— Ну і што? Напо-омні! Фактычна мне ад яго нічога, абсалютна нічога не трэба! Ну, спаткаемся, пагаворым...

— Ты думаеш, што гаворыш? Ні з таго ні з сяго завесці гутарку з гэткім чалавекам на такую тэму? Ты пры сваім розуме? Ты ўяўляеш, як усё гэта будзе выглядаць?

— І-ірачка, а я цябе навучу! Ён там быў з фотаапаратам. Адна мінская турыстка прыслала мне пісьмо і просіць здымак. Гэта табе і паслужыць прычынай зачапіць яго!..

— Дык і табе яна — прычына!

— Табе зручне-ей! Разумееш, я баюся, што пры размове выдам сябе...

На Кіру ніякія аргументы не дзейнічаюць. Змаўкаю і адно слухаю. Прызнанне і ацэнка гэтага чалавека жанчынай, да якой беспаспяхова заляцаліся дзесяткі кавалераў, узбуджае, хвалюе ды прысяшае ход маіх думак.

**10.**

Памалу ўцягваюся ў работу.

Адна настаўніца захварэла, пару ўжо тыдняў яе

замяняю. Няма калі нават дыхнуць. Адчуваю прыемнае задавальненне ад працы, якая забірае з мяне ўсё.

У суботу вяртаюся са школы. Надвор'е стаіць дрэннае, сырое, а я — стомленая ды як бы выціснутая, бы той лімон пас-ля чаю. Ледзьве перастаўляю ногі. Успамінаю: няма нічога на вячэру падаць на стол. Кірую ў магазін, купляю вянок каўбасы, абыякава загортваю яго ў газету, прыціскаю локцем, плятуся дамоў.

І вось якраз цяпер, калі я гэтага найменш чакала, перада мной раптам узнікае ды спыняецца Пятро. Неакуратны пакецік выкінула б прэч, ды — позна.

— Добры дзень слаўным работнікам фронту народнай асветы!

Спыняюся і я, узнімаю галаву.

Элегантнае, шэрае, вышэй калень, паліто. Новы капялюш. Вастраносыя туфлі... Можна было б сказаць, што — тыповы стыляга, калі б не вочы: чыстыя, добрыя, разумныя.

— Ну, пойдзем! — прапануе.

Ведаю сама — у маіх вачах свеціцца радасць, вусны расцягваюцца ад усмешкі; мне не выпадае так сябе паводзіць, але радасці гэтай ужо згасіць у сабе аніяк не магу.

— Нам жа не па дарозе?!

— Якраз па дарозе! Бо добрых людзей я заўсёды право-джу. Прынамсі — да моста!

Выбухаю смехам, і стомленасць маю нібы хто рукой здымае.

Ідзём. Дзьме моцны вецер, сячэ дажджом і снегам. Мой напарнік пачынае жыва расказваць пра Румынію. Але гэта яму не перашкаджае непрыкметна засланіць сабой ад ветру. За яго вялікай фігурай значна цяплей.

Абуджаецца да яго ўдзячнасць.

— Вам часта даводзіцца бываць за мяжой, я бачу!..

— Ат, такая прафесія,— кажа без рысоўкі.— У несезон турыстаў едзе да нас мала, работы ў нашым агенцтве няма, і нас пасылаюць кіраўнікамі груп за мяжу.

— Вы самі не ведаеце, у якім выгадным становішчы знаходзіцеся!

— Так вам здаецца. Зрэшты, давайце не будзем пра гэта, добра?

— Дамовіліся, калі вам непрыемна... Прабачце, я ад шчы-рага сэрца...

— Чыталі ў «Літгазеце» апошні артыкул аб раманах?..— абрывае ён мяне ды называе прозвішча вядомага замежнага раманіста, у якога ў нас нядаўна выйшла цэлая серыя кніжак.

— А як жа! — падхопліваю.— Толькі навошта так чарніць тое, што арыгінальна, праўда?

— Мне здаецца, такія рэцэнзіі друкуюць зайздроснікі!

— Або людзі, якія не вераць, што мы самі разбяромся, дзе кепска, дзе добра!

— Некаторыя нашыя аўтары панавучваліся пісаць гладзенька, роўненька, у іх — нібы перадачы па радыё, а не кніжкі! А яшчэ лепш — ілюстрацыя перадавой з газеты! А ў гэтага ўсё суровае, праўдзівае і дыхае жыццём!

Пругкі вецер намагаецца збіць нас з дарогі. Насы і вушы нам залеплівае мокрымі шматкамі снегу. Але гэтага мы нават не заўважаем. Праходзім мост, адну вуліцу, другую.

— Ну, мне сюды...— спыняюся супроць свайго дома.

— Ужо? — дзівіцца шчыра.— Шкада!

— І мне! — кідаю гулліва.

Ён вымае з кішэні кніжку:

— Прачытайце. Вам спадабаецца. Бярыце, бярыце!

— Дзякуй...

— Ну, да наступнага разу!

— Бывайце!

Праз пару хвілін я ўжо дома. Кідаюся да люстэрка. Божа, якая я ўся растрапаная, мокрая — ён на такую мяне глядзеў?!

І не заўважаю, калі спраўляюся з гаспадаркай. Дзеці гуля-юць у лато. За сцяной у суседзяў пачынаюцца танцы, там гру-коча падлога, дрыжаць сцены. Але на гэты раз мяне не кранае пачуццё самотнасці. На гвалт за сцяной увагі ўвогуле не звяртаю.

Нічога не змянілася ад таго, што мы па дарозе аб нечым гутарылі, нешта крытыкавалі. Аднак я нібы прачынаюся, і на душы адразу палягчэла. Нават — больш! Я раптам як бы ўваскрасаю. Нездарма так многа чакала ад гэтага чалавека — і не памылілася. Даўно не было так хораша. Мяне ўжо распірае ад якогасьці беспрычыннага шчасця, ад вастрыні адчування, што існую. Я задаволена сама сабой, мне лёгка на душы. Успамінаючы хвілёвую размову па дарозе, адчуваю, як яна нас зблізіла. Толькі чамусьці страшнавата.

Сядаю ля печы, разглядаю падараваны томік Олдзінгтона «Усе людзі ворагі». Відаць, так не праглынала ніводнай кніжкі. Чытаю і ўсё лаўлю сябе на думцы: яна ж яму падабалася, а з-за чаго? Праз кожны вобраз і фразу хочацца пранікнуць і ў душу чалавека, які чытаў яе перада мной. Мне неабходна, мне вельмі важна, мне абавязкова трэба іх разглядзець.

Пасля кароткага сну раніцой адчуваю сябе свежай, энергічнай, жывой.

**11.**

Прыходзіць субота зноў.

Прачынаюся і ўспамінаю — Сяргей на сёння запрасіў на імяніны. Ісці на іх не магу, бо няма з кім пакінуць дома дзяцей. Аднак пайсці хочацца.

Мо адправіць дзяцей да Веры?..

Тупаю на работу ды ўсю дарогу ламаю галаву над нявыра-шаным пытанем.

Прыбываю ў школу, а там — скандал! Мае вучні нашко-дзілі, і цяпер мне ўвогуле не да імянін.

Я ўжо кірую шостым класам. Раніцой вывелі маіх выхаван-цаў на школьны двор капаць роў для каналізацыі. Настаўнік па вытворчым навучанні ботам накрэсліў на снезе контуры ямы, раздаў рыдлёўкі, ламы, а сам адправіўся ў праходную будку скуранога завода. Настаўнік меў там многа сяброў і пайшоў слухаць свежыя анекдоты. Аднак клас мой дружны, працавіты, і дзеці горача ўзяліся за інструменты без наглядчыка.

Прайшла гадзіна, другая. З'явіўся загадчык гаспадаркі, накрычаў на дзяцей, што не там капаюць:

— Бярыце два метры правей!

Мёрзлую зямлю дзеці выкалупвалі па крышынцы, ім зрабілася крыўдна. Заггас пайшоў, а яны замітынгавалі:

— Чаму нам адразу пра гэта не сказалі?!

— Мы працуем, а ён сабе грэецца ў будцы!

— Гэта — несправядліва, не будзем больш капаць ніякіх ямаў!

— Бастуем, рабяты!

Мала гэтага. Дзеці як дзеці, трэба ж ім зрабіць усё з

фокусам і фантазіяй. Інструмент засыпалі пяском, снегам. Хтосьці збіў з дошак крыж, уваткнуў у капец. Клас разыграў камедыю хаўтур. Стараста паклаў на галаву дзіравы таз, пачаў хадзіць вакол капца ды пацаркоўнаму спяваць, астатнія яму падпявалі.

Праз акенца з будкі ўбачыў «настаўнік», што робіцца на школьным двары, вылецеў на вуліцу. Дапаў да дзяцей, сарваў са старасты тазік і ўдарыў хлопчыка па вуху. Рабяты абурыліся, грудамі зямлі дружна атакавалі мужчыну, і ён мусіў зноў уцякаць у будку.

Да майго з'яўлення ў школе адбылася ўжо лінейка, і ўсім дзецям дырэктар аб'явіў вымову. Вучні мяне акружылі, пачалі адзін перад другім скардзіцца:

— Хіба ён меў права біцца?

— Чэславу вока ледзь не высадзіў!

— Сціхніце! А вы таксама добранькія! Што вы там спявалі?

— Ірына Іва-аўна, мы — жартава-алі! Чэслаў з тазам, як бацюшка, цягнуў: «Согреши-ихом... и во лености животе мое ижи — их...»

— Вы нам чыталі гэта на ўроку літаратуры, памятаеце?

— Мы чэсна працавалі! Хіба вінаватыя, што нам паказалі капаць не там, дзе трэба? Але мы стараліся! Во ў мяне якія пухіры на далонях!..

— І ў мяне, паглядзіце!..

Вачаняты гарацы верай у маю справядлівасць. У старасты — сіняк пад вокам, ён яго выстаўляе, нібы медаль.

У школах нядаўна ўвялі вытворчае навучанне. Ідэя сама па сабе вельмі карысная і добрая, аднак для гэтага прадмета няма настаўнікаў. На такой пасадзе — былы рабочы скураной фабрыкі, якога з падазронай ахвотай нам адпусцілі з цэха. Ды і ў нашай дырэкцыі няма

ніякага вопыту яшчэ па гэтай дысцып-ліне. Незразумелая і праграма. Дзяўчынкі вывучаюць адну чвэрць дамаводства, другую — сталярную справу, трэцюють —слясарную, а ў выніку — нічога толкам не паспяваюць асвоіць, і, як у выпадку з замежнымі мовамі, толькі дысцыпліну «прахо-дзяць». Усе пра гэта ведаюць, на такія ўрокі глядзяць абыякава, а вучняў з іх забіраюць туды, дзе каму спатрэбіцца.

Бягу да завуча, даводжу, сваруся. Потым — да дырэктара. Удаецца яго пераканаць, што гэты «настаўнік» — чалавек выпадковы, трэба хутчэй ад яго вызваляцца, бо ад такога педагога можна чакаць усяго.

Мяне мучыць сумленне.

Вяду ўрокі, а нейкім другім паверхам сваёй псіхікі разва-жаю. Ці не зачаста пакідаю вучняў адных? У мяне з'явіўся новы інтарэс, ён як бы ахаладзіў мяне да класа. Нават менш стала займацца і сваімі дзецьмі.

На сына пачалі скардзіцца. Учора прыйшоў з вуліцы: «Ну і даў я Кастылю здачы!» — пахваліўся. «А чаго ён да цябе лез?» — пытаюся. «А я яму даў здачы, а тады ён да мяне палез!» Я адно пасмяялася ад душы, але зараз жа пра гэта забылася.

Уладкавала сяк-так справу з лапатамі. На перапынку званю з настаўніцкай дамоў.

— Мама-а,— хваліцца Марынка.— А Мікалай Іванавіч даў мне і дзяўчынкам плакаты расклеіць па горадзе!

Дачка ходзіць яшчэ і ў спартыўную школу. Мікалай Іва-навіч — яе трэнер. Вось і занядкі знайшлі сабе дзеці. І будуць спакойна зараз гуляць... А мо мне ўсё ж такі схадзіць на тыя імяніны? Ніколі не выходжу да людзей, і ўсё адна ды адна. Што, хіба я манашка якая?!

— Расклеілі?

— Ага-а!

— Малайцы!

— Але ў нас яшчэ мука засталася!

— А есці не хочаце?

— Цёця Маруся нас накарміла!

Гэтая пачцівая жанчына прыходзіць да мяне толькі днём прыбіраць кватэру.

— Добра, Марынка. Тады пакладзі муку ў буфет ды слухай, што табе скажу,— хачу загадаць дзецям рыхтавацца правесці вечар у Веры.

— Мама, ма-ам! — перабівае дачка.— А можна нам з яе бліноў напячы?

— Што ты сказала?

— ...Оля прынесла паўшклянкі тлушчу, Ядзя — патэльню!.. Можна, га, ма-ам?

Уяўляю сабе прыемнасць, якую дзяўчынкі зведаюць пры такім занятку. Суседчыны Оля і Ядзя шмат старэйшыя за маіх, ім можна даверыць і пліту.

— А пажару не наробіце?

— Не-е, што-о ты-ы!..

— Толькі Віцю не крыўдзіце, няхай пячэ разам з вамі!

— До-обра, мамачка!.. Уй, дзяўчынкі, мама дазволіла! Уй, дазволіла!..

Покуль дачка кладзе трубку, чую, як вішчаць ад радасці дзеці. Не трэба іх нікуды адсылаць! Я нікуды не пайду, буду цэлы вечар з імі! — пераконваюся, што мне рабіць.

**12.**

Столькі было спраў, але, надзіва, я ўсе хутка ўладзіла. Пра-вяла ўрокі і вось ужо напіхваю сшыткамі партфель.

Зноў мяне займаюць праклятыя імяніны. Нешта незразумелае, глухое і ўпартае, як зубны боль, мяне ўсю не то цягне, не то хвалюе, не то палохае. Стараюся прыняць разумнае рашэнне. Каторы раз мяркую, як быць.

Не пакінеш жа дзяцей на цэлы вечар адных, не паляціш чорт ведае куды і чаго?! Завесці іх да Веры? А п'яны Барыс?.. Тады — куды? Каго прасіць, каб пасядзеў?

«Вы, калі ласка, пабудзьце з маімі дзецьмі, а я тым часам схаджу на выпіўку».

Язык не павернецца так сказаць. Зрэшты, чаго там не бачыла? Хутка прыедзе Косця на канікулы, будзем разам хадзіць на вечары ды імяніны, у кіно і за кіно.

Са школы выходжу раней, чым заўсёды. Выходжу злая, не-задаволеная і гатовая вось-вось успыхнуць. Вуліцы, дамы, людзі чамусьці мяне раздражняюць. Каб супакоіцца, пачынаю чытаць шыльды.

«Камбінат бытавога абслугоўвання».

«Гастраном».

«Дамская зала»...

«Дамская зала»?! А калі б зрабіць сабе прычоску новую. Вядома, не дзеля імянін, а так — хіба яе робяць толькі для візітаў? Я ж — настаўніца, хіба не магу сабе дазволіць зрабіць прычоску пару разоў на тыдзень? Магу! І, вядома, зараз зраблю, адно загляну дамоў!.. Падумаеш, толькі яны там у Сяргея Міхайлавіча будуць з новымі прычоскамі?!.

Адчыняю дзверы ў сені. Смярдзіць нечым гарэлым. Бліны! — успамінаю ды кідаюся на кухню. Лёгка сабе ўявіць, што там адбываецца: дым, чад, сляды, бруд...

— Бо-ожа, што вы натвары-ылі?!

Прапіраю дзяцей з кухні, адчыняю фортачку, выціраю з падлогі муку, разглядаюся па кватэры. У пакоях, дзякуй

богу, падмецена і прыбрана. У халадзільніку накуплены харчы для наступнага дня. Удалося знайсці сталую і гаспадарлівую жанчыну, яна заходзіць да мяне на пару гадзін, а карысці ад яе болей, чым ад Тосі. Але я ўжо не задаволеная жанчынай, што ўсё прыбрана — няма мне за што зачапіць рукі!

Шукаю пісьмо ад мужа, каб нібыта знайсці ў ім адказ на мае клопаты. Канверта не відаць, і я пытаюся ў Марынкі. Не, пошты сёння не было. Выходзіць — няма чым заняць сябе, і — нікуды не дзенешся — мушу ісці ў праклятую цырульню.

— Марынка, прыглядзі за братам, я — ненадоўга... У цырульню плятуся неахвотна, без упэўненасці ў слушнасці таго, што раблю. І ў той жа час не ў сілах супрацівіцца сабе, не магу павярнуць назад.

— Як будзем стрыгчыся? — ветліва пытаецца майстра.

Нешта мычу, сарамліва мнуся. Мужчына велікадушна па-казвае, што вельмі добра разумее маю збянтэжанасць, яе нават адабрае, што ведае, чаго хачу, і бярэцца ўпэўнена за работу. Уздыхаю з палёгкай, стаўлю ногі гэтак, каб можна было выцерпець без руху цэлую гадзіну. І насцярожана, нібы ў нечым вінаватая, нібы штосьці хаваю, аглядаю ў зале людзей.

Ля акна — дзяўчынка ў белым халаціку ляскае нажніцамі. У люстры бачу яе стройную фігурку. У пышна ўзбітых валасах — жоўтая пластмасавая пласцінaчка, і яна прыгожа ўпісваецца ў дзявочы профіль. Ляскае дзяўчына пяць, дзесяць мінут, ляскае пятнаццаць...

— Вучаніца, трэніруе пальцы! — паясняе майстра.

— Та-ак?

— Заўважце: і пры гэтым не праміне аглядзець кожнага прахожага,— майстра дадае з паблажлівай усмешкай старэй-шага чалавека, які разумее падлетка.

Сяргей навядзе на вечар вось такіх фіфачак — сваіх

знаёмых, а што я там буду рабіць? Зрэшты, зусім не збіраюся туды ісці, гэта маё рашэнне — канчатковае і беспаваротнае; мне толькі патрэбна прычоска. Ды і каб нават хацела пайсці, не змагла б — няма ж з кім дзяцей пакінуць!

А мо ўсё ж такі схадзіць? Толькі на пару хвілінак, каб аддаць падарунак і адразу ж вярнуцца? Сукенка ў мяне новая ёсць, і галава будзе ў парадку...

Ці аддаць аўтаручку заўтра? Не, ужо не той эфект. Эх, выкінула на яе аж шэсць рублёў!..

Покуль сябе мучу пытаннямі, з такой жа пластмасавай пласцiначкай на патыліцы другая маладзенькая асоба ля пусто-га крэсла чакае кліентаў, а яны ўсё не ідуць. Дзяўчына неспакойна круціцца, не ведае, куды падзець сваю энергію. Абедзве напамінаюць нечым Марынку, Віцю, шасцікласнікаў...

— Ой, сумо-ота! — кажа ў адчаі дзяўчына.

— Няма чаго рабіць?— спачувае мой майстра.— То пазвані ў заапарк!

— О, ідэя, дзядзька Рыгор!

Маладзенькая цырульнічыха кідаецца да апарата і набірае нумар.

— Гало, гэта — заапарк? Паклічце мне, калі ласка, да тэлефона старэйшага мядзведзя! Што — ён заняты? Нічога, я пачакаю!

У цырульні дружна рагочуць.

Не смяюся толькі я. Агіднае пачуццё. Бытта нешта краду ў гэтых перапоўненых жыццёвымі сокамі ды энергіяй дзяўчатак, бытта падстройваюся пад іх. Каб можна было ўстаць ды пайсці, я, вядома, пайшла б і не задумалася б, але на маёй галаве — металёвая сфера, як у марсіянкі, яна злучана са сцяной шнур-ком, а я сама прымацавана яшчэ грунтоўна да крэсла.

— Гатова! — з прафесійнай ветлівасцю, з ласкавай і бадзёрай значнасцю здымае майстра з мяне прычындалы ды папраўляе там-сям валасы.

Сорамна перад людзьмі разглядаць сябе ў люстэрку. Навошта мне, замужняй жанчыне, якую дома чакаюць дзеці, у будні дзень займацца прычоскай? Ці я здурнела? Што мае малыя навычаўплялі дома там зноў?

— Дзякуй вам! — хвалю работу майстра, а сама ўжо вырашыла цвёрда: вярнуся дамоў, падстаўлю пад кран галаву, усё змыю. Сказала сабе так і адразу ўздыхнула з палёгкай.

Праз пяць мінут я дома. Першым чынам паспяшаю да люстэрка. Адтуль глядзіць на мяне нешта чужое, з ненатураль-ным штучным тварам. І гаварыў жа Косця — завіўка не для мяне! Ах, стары падліза,— лаю цырульніка,— табе — абы грошы вырваць!..

Калі і былі ў мяне якія ваганні — ісці ці не ісці на імяніны, то цяпер не стала. Настрой псуецца дарэшты. Бяру сябе ў рукі, уздыхаю, адзяваюся ў хатні халат. Пачынаю азірацца па кватэры цвярозымі вачыма.

Ядзі і Олі ўжо не відаць. Бо-ожа, як мае малыя перавярнулі ўсё дагары нагамі — тут за гадзіну не дайсці да ладу А! дзе ж яны самі, чаму папрыціхалі?

З туалета валіць дым. Бягу туды, адчыняю дзверы. Пера-пэцканыя ў муку Віця і Марынка рвуць з газеты істужкі і пякуць там бліны.

Вось і пакінь іх адных!

— Вы што, хату спаліць сабраліся? — крычу з роспаччу, а ў душы кажу сабе: чаго да іх чапляюся, хіба ж яны вінаватыя? Жывыя дзеці!

Там недзе пачынаюць прыбываць на вечар у святочных гарнітурах і накрухмаленых кашулях госці ды гавораць дамам кампліменты... Ну і няхай. Гэта ж злачынства — пакідаць малых на ноч, а самой перціся на гулянкі!

Ад канчаткова прынятага рашэння нікуды не ісці робіцца зусім лёгка. Вось і добра — даўно б так.

— Ану, рабяты, за работу! — кідаю без злосці.

Адчыняем вокны, дзверы. Дружна чысцім памяшканне. Тады садзімся чытаць кніжку. З вуліцы пазванілі — каго там нясе?!

— Можна да вас, Станкевічы? — з'яўляецца раптам на парозе Вера з сынам.

— Ура-а-а, Ігар прыйшоў!— вішчаць мае малыя ды кідаюцца распранаць сябра.

А я ад інстынктыўнага жаху, ад нейкага прадчування аж прысядаю, прыгінаюся ды нават — адступаю.

«Ве-ерачка, ро-одная, мі-ілая, навошта табе было прыходзіць да мяне якраз сёння і ў гэтую пару? Не магла з'явіцца хоць на гадзіну пазней?!»

— Ты некуды збіралася, Іра, дык можаш адпраўляцца! — чую бы з-за сцяны голас сяброўкі.

— От малайчына, што выручаеш...— адказвае Верын голас, падобны на мой.

## 13.

У госці іду сама не свая. Разумею, што раблю дрэнна. Сяр-гей правёў бы імяніны выдатна і без мяне, а падарунак аддала б і заўтра. Ну і што, калі жыве з маці? Усё роўна — халасцяк, а я — замужняя жанчына і мужава жонка. А тут яшчэ новая прычоска дадае няўпэўненасці, бянтэжыць дарэшты. Галаву трымаю прама, хвалююся ад сустрэчы з тым, пра каго зумысна цэлы дзень старалася не думаць. З-за яго робіцца страшна, млеюць ногі — жыва ўяўляю, што зараз адбываецца на кватэры нашага настаўніка гісторыі. Стукаю ў дзверы.

— Калі ласка, калі ласка, заходзьце!—запрашае Сяргей. — Вас мы якраз і чакаем! Нам, мужыкам, не хапае вельмі жано-чага духу хоць на развод — царыцай балю вам быць!.. Здымайце паліто!

У калідоры ён мяне распранае, а ў гэты час чуваць галасы вясёлай і падпітай кампаніі. Насцярожана слухаю. Знаёмы голас штосьці цікава расказвае, яго забіваюць выбухі смеху. Я даўно заўважыла: Косцю рассмяшыш тады толькі, калі нечым здзівіш, а тут здаровыя мужчыны рагаталі, бо ім проста было весела. Рогат чужых мужчын мяне насцярожыў, адштурхнуў, але адступаць позна.

Здымаю высокія боты, абуваю туфлі, папраўляю каля люстэрка валасы і заходжу ў пакой.

Ад гоману, ад жывога клубка людзей, ад папяроснага дыму ды паху віна губляюся дарэшты. У маіх руках — падарунак! — успамінаю. Сарамліва аддаю імянінніку скрыначку з аўтаруч-кай, забываю сказаць нават тыя словы, што прынята казаць у такіх выпадках. Гаспадар садзіць мяне побач з тым, хто забаўляе кампанію.

Маё сэрца не ашукала ў прадчуванні: той, каго чакала, — тут.

— Ірыну Іванаўну аддаю на тваю апеку, Пятро! — загадвае яму гаспадар.

Толькі ён чамусьці не надта радуецца нашай сустрэчы. На прывітанне стрымана ківае галавой. Дагэтуль ён забаўляў кам-панію, а сваім прыходам я нібы выбіла з яго рук ініцыятыву. Хвіліну позіркі затрымліваюцца на мне, ляцяць у мой адрас агульныя словы ўвагі, жарты, якія прынята гаварыць у такіх выпадках. Затым увагай гасцей авалодвае ўжо другі гаварун.

Пятро маўчыць некалькі хвілін ды нечакана шэпча:

— А я вас чакаў!

— Пра-аўда? — палохаюся сваёй радасці.

— І ведаў, што з'явіцеся так позна!

— А мне здалося, вы незадаволены, што тут з'явілася яшчэ і я!

— Памыляецеся!

— Прыемна гэтак памыляцца...

— А мне прыемна, што вам прыемна!

— То і добра!..

— Я чакаў, чакаў...

— Раней прыйсці не магла. Покуль управілася са сваім калгасам...

— Покуль пачысцілі свае пё-оркі...— паказвае вачыма на прычоску.

Я рагачу.

— Ну, давядзецца цяпер нас даганяць! Па-першае, вам — штрафны!

— Толькі не шмат!... Хопіць, дзякуй!

— Будзем здаровы! Да дна, да дна!.. Во-о, та-ак! А цяпер чым вас пачаставаць?

— Усё роўна — не галодная.

Па нейкім часе адчуваю сябе ўжо свабодней — аж занадта. Мне даўно не было так добра..

## 14.

Непрыкметна мінае ў гасцях гадзіна, другая.

Пасля тостаў і пачастункаў нехта здагадваецца ўключыць музыку. Ідзём танцаваць. Пятро ўпэўнена водзіць мяне па невялічкім пакоі, то падпявае

пласцінцы, то нешта спрабуе расказаць. Раптам нахіляецца ды шэпча:

— Можна вас называць па імені?

— Можна...

— Іра, вам вельмі прыемна апавядаць. Гаварыў вам хто-небудзь пра гэта?

— Не. Чаму прыемна?

— У вас чароўная звычка слухаць з наіўнасцю малога дзі-цяці нявіннага.

— ?!

— Праўда, праўда!

— А гэта добра ці дрэнна?

— Самі вырашайце!

— Ладна, падумаю...

— Фу, гэта я ўсё балбачу ды балбачу, а вы маўчыце? Раскажыце што-небудзь таксама!

— У мяне — нічога цікавага на рабоце не бывае! Так, дро-бязі, бо я ўсяго — настаўніца.

— Аднак?

І я апавядаю пра сённяшні выпадак з вучнямі на ўроку вытворчага навучання. Гавару з хваляваннем ды адчуваю, як у мяне здорава атрымліваецца, як ад уздыму гарацб вочы,—я павінна цяпер быць прывабней.

— Го, засталіся ўжо толькі мы, паглядзіце! — раптам абрывае мяне здзіўлены партнёр.

Толькі цяпер спахопліваюся, я ж — у гасцях, ды азіраюся таксама. І праўда, амаль усе госці разышліся. Музыка маўчыць. Мы недарэчы тырчым сярод пакоя, паклаўшы адно на аднаго рукі. За сталом двое падпітых

мужчын, але яны не звяртаюць на нас ніякай увагі, заняты размовай.

Садзімся пад сцяну, хвіліну маўчым ды з недаўменнем азіраемся яшчэ раз: аж гэтак забыцца? Ну і ну! Чуваць, як мужчына з крыўдай апраўдваецца перад другім:

— Жылі мы ўтраіх, як браты, разумееш? Дэмабілізаваліся адначасна. Я тут ажаніўся з настаўніцай, а другую пасватаў Фёдару. Трэцюю мы ўжо ўдвух выбралі Мікалаю, разумееш?.. А праз год, разумееш, выявілася, што яна — з Тэ-Бэ-Цэ!..

— Ай-яй-яй!..

— Ну! Разумееш? Мікалай цяпер распіўся і злуе на нас, разумееш?

— То хіба ж вы вінаватыя? — пераконвае чалавек сябра. — Вы ж — не богі і не маглі ведаць, што яна сухотная, якая можа тут быць крыўда?!

— Я таксама так думаю, разумееш?! Вядома, каб мы ведалі, то хіба ж?.. Мы ж не дурні і не ворагі самі сабе! На выгляд была, разумееш, дзеўка — як рэпа, ды яшчэ з дыпломам і з кватэрай. Нам здалося — якраз Мікалаю тое, што трэба! Ды атрымалася, разумееш, вось што!.. То, скажы, пры чым тут мы? Хіба ж нашыя вочы — рэнтгенапараты?

— Вядома, не апараты! Каб ведаў, дзе ўпадзеш, напэўна, сеў бы!.. Ну, і Мікалай злуе цяпер, гаворыш?

— Яшчэ як! Разумееш, не вітаецца нават, не заходзіць. Мо з паўгода да мяне ўжо не заглядаў. Фёдар з сям'ёй выехаў, і мне цяпер нават выпіць пасля лазні няма з кім!

— Дурань Мікалай.

— І я кажу.

Мужчыны тыкаюць акуркі ў талеркі з вінегрэтам, цяжка ўздыхаюць, упарта і змрочна думаюць.

Я добра ведаю гэтую настаўніцу. Мы ўсе лічылі, што якраз у яе — чулы і клапатлівы, сціплы і працавіты, сумленны і сар-дэчны муж. Я нават ёй зайздросціла. Мана! І праўда, у ціхім балоце чэрці водзяцца. Робіцца сумна. Узнімаю вочы на сябра. На яго хмурым твары — абурэнне, яму няёмка, што я ўсё чула, хлапец вось-вось нешта рэзкае скажа.

— Пе-еця, не звяртайце на іх увагі! — малю.

— Пойдзем адгэтуль тады, я не вытрываю!— кідае рашуча.

— Хадзем,— ахвотна згаджаюся.— Ужо і позна!

— Нягоднікі!— Пятро не можа супакоіцца.— Як іх зямля на сабе носіць такіх!

— Цынікі! — дадаю.— Па-настаўніцку гэта называецца — з эмацыянальна беднымі душамі! Людзі — без жаласці, міласэр-насці, без здольнасці суперажываць чужую бяду...

Аднекуль з'яўляецца сам гаспадар і непатрэбна ўмешва-ецца:

— Нашу Ірыну Іванаўну правесці — халасцяку!

— Дазвольце?— прыкідваецца хлапец, бытта мы не дамо-віліся пра гэта самі.— Такое заданне я выканаю з прыемнасцю: слова за вамі, Ірына Іванаўна!

— Калі ласка, вядзіце! Бывайце, Сяргей Міхайлавіч! Дзя-куй за гасціну і цудоўны вечар! Жадаю вам многа-многа гадоў жыць на свеце і быць шчаслівым! Яшчэ жадаю, каб наступныя імяніны спатыкалі ўжо не адзін!

— Дзякуй. Прабачце, што не магу з вамі пайсці... Але вы — у надзейных руках, будзьце спакойны. Я гэтым часам займуся астатнімі гасцямі!..

— Займайцеся!

У калідоры Пятро прысядае на ўслонік, дапамагае мне

абуць боты. Ківаючы галавой, не то думае ўслых, не то робіць мне камплімент:

— Эх, некаторыя панчошкі — ідэальна напоўненыя маці-прыродай!

Разгублена мнуся, але ён ужо мае туфлі па-гаспадарску загортвае ў газету ды распіхвае па кішэнях свайго паліто — дакладна так, як робіць у такіх выпадках Косця! І гэтак жа абураўся на цынічных мужыкоў. Што за дзіўнае падабенства?!

— Пайшлі! — катэгарычна загадвае, а цвёрдай далонню бярэ мяне пад руку.

## 15.

І вось мы ўжо на вуліцы.

Парыпвае снег. Паветра чыстае, дыхаецца лёгка. Ціха, толькі весела гараць лямпачкі. Даходзім да бязлюднага моста, а я ўсё не магу супакоіцца ад пачутага. Шкада нашай настаў-ніцы. Як добра, што побач — сябра, якому можна пажаліцца.

— Хочаце, раскажу вам падобную гісторыю?

— Хачу,— не то жартам, не то ўсур'ёз, не то па-блазенску кідае мой спадарожнік.

— Вечарам пайшла я купіць булак, ды перасталі пускаць у магазін, бо збіраліся яго зачыняць. Мужчына адштурхнуў пра-даўшчыцу з ключом, уварваўся ўсярэдзіну. «Грубіян»,— толькі крыкнула яму наўздагон абуранае дзяўчо, і ведаеце што?

— Не ведаю...— гаворыць гулліва.

— Мужчына запатрабаваў кніжку скаргаў і запісаў, што яго абразілі...

Гісторыі не паспяваю скончыць.

Мы чамусьці спыняемся. Пятро раптам бярэ мяне за плечы і прыцягвае да сябе. Гэта адбываецца так нечакана, што спа-чатку нават не разумею, у чым справа. Вось ужо чужыя вусны з нейкай бяздумнай упартасцю паспешліва шукаюць мае. Пер-шае, аб чым падумала, было не тое, што я — замужняя жанчы-на, маці дваіх дзяцей, настаўніца і магу сябе скампраметаваць такімі паводзінамі на вуліцы нашага гарадка, дзе мне знаёмы ледзь не кожны другі чалавек. Я жахнулася: у мяне ж халодныя і макраватыя вусны і нос! І як чалавек, які падстаўляе руку, калі падае, інстынктыўна адскочыла.

Ён мяне затрымаў.

— Куды ты?! — выдыхае з нецярпеннем.

— Не трэ-эба! — упіраюся яму ў грудзі.

— Чаму-у?

У яго паводзінах столькі хлапечай і бяздумнай імклівасці, а ў вачах — нямой просьбы, што робіцца яго шкада. Стараюся ўсё загладзіць.

— По-ойдзем, Пе-еця!

— Але ж — чаму-у?! — папракае мяне і не кранаецца з месца.— Я адчуваю, што ты мяне цяпер кахаеш!

— ?!

Недарэчы ўспамінаюцца прыставанні хлопцаў, калі я была яшчэ студэнткай. Усё адбывалася дакладна гэтаксама. Здалося, і я з таго часу не змянілася ані крыху.

— Пеця, супакойцеся!

— А-ай!..— ківае ў адчаі галавой ды расчаравана адыходзіць.

Папраўляю прычоску, азіраюся.

На вуліцы — ні душы. Дзіўна, але я не пакрыўдзілася за яго ўчынак. Я была ў палоне не то нейкай азартнай гульні, не то рамантычнай узнёсласці, не то мацярынскага шчасця. Было надта радасна і весела, а галоўнае — на хвіліну адчула, што валодаю гэтым хлопцам, як сваім сынам.

— Ну, супакоіліся? — пытаюся са спачуваннем.

— Ладна, хадзем! — вяртаецца ён і бярэ мяне пад руку.

— Ці ж можна так? — тлумачу яму мякка і далікатна, каб супакоіць.

**16.**

Крочым далей. Але не па мосце, а праз рэчку. Як гэта здарылася і калі, я і не заўважыла. Вакол ужо дыхаюць варам палонкі, у іх булькае густая, кіпучая вадкасць. Гудзе лёд. Пад ільдом клякоча нашая магутная рэчка. Мне страшна. Я ўжо інстынктыўна гарнуся да ўпэўненага і дужага мужчынскага пляча. Мае пальцы тонуць у глыбокіх далонях. Страшна, дзіка і прыемна. Бераг круты, мы некалькі разоў на ім падаем і ўзбуджана, як у сне, дапамагаем адно аднаму на яго ўзабрацца, смяёмся ненатуральным смехам.

Чым бліжэй падыходзім да дома, тым хутчэй крочу я. Разумею, трэба абавязкова застацца адной, але зрабіць гэта не маю сілы, не магу і не веру, што вось зараз развітаемся.

— Ну, мы і прыйшлі. Дзякуй...

— Можна да вас на хвілінку? — хлапец пытаецца амаль шэптам і з дрыжаннем у голасе.

— Што-о вы...— мнуся спалохана, аднак сваіх рук не адымаю ад яго.

Дзіўнае ўражанне. Усё, што ў гэты момант раблю, мне

зда-ецца, што раблю не я. Нібы ўсё адбываецца з другім чалавекам, а я толькі аднекуль збоку ці зверху назіраю за падзеямі ды з жахам думаю аб выніках.

— По-озна, Пе-еця...— чую зноў не то свой, не то чужы голас.

— На хвілі-іну...

— Гадзіна но-очы...

Дом мой спіць. Ні ў адным акне не гарыць святло. Непрыемная цішыня пануе і на невялікім, заўсёды гаманлівым, як кірмаш, двары. Мной валодае незразумелае і ўзбуджанае хваляванне. Нібы я не іду, а — плыву праз знаёмы двор. Нібы не мае, а чужыя рукі гэтак няўмела, недакладна, нязграбна, як бы рабілі першы раз у жыцці, тыкаюць ключом у дзверы і ніяк не знойдуць замок.

Уваходзім у кватэру. Ён моўчкі здымае паліто. Дапамагае і мне зняць. Чую, як увесь дрыжыць.

— Холадна?— пытаюся не сваімі вуснамі ды прыкідваюся, бытта не разумею прычыны яго хвалявання.

— Аг-га, ч-чор-рт...

— Зараз уключу рэфлектар, бо цэнтральнае ацяпленне ў нас слабое...

Уключаю святло і зыркаю на кватэру.

У суседнім пакоі сабе спакойна спяць малыя, а тут на стале — пакінутыя імі шклянкі з недапітым малаком і кавалачкі булкі. Зыркае святло, галоўкі дзяцей у ложках ды непарадак на стале і на падлозе — мяне ўраз выцвярэжваюць. Сорамна ўжо, няёмка, што вось так позна зайшоў да мяне на кватэру чужы мужчына.

Чаго ён тут? Што яму трэба?..

І я, добрая цаца, дазволіла!.. Папрашу прабачэння і вы-

праваджу. Выправаджу зараз жа — ні хвіліны трымаць не ста-ну, я ж яшчэ не настолькі адурнела! Адно газетай прыкрыю ежу...

Аднак не паспяваю дайсці да стала.

Шчоўкае выключальнік і наступае цемра. Ля вуха адчуваю напружанае дыханне. Мяне падхопліваюць дужыя рукі, узніма-юць угару. Адчуваю на сабе прагныя пацалункі і чую бязладную просьбу. І зусім не словы, якіх нельга разабрзць, а збіўчывы, незразумелы шэпт туманіць маю галаву дарэшты. Раблюся рап-там зусім бязвольнай, нібы п'янай, нібы ўся, без астатку, рас-твараюся ў паветры, а наваколле некуды плыве, і я плыву ра-зам, свядомасць жа мутнее і мутнее. Толькі рэшткамі гэтай свя-домасці сілю сябе гаварыць, але з мяне вырываецца адзін стогн:

— Не трэ-эба!

— Не трэ-эба, Пе-еця...

— Не-ельга так!..

— Што ро-обіш, не вар'ю-уй!

Аднак рукі мае цягнуцца да яго рук, я ўся ціснуся да мускулістага цела.

— Якая ты пяшчотная, ласкавая!

— Як у цябе ўсё нерастрачанае!

— Якая ты яшчэ няво-опытная!..

— Якая ты яшчэ зялё-оная!..

— Малы-ышка ты!..

## Раздзел чацвёрты

**1.**

Вяртаюся я з Масквы, а ў інстытуце — месца занята і вызваліцца толькі праз паўгода. Гэтыя шэсць месяцаў, вядома, мог бы жыць за кошт ганарараў, друкуючы навуковыя артыку-лы і брашуры, ды побач з пісаннем іх патрэбен яшчэ быў занятак, які б падтрымліваў ва мне неаслабнае напружанне, пры якім бы я адпачываў душой з-за новых уражанняў, дзе б папаўняў свой жыццёвы вопыт і трымаў бы, як кажуць, палец на пульсе дня. Таму пасля вучобы стаў працаваць у рэдакцыі.

Між іншым, з кніжкі пра Макарэвічаў — Любу і Паўла — нічога не атрымалася. Пісьменнікі ў Гродне, каму я адправіў фрагменты свайго будучага твора, вельмі пераканаўча мне рас-тлумачылі: каб стварыць раман, гісторыі адной сям'і — нават самай незвычайнай — недастаткова. Пісаць проста біяграфію бывалых людзей — здалося нецікава. Абмежаваўся адным нарысам.

І вось выпала дяжурства па газеце, калі на цэлы нумар пайшоў афіцыйны матэрыял. Перадалі яго па тэлетайпе веча-рам. Покуль набіралі лінатыпісткі тэкст, вычытвалі яго карэкта-ры, мінуў нейкі час, і дзяжурным здаваць газету на ратацый-ную машыну давялося кадта позна. З рэдакцыі вяртаюся, калі канчалася ноч, святла можна ўжо і не ўключаць.

На кватэры — пуста. Яшчэ звечара Іра з дзецьмі адправі-лася начаваць у вёску да маці. Зусім нядаўна ў нас паявілася трэцяе дзіця — сын Валодзя, Іра забрала туды і яго. Жонка не працуе, вядзе гаспадарку сама. Адчуваю сябе дрэнна — надта ўзбуджаны. Не хочацца есці, хоць не вячэраў, не хочацца і спаць, хоць мінулую ноч да чацвёртай гадзіны сядзеў над рукапісамі. Прымусіць бы сябе хоць выспацца. Адчыняю акно, раздзяваюся, кладуся ў ложак ды чакаю, калі перастане кружыцца галава.

Такі стан здароўя ў мяне даўно. Фактычна, як здаў яшчэ ў Маскве да друку кніжку пра творчасць і эмоцыі, так адразу ва мне і не стала той спружыны, якая звычайна дадавала энергіі і бадзёрасці. Ад гэтага ці не ад гэтага, а цяпер — бытта той пенсіянер, які раптоўна апынуўся

без занятку і чахне. Я бытта бы растварыўся сярод натоўпу людзей, мэблі, памяшкання і ледзьве сабе ўсведамляю — дзе я і што са мной адбываецца...

У пакой убягае Віця:

— Тата, у магазін прывезлі ракетныя веласіпеды, ты мне абяцаў?

— Ой, сын, дай мне свенты спокуй — у мяне ногі прыраслі да ложка!

— Але ты мне абяцаў? Абяцаў! Сам казаў, што трэба зрабіць, калі абяцаеш! Хадзем, купім!

— Што з табой зробіш...— я праз сілу ўстаю, праз сілу адзяваюся.— Ну, пайшлі!

Пранікаем праз сцяну, нібы праз туман. Апынаемся на тратуары.

— Я паеду ўперад!— аб'яўляе сын.— Ля універмага затармажу і цябе пачакаю, ладна?

— Давай!

Віця закруціў рукой, бытта прапелерам, зароў, як матор, ды памчаўся. Падаюся за ім следам. Вуліцы чамусьці ненату-ральна крывыя, незнаёмыя. Плятуся то праз падворкі, то праз нейкія платы і бар'еры, а прахожыя кудысьці надта спяшаюцца і ўсе рагочуць.

Ля магазіна застаю Віцю ўжо чамусьці вялікага, роўнага з сабой ды з залатым зубам. Ён кагосьці выглядае, а мяне не хоча прызнаваць...

Адно тут спахопліваюся — гэта ж сон!

Расплюшчваю вочы, азіраюся.

Па-ранейшаму ў пакоі — пуста. Праз акно заглядваюць промні сонца. З вуліцы даносяцца бадзёрыя галасы прахожых, гудуць машыны. Я спаў гадзіны тры, але галава ўсё гэтаксама цяжкая, а ў целе — тая самая

нервознасць. Чорт, узяць бы ка-лун, пакалоць бы дроў з паўдня, і фізічная папружанасць ураз зняла б усю гэтую брыду! Але ж дзе ты гэтых дроў зпойдзеш у горадзе?!

Урыўкі гутарак з вуліцы дзейнічаюць на мазгі — яны мяне і вывелі са сну. Трэба было б зачыніць акно, ды разбірае лянота. Нічога, зараз устану ды зачыню. Тады апрануся, пахаджу па свежым паветры, яно таксама дапамагае ад болю галавы — праверана вопытам. Покуль што крыху паляжу, ачуняю, падумаю.

Нешта меўся ўспомніць...

Ага, што за трывога мяне мучыць апошнім часам? Вось ужо чатыры месяцы, як вярнуўся з вучобы да сям'і, выдавецкія справы ідуць выдатна, на рабоце хваляць, выбралі мяне нават дэпутатам мясцовага Савета, старшынёй камісіі гарвыканкома, а спакою — няма і няма.

Чорт на яго, чаму гэтак цёпла? Ух, як ласкава мяне нешта грэе...

Паварочваюся на бок. Гэ, дык жа побач са мной — Іра! І выгляд у яе, як у дзіцяці. Часамі яна бывае такой маладзень-кай, бездапаможнай, і тады вельмі яе кахаю. Вось і цяпер сціснулася ўся ў камячок, захутаная шчыльнай коўдрай, прыадкрытая толькі з майго боку, адкуль і абдае мяне мілым, так знаёмым цяплом. Яна заўсёды любіць песціцца, як кацянё.

Пачакай, а хіба ж у яе трое дзяцей? Калі ж яны нарадзі-ліся? Вядома, няма! Гэта мне снілася пра іх, а на самай справе мы ж з ёю зусім яшчэ нядаўна пажаніліся. У нас няма нічога, і мы нават салому ў ложках накрываем газетамі замест прасцін! Фу, а прыдалося, што ў мяне аж два сыны і дачка! Сына Віцю бачыў як жывога, гаварыў з ім, хадзіў нават разам купляць веласіпед! Ліха на яго, чаго толькі не напляцецца, калі заснеш?!

Робіцца вельмі шкада, што ў мяне няма дзяцей яшчэ. Адначасова становіцца не то радасна, не то лёгка і свабодна ад таго, што ўсе трывогі былі ш ўяўныя. Гм,

няўжо ў мяне і ў Іры некалі сапраўды будуць сыны, дочкі? Вядома! А покуль што мушу ад'язджаць у Маскву, таму Іры давядзецца ўставаць ды рыхтаваць мяне ў далёкую дарогу. Эх, як неахвота ехаць, але ж — мушу. Нават трэба спяшацца. Яшчэ неабходна расказаць ёй дзіўны сон пра нашых будучых дзетак — ото ж пасмяёмся.

Асцярожна пачынаю будзіць жонку, Іра не адкрывае вачэй, моліць:

— А-ай, Косцік, не перашкаджай! Мне малінавае варэнне сніцца, дай сон даглядзець!

Хачу зарагатаць, але вобраз жонкі знікае, у вушах зазвіне-ла, зрабілася цёмна ды пачало мяне нібы гойдаць. Расплюшч-ваю вочы, і гэты раз убачыў сябе ў ложку толькі аднаго. Што такое?

Халера, дзе ж сон, дзе — рэчаіснасць?

Не, цяпер, здаецца, прачнуўся нарыхтык.

На будзільніку — дзесяць гадзін. Промні ў пакой ужо не заглядваюць. Масіўныя двайныя вокны цяпер зачынены, і з вуліцы — ні гуку. Выразна адчуваю — на гэты раз вывела мяне са сну поўная цішыня. Гм, што за ліха, я ж адно намерваўся іх пазачыняць і зараз жа заснуў, хто ж гэта зрабіў за мяне?! Няўжо не памятаю, што раблю?!

Во, не хапала, каб пачаў забывацца, як стары дзед.

Па-ранейшаму галава цяжкая, а ў целе — гэтаксама нер-возная ўзбуджанасць, якаясьці незакончанасць і дрыжыкі. Га-дзін пяць сну прайшло міма, не зачапілі ні душы, ні цела. Зас-таўся і неспакой. Ясна адно — болей не засну, таму ўзнімаюся з ложка.

Праз шкляныя дзверы відаць, як у суседнім пакоі за сталом сядзіць Іра, трымаючы па руцэ Валодзю. Значыць, ужо вярнулася? А-га, вунь хто паклапаціўся, каб мужу лепей спалася, і пазачыняў вокны ад вуліцы! Тады ўсё ў парадку, яшчэ з глузду не з'ехаў.

Агортвае ўдзячнасць да жонкі. Зноў узіраюся на яе.

Іра нешта старанна піша. Валодзя ў яе на руцэ спакойна спіць. Другі сын з'явіўся для нас нечакана, і ў мяне покуль што да яго няма тых пачуццяў, якія калісьці ўзніклі да Віці і Марынкі яшчэ задоўга да іх нараджэння,— бо перадаваліся ад маіх бацькоў, якія так чакалі ды не маглі дачакацца ўнукаў і ўнучак, што пават трацілі надзею. А змянілася Іра апошнім часам. На твары ў яе з'явілася незнаёмая мне духоўная прыгажосць — чужая і далёкая. Ад чаго б гэта, няўжо ад родаў?

Пачынаю адзявацца, каб ісці да жонкі і сына.

**2.**

Іра не бачыла, што я прачнуўся. Яна, відаць, успомніла, што на пліце нешта варыцца малому, бо раптоўна ўсхопліваец-ца і з Валодзем ляціць на кухню. Спакойна зашпіляю на сабе гузікі, абуваюся ды выходжу ў пакой. Паміма волі мой позірк спыняецца на лісточку паперы, што ляжыць на стале. Да ўсяго напісанага мяне цягне як магнітам — даўняя звычка.

«Мой мілы, родны Пецяя! — механічна пачынаюць чытаць мае вочы добра знаёмы жончын почырк.— Нягледзячы на тое, што мы з Валодзем ледзь не цэлыя суткі правялі з Табой...»

Аб чым гэта яна?

Як гэта — «правялі ледзь не суткі з Табой»?

Што-о?! Не можа гэтага быць!.. Яны ж гэты час былі на вёсцы, у маці?!

Раптам здалося, што пада мной расступаецца зямля, маё сэрца замірае ад жаху, я трачу пачуццё вагі, таму лячу і лячу ў нейкую бездань, якой няма канца і краю.

Яшчэ ў часы вайны я заўважыў, як у хвіліны небяспекі ці ў моманты нечаканасці ў мяне — тупаватага і павольнага па на-туры чалавека — з'яўляецца нечаканая здольнасць маланкавай рэакцыі ды імгненнага мыслення. Гэтая вось здольнасць абуджаецца ва мне і зараз.

За долю секунды паспяваю не толькі зразумець, што мяне кранула вялікае няшчасце,— ацаніў я нават яго маштабы. За гэтае імгненне паспяваю нават параўнаць сябе з тым нешчаслі-вым салдатам, які ў хвіліну смяртэльнага ранення на фронце з роспаччу папракае свой лёс, што з мільёнаў людзей злая куля выбрала сабе ў ахвяру менавіта яго, ды задае сабе, цэламу свету адно роспачлівае пытанне: навошта мне, а чаму менавіта мне, чым я горшы за іншых, чым???

Нават хапаюся за кволую надзею: магчыма, і гэта толькі сон, я прачнуся, і ўсё будзе па-ранейшаму? Снілася ж хвіліну таму назад, што ў мяне няма ўвогуле дзяцей?! Снілася!.. Яна не можа гэтак пісаць чужому мужчыне, бо мяне кахае, да мяне не раўнадушная — вось толькі што нават вокны пазакрывала, каб мужу лепш спалася, і дзверы зачыніла!

Але адразу праганяю наіўныя аргументы.

Праганяю ад сябе ўжо не толькі рэшткі сну. За імгненне пазбываюся і ад псіхічнага стану, у якім знаходзіўся апошнія месяцы. Паводзіны Іры раптам узнікаюць перада мной, як адно цэлае, і я ўсё адразу ды канчаткова зразумеў.

Нават паспяваю здзівіцца з таго, што гэтак доўга быў дурнем ды нічога не разумеў.

Адным словам, апрытомнеў я дарэшты. Пачынаю чамусьці заўважаць у пакоі дробязі.

Чуваць, як на кухні нешта на пліце шыпіць — дакладна гэтаксама шыпела ўчора, год таму назад.

Гудуць трубы каналізацыі, як звычайна гулі яны, калі

мянялася надвор'е.

Блішчаць, бы навошчаныя, шырокія лісты фікуса.

Гараць на падлозе сярэбраныя квадраты сонца, а на вуліцы прыглушана гудуць аўтобусы, ад чаго лёгка вібруюць сцены...

Недарэчныя дэталі займаюць маю ўвагу толькі на момант. З папрокам, з прыкрасцю і абурэннем адразу адганяю іх ад свядомасці, бо зноў увагу прыцягвае ракавое пісьмо.

Перада мной усё гэтаксама ляжыць паперка з ірванымі краямі, якую Іра наспех выдрала са сшытка. На паперцы — выразныя, да болю роўныя і даўно знаёмыя, яшчэ макраватыя каліграфічныя радочкі літарак настаўніцы, у якіх такі крыўдны і варожы для мяне змест. Намагаюся ўчытацца ў яго другі раз.

«...Пішу Табе і плачу, бо толькі Ты мне патрэбен, толькі каля Цябе мне спакойна і хараша, а майму сэрцу больш нічога на свеце не трэба...»

З радкоў павеяла такой жудасцю, што захацелася ад нечага засланіцца ды закрычаць:

— Не! Не! Не!

Зноў здалося, што з-пад маіх ног расступаецца зямля, з галавы адхлынула кроў, у вушах зазвінела, а маё цела як бы страціла вагу. Нават я пастараўся злавіць край стала і здзі-віўся, што ён — дакладна ў тым самым месцы, дзе і павінен быць, калі б я стаяў, не кранаючыся з месца, што я дарэмна за яго хапаюся.

У калідоры з'яўляецца Іра. Каб не даць магчымасці мне апамятацца, каб адцягнуць маю ўвагу, яна моцна стукае дзвярыма ды з фальшывай радасцю крычыць:

— А вось і наш тата ўстаў! Чаго так рана? Паспаў бы яшчэ, татачка!

Звяртацца да мяне ад імя сына ёй зручней. Якое ў яе,

аднак, ненатуральна прыгожае, незнаёмае і чужое блісканне вачэй і зубоў?!

— Валодзя, кажы: добры дзень, татачка, ты позна, мабыць, лёг і стамі-іўся?!

У яе вачах толькі цяпер улоўліваю неспакой. На імгненне яна вачыма мерае адлегласць, якая аддзяляе мяне ад паперкі, і стараецца па маім твары нешта разгадаць.

«Бо-ожа, няўжо ты прачытаў?» — мільгае ў яе позірку трывога. Аднак нічога, што сцвярджала б яе здагадку, на мне не ўбачыла. З зайздросным перакананнем і спакоем загадвае:

— Косця, вярніся і надзень свежую кашулю! Хіба сёння субота? Якую кашулю, гэтая ж — чыстая, што за камедыя?!

— Там у шафе ляжаць зверху! Вазьмі сабе сам, а я тым часам прынясу снеданне!

Мусіць, толькі цяпер я па-сапраўднаму ацаніў усю асалоду сямейнага жыцця. Захацелася надта прадоўжыць яго хоць на хвіліну, нават — цаной самаашуканства. Тое, што здарылася, адчуваў толькі свядомасцю, яно не паспела пранікнуць яшчэ ў мае клеткі, у косці, у мозг, у кожны нерв, таму так свабодна магу яшчэ прыкідвацца, бытта нічога і не адбылося. Набытая жыццёвым вопытам асцярожнасць не дае адразу прыняць рашэнне, не дазваляе выбухнуць. У мяне нават з'яўляецца апраўданне, я падпарадкоўваюся такой логіцы: няшчасце здарылася не дзень, не месяц таму назад, нічога не зменіць і хвіліна ўжо, а за гэты час можна падумаць і знайсці якое-небудзь выйсце. На нешта, наіўны, спадзяюся і таму намерваюся рабіць тое, чаго дамагаецца Іра: вярнуцца ў спальню. Адно збіраю ў кулак усю сілу волі толькі б не выдаць сябе, толькі б цвёрда ставіць нагу, толькі б проста трымаць галаву, толькі б не выдалі мяне ногі, рукі!..

Валодзя ўжо не спіць. Свой позірк затрымліваю больш,

чым трэба, на кірпатым носіку, пакрытым залацістым пушком, на бяздумных бусінках вачэй, выдаўліваю нават з сябе нешта падобнае на ўсмешку ды зараз жа яе гашу. Тады хмуры, як звычайна гэта робяць сонныя і спрацаваныя людзі, няўклюдна паварочваюся і буркаю:

— Калі табе так хочацца, то змяню, мне — што…

Затым вельмі звычайна, надзіва звычайна і спакойна ды нармальным зусім крокам іду па простай лініі, бытта нічога і не здарылася.

У шафе незнарок чапляю акуратны стосік яе шаўковай бялізны. Гэтыя з мярэжкамі кашулькі, з лямкамі камбінацыі і бюстгальтары цяпер мне здаюцца самым прыгожым і прыем-ным з таго, што я калі-небудзь на свеце бачыў. На іх гляджу крадком і адразу адымаю руку, бо мяне ўпікае думка: а ці маю права дакранацца зараз да гэтых рэчаў? І не толькі — права да гэтага: я ж страціў і яе ласку ў пасцелі!

Не можа гэтага быць?!

Усё памеркла, бо менавіта гэтую ласку, фізічную блізкасць, права да гэткіх далікатных рэчаў у шафе не бачыў магчымасці замяніць чым іншым.

Маё каханне праяўлялася ў маіх бурлівых парывах. Выяўляецца, цяпер аб іх не можа быць і гаворкі, бо яны залежалі ад такіх жа шчырых Ірыных парываў у адказ.

Каханне — яшчэ і голад па чалавеку, пачуццё неверагод-най унутранай неабходнасці ў ім. Здаецца, не здолею і хвіліны жыць без таго, што кожны твой крок, кожнае імгненне напаўняе сэнсам і дае сілу.

Прыходжу ў жах — як уласная кватэра стала непрыемнай!

Калі пераапрануты зноў выходжу ў пакой, на стале пуста ўжо.

— А цяпер, Валодзя, кажы тату, каб ён хутчэй памыўся ды сядаў з намі снедаць! Ідзі, татачка, на кухню, зрабі

куп-куп ды вяртайся да нас хутчэй, а мы цябе пачакаем! Толькі хутчэй, не прымушай нас доўга...

Яна ўжо значна спакайнейшая, туліць бяздумную і кволую Валодзеву галоўку да сваёй, засланяецца дзіцём ды вінавата ўсміхаецца. Гляджу ёй у вочы, і на міг мне здалося: яна ж выдатна ведае, што я пра ўсё ведаю, і выразна бачыць — мне добра вядома, што яна ведае, што яе я разгадаў, але гэтаксама не можа знайсці выйсця і цягне камедыю.

Каб не выдаць сябе, каб не выбухнуць істэрыкай, каб не нарабіць глупстваў, апускаю галаву і моўчкі крочу міма стала.

У калідоры цягну з вешалкі пінжак, накідваю на плечы ды выскокваю на двор. Пад вокнамі лаўлю на сабе Ірын позірк. Нібы ўгінаючыся ад яго цяжару, прабягаю падворак, вылятаю на тратуар і адно тут адчуваю сябе вальней. Стараюся ўздыхнуць, дыхаю на поўныя грудзі, а палёгкі не адчуваю.

## 3.

Выяўляецца, не небяспека прыгнечвае, забівае чалавека, а — нутраная крыўда, страта веры, адчуванне бяссілля і безвы-ходнасці. Пачакай, куды ж мяне занесла, дзе знаходжуся? Ага, у нейкай гушчы людзей, бы — сярод дрэў у лесе. Ля прылаўка універмага сціснуты з усіх бакоў народам. Перада мной нейкі мужчына з жонкай выбіраюць малой шапачку — тоўстую, ватовую.

— Ма-ам, купі-і! — ные дачка.

— Дак гэтая рэч — на зіму! — абураецца мужчына.

— Купі-і!..

— Навошта яна табе цяпер?

Жонка стрымана і непрыязна, як змяя, шыпіць:

— Нічога, няхай адзяе!

Разгубленая прадаўшчыца шукае кампраміс:

— А сёння і хо-оладна...

— Што вы, бабы, дзе ж вы той холад убачылі?!

— Я сказала—хай мерае!

Ішла сямейная сварка.

Штосьці агульнае ў гэтай жанчыны з Ірай, калі злавалася і яна. Адчуваю братэрскую салідарнасць да яе мужа, а да яго жонкі, да ўсіх жанчын у магазіне, да ўсіх на свеце — варожую гідлівасць. Але гэтае пачуццё гарыць ва мне толькі хвіліну: бліснула і адразу растала.

Узаемнае каханне, добрая воля, згоднасць поглядаў, агуль-ныя інтарэсы—дзеці, супадзенне поглядаў, работа, кватэра ды вось такая вечная сварка, вечная вайна паміж мужам і жонкай называюцца — шлюбным жыццём. Недасяжным раем цяпер ужо яно мне здаецца — поўным вялікага сэнсу, заманлівай прыгажосці ды раскошы. Быў бы надта шчаслівы, больш нічога не хацеў бы ў жыцці, толькі б выбіраць вось зараз гэтаксама шапачку для Марынкі. І каб Іра тут на мяне гэтаксама кідалася ды бурчала.

Чаго я тут?! Куды ісці, што з сабой рабіць?! Божа мой, што за сітуацыя?!

Жыў, працаваў, хваляваўся, да нечага імкнуўся, радаваўся сям'ёй, а выходзіць — у мяне няма дома, няма гэтай самай сям'і, няма прытулку, а ўсё было — звычайным ашуканствам?!

Калі справа зайшла аж так, то, выходзіць, сям'і ў мяне не было ўжо даўно, толькі я, ахламон, пра гэта да сённяшняга дня не ведаў. Факты адзін за адным настойліва паўстаюць перад вачыма ды раняць мяне яшчэ мацней.

Аднойчы селі мы есці, а я заўважыў, што Іра глядзіць на мяне як бы з агідай, хоць я чалавек па натуры даволі ахайны і акуратны.

Іншым разам здымаў пры ёй кашулю, збіраўся мыцца і выразна ўбачыў, што мая галізна ёй непрыемная.

«Ты пахнеш мужчынам!» — з абурэннем выганяла яна мяне са свайго ложка.

Апошнім часам, калі выходзіў на работу, у мяне маглі быць растрапаныя валасы, вылазіць мог каўнер кашулі, і яна ад-пускала мужа, не заўважаючы: непарадак у адзенні падказвалі мне потым на вуліцы чужыя людзі ці сябры па рабоце.

У магазіне з'явіліся курткі. Цёплыя. Лёгкія і моцныя. Адна мне прыйшлася ў самы раз. Я яе купіў, а ўсе дзівіліся, як куртка мне пасуе. Толькі Іра не магла перанесці майго выгляду ў новым адзенні. Я тады ламаў усё галаву — чаму? Выходзіць, такое адзенне меў права насіць толькі іншы чалавек.

Пачаў бы, напрыклад, мяне сын распытваць пра пісталеты ды аўтаматы, і Іра адразу перабіла б маё тлумачэнне:

— Хіба ты ў гэтым разбіраешся? Штосьці мне не верыцца, каб ты імі калі карыстаўся, валодаў зброяй!..

Іншым разам тлумачыў Віцю, што такое бумеранг, і яна катэгарычна на мяне напала:

— Няпраўда, гэтая штучка з вяровачкай!

Яна як бы пільна сачыла, каб я не падняўся цяпер за той прымітыўны мой вобраз, які яна стварыла апошні год у сваёй душы: гэта было ёй апраўданнем перад сваім сумленнем.

У «Медицинской газете» з'явілася вялізная рэцэнзія на маю апошнюю кніжку «Эмоцыі». Артыкул адразу прыперла да нас Вера, але Іра паленавалася газету нават узяць у рукі, нядбайна сяброўцы кінула:

— Пакладзі на піяніна...

Калі я вяртаўся з сустрэчы з чытачамі, яна ўжо не цікаві-лася, як раней, што там было, якія задавалі пытанні, і не хвалявалася, як раней, ці сустрэча ўдалася.

Аднойчы мяне ўпікнула:

— Разумныя вучоныя бяруць творчыя камандзіроўкі на тры-чатыры месяцы ў далёкі глухі раён!.. Узяў бы і ты куды-небудзь на Поўнач, напрыклад, у тайгу або ў акіян!.. Вунь, пі-шуць, «Віцязь» адпраўляецца аж на восем месяцаў вакол свету, узяў бы ў рэдакцыі рэкамендацыю, характарыстыку, што не п'яніца, не распуснік, не прыпадачны, ды запрапанаваў бы капітану сваю кандыдатуру ў спадарожнікі!..

Ад апошніх яе слоў, памятаю, мне зрабілася страшна нават: я ж толькі вярнуўся з вучобы, перад гэтым год цэлы працаваў дома, якія могуць быць паездкі, мне ж не дваццаць гадоў?! Упершыню нібы насцярожыўся ад таго, што яна сказала, але і гэта пастараўся хутчэй забыць.

Пішучы апошнюю брашуру, заўважыў, што рабіць яе было ўжо чамусьці значна цяжэй — надта хутка стамляўся. Тлумачыў усё ўзростам. На самай справе не хапала Ірынай дружбы, жаночай падтрымкі, з-за якой у мужчыны адкрываецца «другое дыханне» і ён ужо гатовы перавярнуць свет. А частае знікненне з дому?..

Калі я стараўся яе затрымаць, Іра з абурэннем на мяне нападала:

— Што ты ведаеш пра работу настаўніка? Каб цябе так паставіць на маё месца!

Тады я сказаў, што яна з некім сустракаецца.

— Ты ўпэўнены? — спытала яна дзёрзка.

Я не толькі не быў упэўнены. І падумаць не мог пра гэта. Так гаварыў, абы што-небудзь сказаць. Яна ж,

бачачы маю разгубленасць, нападала па мяне, каб адвесці падазронасць, каб схаваць куды больш сур'ёзнае.

Ужо даўно нашая гаспадарка ішла цераз пень-калоду. У дзяцей з'явіліся двойкі і тройкі, пачалі скардзіцца настаўнікі. Дайшлі да мяне чуткі, што ў школе незадаволены настаўніцай Станкевіч. Я не паверыў сваім вушам.

Аднойчы Іра стала мне чагосьці патрэбнай, і я пазваніў у настаўніцкую. Адтуль са здзекам мне адрэзалі:

— Ха, хочаце яе тут знайсці пасля заняткаў? Наіўны, даўно гэта было!.. Цяпер яна ў школе ледзь затрымліваецца на ўроках!.. Не паказвае завучу нават паўрочных планаў!

«...Пішу Табе і плачу, бо толькі Ты мне патрэбен, толькі каля Цябе мне спакойна і хораша, а майму сэрцу больш нічога на свеце не трэба...»

Вядома, каханне, як я ўжо сказаў,— яшчэ і голад па чалавеку, пачуццё неверагоднай унутранай неабходнасці і сум па ім. Выходзіць, я — бервяно, што ляжала ўпоперак яе дарогі да шчасця?! Вось адкуль у яе і азлобленасць, і непрыязь.

Так-то яно так, але —дзе ж сумленне, вернасць, абавязак ды ўсе прынятыя грамадствам правілы паводзін мужа і жонкі? Як жа дзеці?! Няўжо яна пра іх не думала? Бо-ожа, што з ёю здарылася, яна ж такой, здаецца, ніколі і не была, адкуль гэта ўзялося ў яе?!

Атрымлівалася, што я, наіўны, знаходзіўся на адной кватэ-ры з чалавекам, які мяне ашукваў, прадаваў, жывучы з другім, і, магчыма, спадзяваўся, нават — чакаў, што траплю пад машыну ці недзе ўтаплюся. Аб такіх выпадках толькі чуў, чытаў у раманах, бачыў у кіно, а вось дакладна тое самае здарылася і са мной. Толькі мы можам колькі хочаш чытаць пра ўсё гэта, глядзець у фільмах, нават маляваць сабе ва ўяўленні ды ведаць, што такое можа здарыцца і з табой, але ж, калі

гэта пацвердзіцца, стане заўсёды для нас вельмі нечаканым ды балючым. Вось і для мяне зараз усё гэта абярнулася фактам, а не меркаваннямі, і каторы раз пачынала зноў знікаць з-пад ног зямля. Няўжо ўсё гэта не сон?

Дзе ж ратунак? Як мне цяпер быць? Хто ж гэты тып, з-за якога яна не палічылася з грамадскай думкай, з працай, з мужам і дзецьмі нават?

Да невядомага мужчыны адчуваю лютую злосць, зайздрасць і крыўду. Што буду рабіць потым, сабе яшчэ не ўяўляю, а толькі ведаю, што мушу зрабіць зараз. Хоць пад зямлёй, але мушу, абавязкова мушу знайсці гэтага тыпа.

**4.**

Згорблены, грэбаючы нагамі па зямлі, апынаюся сярод двухпавярховых катэджаў. Неўзабаве знаходжу патрэбны мне нумар дома. Як даведаўся, хто гэты чалавек і дзе ён жыве, я ніяк не змог сабе вытлумачыць (мабыць, ён і раней існаваў ва мне, я толькі сябе ашукваў!).

На мой званок на другім паверсе адчыняецца акно, у ім з'яўляецца галава маладога мужчыны. Твар яго выцягваецца ад здзіўлення і нечаканасці.

Ага, браток, дык гэта ты?!

Выходзіць, даволі часта бачу яго на вуліцах нашага гарадка і ведаю — працуе ў «Інтурысце». Гледзячы на яго стат-ную фігуру спартсмена, бывала, я не раз любаваўся ім і нават па-мужчынску зайздросціў яго маладосці, здароўю ды элегант-насці. I вось чым усё гэта скончылася...

— Вы да каго? — няўпэўнена і штучна пытаецца чалавек ды адводзіць вочы.

— Да вас.

— Да мяне-е?! — відочна напалоханы, разыгрывае ўжо здзіўленне.

— Да вас, да вас! Напэўпа — да вас, не сумнявайцеся! — кажу рашуча.

— Хвілінку...

З прыкметнай паспешлівасцю ён зводзіць палавіны акна, зашчапляе іх ды некуды знікае.

«Збаяўся, нябось! Ах, паскуда!.. Пачакай жа, зараз за цябе вазьмуся!..»

Праходзіць значна больш часу, чым трэба, каб апусціцца з другога паверха на першы, покуль ён адчыняе ўнізе дзверы і з'яўляецца перада мной ва ўсім сваім выглядзе. Відаць, нікога ў жыцці я не разглядаў гэтак уважліва. Чым ты спадабаўся таму, хто мне быў так дарагі? Чым ты лепшы за мяне? Чым ты пера-мог? Які ты наогул? Якое свінства мне яшчэ ад цябе чакаць?

На амерыканскі манер коратка пастрыжаны вожык робіць яго маладзенькім, ледзь не хлопчыкам. Гладкі, не высокі і не нізкі лоб. Пад маскай здзіўлення на белым маладым твары — разгубленасць. Насцярожаныя шэрыя вочы.

На твары больш няма на што глядзець, аглядаю вопратку.

Крухмаленая белая кашуля з цёмным гальштукам. Чорныя вузкія нагавіцы з выразным кантам. Бліскучыя, вастраносыя туфлі. Падобныя прыгажунчыкі бываюць часта ў часопісах мод, адно гэты, бадай, больш прывабны і элегантны.

«І ўсё ж такі гэткіх, як ты, браток, цяпер шмат!» — адзначаю сабе.

Выгляд чалавека часта яшчэ нічога не гаворыць аб ім самім — у гэтым я пераканаўся даўно. Таго, што бачу,

мабыць, надта мала, каб знайсці адказ на свае пытанні, каб скласці поўную думку аб маім саперніку.

— Заходзьце, калі ласка...— з той жа разгубленасцю кажа гаспадар паспешліва ды адступае ўбок.

— Дзякуй!..— кажу, адчуваючы ўсю смешнасць нашай галантнасці. Аднак я нізашто не адмовіўся б ад вонкавай стрыманасці ды шаблоннай формы ветлівасці — покуль што ў ёй мой ратунак.

Узнімаемся па лесвіцы: гаспадар наперадзе, я — за ім. З бакоў на паліцах стаяць нейкія бутэлькі, слоікі, скрыначкі і скрынкі. Надараюцца ідэальныя ўмовы адпомсціць свайму мучыцелю,— стукні з усяго маху унь гэтай бутэлькай ад шампанскага ў патыліцу, каб ён скаціўся па сходках!.. Аднак не хапаю ні бутэльку, ні што іншае, што трапіла б у рукі. Не дазваляе гэтага зрабіць, мабыць, тая самая прычына, што калісьці на дуэлях не дазваляла пэўнай катэгорыі людзей выкарыстаць момант ды піхнуць шпагу пад рабрыну праціўніку, калі той знячэўку паварочваўся спіной ці спатыкаўся. Ды завя-лікае гора ў мяне, каб біцца мне тут з гэтым франтам.

І яшчэ.

Іра дагэтуль была мне вяршыняй прыгажосці і жаночага абаяння. Калі ж ёй стаў блізкім гэты чалавек, нейкім чынам мая сімпатыя перайшла і на яго. Глупствам здаліся мне самалюб-ства, абурэнне і злосць у параўнанні з фактам — яна ж яго кахае, я чытаў пра гэта ў яе пісьме! Адчуваю сябе ўжо як бы непаўнацэнным абармотам. Не хапае ўжо не адвагі, а — рашу-часці. Здаецца, не маю маральнага права лезці з ботамі ў нешта тонкае і далікатнае, што няўлоўна цяпер існуе паміж гэтым, са стрыжанай галавой, ды Ірай.

Уваходзім нарэшце ў пакой. Стараючыся не спатыкацца са мной вачыма, гаспадар прапануе:

— Сядайце...

Сядаю пад сцяну і разглядваюся.

Прасторная двухпакаёвая кватэра заможнага халасцяка. Каляровы тэлевізар, а на ім — транзістарны прыёмнік. Вялікая бібліятэка ўздоўж сцен. Пад шафай з кніжкамі — гантэлі. Пят-наццацікілаграмовыя, у тры разы большыя за мае! — адзначаю не без зайздрасці ды лаўлю сябе на тым, што ўсё яшчэ шукаю нешта такое, каб мой сапернік выглядаў хлюпікам, пачварай, мярзотнікам і монстрам. Покуль што бачу толькі беспарадак у кватэры, але не большы за той, які бываў у мяне, калі я, студэнт, жыў у інтэрнаце.

Каб авалодаць сабой, гаспадар гэтым часам, не падніма-ючы галавы, нібы прыбірае ў пакоі. З канапы, з крэслаў хапае рознакаляровыя часопісы з загалоўкамі, надрукаванымі лацін-скім шрыфтам, з фатаграфіямі на ўсю вокладку ладных жанчын у купальніках ды шпурляе на этажэрку. Адтуль —перакладвае на журнальны столік, сովае на кніжныя паліцы, а фатаграфіі з амаль голымі дзяўчатамі стараецца прыкрыць ад мяне.

«Ну-ну, прыбірай, прыбірай! Колькі ты будзеш так прыбіраць!,. Усё роўна не выкруцішся — ад размовы нікуды не дзенешся!..»

Нечакана мяне апякае здагадка:

«І яна тут бывала?!. Напэўна! Спатыкаючыся, яны тут гаварылі і пра мяне?! Што-о?..»

Раптам адчуваю сябе чалавекам, які адышоў ад кампаніі, але спахапляецца, што ў яго моцна парваны ззаду нагавіцы, а праз дзіравыя шкарпэткі бліскаюць пяткі. Аднак я ўпершыню зайшоў да саперніка і мушу адагнаць пабочныя думкі ды браць ініцыятыву ў свае рукі.

— Ну, то што будзем цяпер рабіць? — стрымана кладу рукі на стол.

— Аб чым вы? — дзівіцца ён з фальшывай нявіннасцю

ды ўзнімае галаву.

— Я вам не дурань, не разыгрывайце!

На маім баку закон, прынцыпы маралі, якімі звычайна кіруецца грамадства. Гэта я разумею, адчуваю і выкарыстоў-ваю са зларадннай прыемнасцю. Сваю правату выказваю ўпэўненым тонам голасу, позіркам, якога не адводжу ад гаспадара, і нават тым, як сяджу за сталом, як гляджу.

— Так і будзем маўчаць?

— Гаварыце, слухаю...

— Вам няма чаго, вы — цаца?!

— Дакажыце, калі маеце што!— пацікае незалежна плячыма.

Фраза мяне непрыемна коле і расчароўвае. Я нават лепш прыглядаюся: ці не здалося мне? Не, не здалося. Ён нават яшчэ раз нібы спакойна пацікае плячыма.

— О-го, ты ба-ачыш?! — вырываецца ў мяне мімаволі.

— Што «о-го»? А вы дакажыце фактамі! — паўтарае зноў.

Гэта справу мяняла. Ён зараз напомніў мне клішэ фатагра-фіі, якое акунулі ў праявіцель, і вось вырысаваліся на ім контуры, твар, а за тым і ўсё астатняе, што вызначае чалавека.

Я не раз чуў у міліцыі, як злоўлены злачынца кідаў: «Што-о, па-вашаму, я — укра-аў? А дзе вашы доказы? Вы мяне злавілі за руку? Спачатку за руку злавіце, тады будзем і гаварыць, бо інакш — я вам пакажу!..» І не раз бачыў, як розныя махінатары за фармальныя кручкі таксама стараліся схаваць свае брудныя справы.

Становіцца як бы радасна, што мой сапернік паказаў сапраўдны твар, ужыўшы менавіта добравядомую мне методу. І хоць ён цяпер сеў на канапу гэтак, каб быць

вышэй мяне, і як бы чакаў, калі нязваны госць сабе пойдзе, але ў гэтым доме фактычным гаспадаром адчуваю сябе ўжо я і не адводжу ад яго вачэй.

Вырашаю не траціць часу.

— Мне — пра ўсё вядома. Яна пісала вам ліст, ён выпадкова трапіў мне на вочы. Вось вам і ўсе «доказы».

— Та-ак? — кажа разгублена.

— «Та-ак»!—дражню.— Таму і прыйшоў да вас, каб выра-шыць, што нам цяпер рабіць!

Хлапец неспакойна варушыцца па канапе.

— Ірына Іванаўна сапраўды такі чалавек, які выклікае пашану...— пачынае і моўкне.

Тое, што называе яе па імені і па бацьку, у мяне родзіць якуюсьці надзею. Мо перабольшваю? Мо адносіны ў іх не былі аж такімі блізкімі? Ну, пахадзіла, паўздыхала па ім!.. Мо ён да яе адносіцца проста як да настаўніцы? Любоўнікі ж называюць адно аднаго па імені!

— Толькі цяпер вы гэта бачыце? — крычу ўжо больш упэў-нена ды спакойна.

Па ўзросту, па сваёй ролі ў данай сітуацыі я магу звяртацца да яго на «ты», але не раблю гэтага, каб не збівацца на фамільярнасць. Адно слова «вы» вымаўляю як — «ты».

— Чаму не паважалі яе ў той час, калі пачыналі ўсю гэтую забаву?!

У мяне затаілася раптам надзея, мне вельмі ўжо хочацца, я надта спадзяюся, што ён вось зараз скажа — нічога ў іх там і не было. Аднак гэтага не здараецца. Вочы яго злосна бліскаюць, а наўме — я выразна бачу — нараджаецца штосьці крыўднае. Найхутчэй за ўсё, набраўшыся рашучасці, ён хоча паслаць мяне к чортавай мацеры, але ў апошнюю секунду стрымліваецца і толькі адводзіць злыя вочы ўбок.

Выходзіць, у іх усё было, і няма чаго мне сябе ашукваць. Было, і гэтага ўжо не вернеш. Хвіліну маўчым.

Адчуваю толькі цяпер усю няроўнасць нашага становішча. Яму — што? Усё гэта — гульня, забава, спорт, флірт, здаваль-ненне фізіялагічных жаданняў. З трывогай успамінаю сваю маладосць нават: ці не выкідваў і я такія конікі гадоў з дваццаць таму назад?! Не, такога, здаецца, не было.

Перад вачыма паўстаюць Віця, Марынка, Валодзя...

— Вы думалі, што ў яе дзеці, і яны...— тут не хапае мне цвёрдасці ў голасе, словы расталі, і я хвіліну маўчу. Паставіўшы голас, набіраю паветра ды канчаю думку: — Вы гатовы замяніць ім мяне?

— Калі трэба, магу іх забраць, стварыць умовы, быць ім бацькам! — кажа.

— А вы здольныя на гэта? — пытаю.

— Калі трэба, то-о... А чаму не?.. Хіба я...

З кім гавару пра так дарагія справы? Перада мной — не той чалавек. Робіцца надта сумна, агортвае роспач:

«Бо-ожа, менавіта табой якімсьці невытлумачальным чынам Іра зняволеная?! Што за недарэчнасць?!»

Забываюся на хвіліну, дзе знаходжуся. Сам да сябе кажу:

— Мая мара, мара маіх пакаленняў, мара майго роду— дзеці! Што з імі зрабілі?! Што з імі будзе?! Што іх чакае?! Што мне з вамі рабіць?!

І тут зноў спахопліваюся — я ж у зусім чужым доме, а ўсё, што кажу, не датычыць франта, які, мажліва, калекцыяніруе і маладзіц, як фота гэтых голых кінаактрыс, а зараз вось насцярожана ды вінавата сочыць за мной і думае — як выкруціцца. Эх, каб можна было сказаць яму пра тое, што пра яго думаю. Упадзе ў амбіцыю, дойдзе паміж намі да бойкі, я нічога не

даведаюся, не высветлю, не вырашу справы, з-за якой прыйшоў. Але тут раптам ён для мяне перастае існаваць. І не толькі ён. Забываюся пра ўсё на свеце — трачу адчуванне рэчаіснасці.

Перад вачыма мільгаюць дні, праведзеныя з Ірай,— нейкія фрагменты з нашага жыцця. Успамінаю час, калі яе раўнаваў да нейкага капітана ды ўзнімаў producedават сваркі. Цяжка ўздыхаю. Не разумеючы нават таго, што гавару ўслых, бытта жонка стаяла перада мной, папракаю яе:

— Эх, Іра, Іра, зноў ты ўблытала мяне ў гісторыю — дзякуй табе!

— А?! — надта радуецца гаспадар.— Дык гэта ў яе ўжо не першы раз?

Бытта прачынаюся ды гляджу на субяседніка. У яго з твару яшчэ не счэзла радасць, што яму нарэшце надарылася доўгачаканая магчымасць спіхнуць з сябе віну.

Ага, нягоднік, раскрыўся зноў!

— Супакойцеся. За ўвесь час пашага жыцця з ёю такое здарылася толькі адзін раз. Вы — першы, хто авалодаў ёю пры жывым мужу. Можаце ганарыцца і запісаць сабе ў актыў. Адзін — нуль, на вашу карысць.

Ен зноў замыкаецца.

— Ну, што мы будзем цяпер рабіць? — кажу ўжо без пераканання.

У мяне расце і расце сумненне. Перада мной раптам паўстае ўся абсурднасць майго прыходу. Чаго, урэшце, ад яго хачу? Чаго прыстаю да гэтага вольнага казака? Чаго дабіваюся? Што ён мне за дарадца?! Калода, камень, які выпадкова трапіў мне пад ногі на дарозе, ды нарабіў бяды. Што ў гэтага шмэндрыка пытацца?

Тым часам маё пытанне гаспадара ўсё ж кранае. Ён уздыхае, а твар яго ўпершыню робіцца такім шчырым

ды заклапочаным.

— Сам не ведаю, што рабіць,— уздыхае.— Калі Ірына Іванаўна была яшчэ ў раддоме, я марыў пралезці туды ды выкрасці сына...

Выходзіць, і сын не мой?! І ўсе гэтыя пялюшкі, бурбалкі, кугаканне — прызначаны не мне?!. Бо-ожа, пра гэта я і не падумаў.

Апошнія, суровыя ў сваёй шчырасці, словы саперніка ледзь мяне не забілі. Такое ўражанне, як бы мяне хто ўдарыў абухам па галаве і парушыў здольнасць адчування гравітацыі: зноў сцены перада мной захісталіся, зноў — як бы расступілася зямля, а мяне агарнуў жах свабоднага падзення, і на хвіліну я нібы трачу прытомнасць.

— ...Але справа не выйшла. Не здолеў арганізаваць... А мо пабаяўся скандалу? Сам не ведаю!..

Ён яшчэ нешта гаворыць, бытта вучань, які пабіў шыбу і ахвотна цяпер яе ўставіў бы, толькі гэта не ў яго сілах. Зноў бачу ўсю смешнасць свайго намеру пагаварыць з ім, як мужчына з мужчыпам, пра тое, як нам цяпер быць. Бачу, як памыляўся, ад гэтага мне яшчэ цяжэй, а перад вачыма — бездапаможны кірпаты тварык сіраты. Мо першы раз так выразна адчуваю да малога шчырую бацькоўскую спагаду.

**5.**

Увесь горад здаецца суцэльнай маной, крывадушшам. Людзі ходзяць. Смяюцца. Ездзяць. Сядзяць ля тэлевізараў. Размаўляюць па тэлефоне. Апавядаюць адзін аднаму байкі. Кладуцца спаць. І не адчуваюць фальшу, маскі? Як яны так могуць?! Плятуся далей ад дамоў.

Над рэчкай у цемры — парачка закаханых. Да хлапца і дзяўчыны абуджаецца, бадай, варожасць, і нават з

нейкай злараднасцю кажу ў душы.

«Радуйцеся, радуйцеся, смейцеся, смейцеся — усё гэта мана, рана ці позна адзін з вас прадасць другога!.. Нічога, неўзабаве ў вас абаіх павыпадаюць зубы, зморшчыцца цела, цьмянымі паробяцца вочы, і вы самі сабе пастанеце агіднымі!.. Бачыш, як буркуюць, колькі цялячага захаплення, якія мела-дычныя галаскі — бы ў анёлаў!..»

Паварочваю ад рэчкі і шукаю самотнага месца.

Мабыць, ніколі ў жыцці мне не было так маркотна і непрыемна. Не хочацца жыць. Усё агіднае. У мяне наступіла хвіліна, якую псіхолагі называюць момантам «звужанай свядомасці», калі гэтая самая свядомасць адступае на задні план. Ужо здаецца, а неўзабаве я цалкам перакананы, што нежаданне жыць вынікае не з раптоўнай роспачы, гора, злосці, крыўды і адчаю; яно — абгрунтаванае, выходзіць з цвёрдай не-абходнасці.

Калі перадаць словамі мае пачуцці і вобразы, якія мрояцца ва мне, то ўсё выглядае прыблізна так.

Хоць навокал зорная вераснёўская ноч — неабмежаваны працяг Сусвету, але яе глыбокая цішыня ўражвае яшчэ больш, чым гарматны грукат. Сярод нейкага енку, выцця і скрыгату ў гэтым бязмежным акіяне Сусвету недзе са сваёй бядой і я — пылінка, выпадковае спалучэнне дробных часцінак матэрыі — атамаў, малекул... І вось гэтую пылінку кранула няшчасце, ды такое, што, каб забыцца на яго, трэба хіба нарадзіцца нанова. Але гэтага самага спалучэння мільярдаў атамаў і малекул другі раз практычна быць не магло, і выходзіць — зноў мне не нара-дзіцца. Ды і ці хачу нараджацца яшчэ раз, для чаго, на новыя мучэнні?

Няма сілы вытрываць гэты навакольны енк, няма спосабу вызваліць сябе ад няшчасця. Тады навошта жыць, навошта цярпець, у імя чаго пераносіць аж такія мучэнні? Усё роўна жыццё — міг у Сусвеце. Дзеля чаго трэба было мучыць сваю маці, цярпець некалькі

дзесяткаў гадоў самому, ухіляцца ў вайну ад куляў і бомбаў, даваць сябе хірургам рэзаць, сшываць. ды лячыць? Дзеля чаго потым у мірны час трэба было зноў перажываць, да чагосьці імкнуцца, самасцвярджаць сябе, удасканальвацца? Крыху раней, крыху пазней, а ўсё так і скончыцца,ператворыцца ў тлен і пыл, пойдзе ў небыццё.

Што мае сямейныя турботы, што мае творы — брашуры, кніжкі, артыкулы, што дзеці, грошы, знаёмствы, калі рана ці позна знікнуць і яны, а потым знікнуць нават сляды пасля іх. Але пры чым тут я? Хопіць бессэнсоўнай барацьбы. Трэба скончыць з гэтым, трэба мне, смяротна стомленаму чалавеку, выцягнуць збалелыя косці на ўлонні Сусвету, зліцца з прыро-дай, стаць часцінай яе, пабыўшы крыху ў шчасці і ў горычы свядомага існавання,— я прагну касмічнага спакою.

І раптам ратунак бачу ў смерці. Яе адчуваю ўжо ўсёй душой, яна здаецца не толькі не страшпай — жаданай. Мяне ўсяго ўжо цягне да вады гэтаксама, як, мабыць, змардаванага гарачынёй чалавека ў пустыні цягне ўтапіць засмяглыя вусны ў збавіцельнай вадкасці даўно чаканай крыніцы.

Робіцца нават весялей.

Трэба было павярнуць да рэчкі, аднак гэтага не раблю. Смешна, але факт — на нейкі міг падумаў, што цяпер ужо надта халодная вада. Нават усёй скурай адчуў яе холад. А яшчэ раптам здалося, што да смерці нечым не падрыхтаваны.

**6.**

Дзе лазіў ноччу і што са мной адбывалася, потым не мог ўспомніць. Здагадаўся, што ўвесь час правёў на нагах, бо — адзеравянелі, і я цалкам выбіўся з сілы.

Не небяспека чалавека прыбівае, а — крыўда, адчуванне бяссілля ды страта веры.

Мной валодаюць жудасная самотнасць і вострае адчуванне таго, што я пакінуты, ашуканы і аганьбаваны.

Ужо віднела, калі я апынаюся за горадам.

Перада мной — шаша, механічна накіроўваюся на асфальт. Трапляюцца лужыны, але не знаходжу патрэбным іх абмінань — па лыткі ногі залазяць у ваду, і ўжо не магу сказаць, халодная яна ці цёплая. Далей трапляецца цэментовы слупок, бачу яго здалёк, але гэтаксама не абмінаю і ўдараюся каленам з усяе сілы.

Яшчэ звечара такі боль прымусіў бы мяне пасыкаць, патрымацца за калена, цяпер жа нават не звяртаю ўвагі. Такое ўражанне, бытта ўдарыўся хто іншы, адчуванне ад гэтага перадалося мне сінхронна, надта здалёк, са спазненнем ды невыразна, нібы па сапсутым праваднiку.

Пачынаецца рух машын, але не хочацца сыходзіць з асфальту. Мной кіруе дзіўная логіка.

«Раздушыць машына? — разважаю.— Ну і што? Складзі кавалачкі пакрышанага каменя, і ўсё роўна масы будзе столькі ж сама. Уцякаюць перад небяспекай істоты жывыя, што баяцца болю або маюць незакончаныя справы ці на нешта спадзяюцца. Што значыць боль адрэзаной нагі ў параўнанні з той, якую нясу ў душы?! І спраў у мяне тут незакончаных няма, як і — надзей!..»

— Ты што — глухі?!

Нехта мяне выштурхвае з-пад колаў магутнага самазвала. Збавіцелю нават не дзякую. Нават лянуюся яго разглядзець. За-памінаецца толькі сіплая лаянка ў мой адрас, цвёрдыя, як рычагі крана, рукі ды смурод гарэлай гумы ад пратэктара і гарачыня адпрацаваных газаў з матора. Цікава, звечара, калі хацеў памерці, яшчэ быў здольны адчуваць боль, холад вады. Цяпер рэж, шчыпай мяне — скура бытта мёртвая. Затое прытупела і прага паміраць—мне было ўсё роўна. Таму раўнадушна адношуся да свайго ўратавання, адно сам

сабе адзначаю: вось як лёгка і нечакана можна ўсё скончыць.

Выпадак з машынай мяне крыху бы цвярозіць. Спыняюся, пачынаю азірацца, меркаваць, дзе я і што са мной адбываецца. Ага, мінуў дзень, прайшла і ноч, наступае раніца. Спаць не хочацца, толькі кружыцца галава, а калі глядзіш на сонца, то двояцца і трояцца яго чорныя дыскі. Такую з'яву ўжо назіраў у вайну, калі наш полк доўга не выходзіў з баёў і спаць не даводзілася некалькі сутак. Чорны дыск, здаецца, у падобнай сітуацыі ўспамінае і Шолахаў у «Ціхім Доне»...

Неахвота лазіць па полі, неахвота — ісці і ў горад, але апошняя неахвота — меншая, і я плятуся туды, яшчэ сам не ведаючы чаго.

У горадзе ўжо гаспадыні крочаць з сумкамі ў магазін. Плююцца, дакурваюць на аўтобусных прыпынках рабочыя ў спяцоўках. Вясковыя жанчыны на веласіпедах пруць бітоны з малаком. Машына з цыстэрнай палівае вуліцу... Дыханне горада, які паволі прачынаўся, па нейкай індукцыі перадаецца мне, і я адчуваю сябе крыху бы дужэйшым ды жвавейшым. Ва мне, як кажуць спартсмены, пачынае абуджацца другое дыхан-не. Вяртаецца і цікавасць да жыцця. Памалу аднаўляецца і здольнасць разважання над сваім лёсам.

## 7.

Хаджу па горадзе і думаю. Злосць і крыўда да Іры пераходзяць у адчужанасць.

Бачыў я на ўласныя вочы чалавека, з-за якога яна страціла галаву, і адразу зразумеў, чым усяго яна для яго была. З ёю здарылася няшчасце. На яе найшло асляпленне, як тады са «свежай рыбай». Але ёсць пэўная мяжа ў паводзінах мужа і жонкі, Іра яе парушыла. Каб і хацеў, не змог бы цяпер дараваць ёй здраду ды жыць разам, бо тады перастаў бы сябе

паважаць, як перасталі б паважаць мяне яна і дзеці. Не буду самім сабой, калі зраблю інакш, гэта ясна. І хоць сабе не ўяўляю, як пера-жыву разлуку з дзецьмі, з прывычным укладам жыцця, але, што мушу знайсці сілы ды пераадолець усё гэта, мне ясней яснага.

Трэба ўсё давесці да канца.

У імя тых дзён, якія мы разам перажылі, у імя дзяцей я павінен зрабіць цяпер развітанне па-мужчынску стрымана, разумна ды без істэрыі.

Каб хоць хапіла вытрымкі па гэта!

Мушу вытрываць, што зробіш, калі так здарылася.

Хачу я ці не, а дзецям заставацца пры Іры. Давядзецца неяк вытлумачыць ім усю складанасць маіх адносін да іхняй маці. Вытлумачыць цяпер абы-як, а вырастуць — мяне напэўна зразумеюць. Вядома, і не Іры з малымі трэба выязджаць з кватэры.

Чорт на яго, з'явяцца цяпер такія незвычайныя рэчы, як аліменты, падманванне сябе, што жывуць недзе сын і дачка, што я іх надта люблю...

Што зробіш, калі так выйшла. А як жывуць тыя бацькі, дзеці каторых загінулі ў катастрофе або пры іншым няшчасці? У мяне нават больш выгадная сітуацыя — змагу іх бачыць кожны раз, калі адно захачу. А то — буду высылаць ім пісьмы, падарункі... Ліха на яго, трэ будзе прыдумаць нейкае тлумачэнне?

У сваім становішчы нечакана бачу нават пэўную выгаду і нязведаную навізну. Як-ніяк, а сям'я адымала ў мяне пэўную колькасць часу і ўвагі, цяпер і гэта нё будзе перашкаджаць. Ото ж настане магчымасць тварыць! Дагэтуль проста браў вядомыя тэмы з вучэбніка псіхалогіі і пашыраў іх, як бы расшыфроўваў, але не ўдаваліся мне мастацкія творы. Цяпер не толькі кніжку пра Макарэвічаў — а і на сямейную тэму напішу. Тэма гэтая прайшла праз кожную маю клетачку, крывінку, праз кожны нерв і жыліну. Ды гэта не будзе калупанне

сваёй балячкі, калупанне мазаля. Дзень у дзень у газетах змяшчаюць аб'явы аб разводах, а за кожнай такой аб'явай — цэлая трагедыя, ненапісаны раман. Такую тэму хтосьці ж павінен тыпізаваць і ўзнімаць, дык чаму ж за яе не ўзяцца мне?

Пераўжыць бы толькі хутчэй удар, няхай хутчэй зажыве адно траўма.

Зрэшты, не памятаю выпадку, каб у мяне што-небудзь вартае атрымалася тады, калі справы ішлі выдатна. А бывалі дні, нават і тыдні, калі дома ляжалі немалыя грошы, адна за адной хвалілі мяне газеты, расхвальвала ў сваіх выступленнях начальства, а я не вылазіў з прэзідыумаў, і кожны дзень для мяне быў як бы святам, ну і што? У тыя дні не стварыў аніводнага каштоўнага абзаца. Мінаў такі перыяд, і я з жахам заўважаў, што развучыўся пісаць, і трэба было цягнуць з сябе жылы нанова. Выходзіць, якраз беднасць і гора з бядой нараджаюць што-небудзь вартае?! А мо — неабходнасць?..

Ад творчай перспектывы, што адкрывалася перада мной, акрыяў да таго, што пры сваім няшчасці пачынаю нават заўважаць прыгажосць раніцы.

**8.**

А горад усё ажыўляецца. Ужо пругка і бадзёра стукаюць па тратуары абуткам задаволеныя ды шчаслівыя групкі людзей. Іхняе шчасце здаецца такім зразумелым ды недасяжным, што з мяне вырываецца нейкі стогн. Каб не расплакацца, стараюся заглушыць у сабе боль і да ўсяго занадта пільна прыглядаюся.

Імчаць па мокрым асфальце машыны — едуць па начальства, каб даставіць яго на службу.

Ля прадуктовых магазінаў апаражняюць кузавы грузавікоў, канчаюць выносіць скрынкі, мяшкі, бітоны, пустыя бутэль-кі ад малака.

Замест плітак тратуара — ходнікі, учора вечарам залілі асфальтам, але не паспелі праехаць катком, і ён яшчэ аж фіялетавы, наздраваты, не адшліфаваны пат дэшвамі.

У магазіне абутку з'явілася повая вітрына, неонавыя шыльды — не горшыя, як у Маскве і Ленінградзе.

Усё гэта разглядваю нібы пасля доўгай камандзіроўкі ці турмы.

У адзенні жанчын заўважаю нешта новае, чаго не было ў мінулым годзе ў гэтую пару, не было нават і месяц таму назад. Ага, валасы над лобам яны цяпер абвязваюць істужкай!.. А мо яны даўно гэтак ходзяць, толькі цяпер я гэта ўбачыў?! Наогул жанчыны — цікавы народ. Заўсёды нешта прыдумаюць — то па-асабліваму завязваць касынку, то доўгія сукенкі, то кароткія, то з насамі туфлі, то без насоў... і, глядзіш, ужо веся-лей на вуліцы. А з'явіцца новы фасон панчох, яго адразу падхопліваюць ад Нью-Йорка да нашага мястэчка: і работніцы, і мільянершы, і нянькі, і лётчыцы. Гм, вывучыць усю механіку такіх з'яў, падумаць, чаму для іх не існуе граніц ні геаграфіч-ных, ні сацыялыіых, ні класавых, даць абгрунтаванне біялагіч-нае, псіхалагічнае і — новая праца на тэму: «Чалавек— частка агульначалавечага цела». Пра гэта можна здорава напісаць, тэма, здаецца, нікім не кранутая!

Зрэшты, што я заладзіў, ці ж пра гэта цяпер думаць?!

Кірую ў парк.

На возерку нашыя гарадскія ўлады нарэшце завялі лебедзяў. Некалі сам падаваў такую ідэю, пісаў артыкул у сваю газету, яшчэ не вельмі і верыў, што будзе з гэтага карысць. Цяпер дзве каралеўскія птушкі, як прывіды, сунуцца па люстры вады, какетліва выгінаюць шыі, а людзі праходзяць па беразе і ўжо нават не дзівяцца з прыгажунь, але напэўна кожны іх адчувае. Чорт на яго, адзін я не меў часу дагэтуль прыгле-дзецца да ідыліі, да стварэння якой сам далучыўся.

Аднак калі сказаць па праўдзе, то ўсё навакольнае для мяне — не так сабе, не малюначкі.

Скрозь тое, што бачу і чую, свядомасць маю раз-пораз прашывае жудасная ісціна: у мяне няма сям'і, няма дома! Гэтак, мабыць, успамінаюць сваё няшчасце асуджаныя на смерць. Дзесьці пасля сну ў такога арыштанта цела напаўня-ецца сілай, ён з прыемнай стомай нават пацягнецца, яшчэ і хрусне суставамі. Гляне небарака праз акно, а там — водбліскі сонца на мокрых лістах ліпы, два галубы на падаконніку. І скрозь прыемную стому ў мускулах, скрозь гэтыя вобразы радаснай раніцы раптам яго коле жудасны холад ад думкі: вось зараз, з хвіліны на хвіліну, прыйдзе канвой, вывалача з камеры, прывяжа да слупа пад мурам, ускінуць вінтоўкі, і няма, няма табе ўжо ратунку, аніхто цябе і ніштo не ўратуе!..

Магчыма, які-небудзь мужчына са страшнай хваробай стаяў тут вось у парку, гэтаксама глядзеў на лебедзяў, і гэтаксама яго тачыў чарвяк...

Добрыя параўнанні!

Ат, запішу іх, і што? Што гэта зменіць, што мяне ўратуе?.. Чорт з імі, з параўнаннямі, гіне і не такое.

Зрэшты, чаго вешаю нос, завошта сябе так лаю?! Я ж тут вінаваты найменш. Мяне ашукалі, я — ахвяра даверлівасці. Ішлі дні, месяцы, гады, а я ўсё не бачыў свету, не меў адпачынку і не ведаў ніякіх гульняў. З-за работы нават не меў калі і пахварэць, як іншыя людзі. Зрэшты, гэта была не праца ў звычайным сэнсе, а нейкі бег у хуткім тэмпе. Я дасягнуў таго, чаго марац дасягнуць,— ап'янення, і знайшоў у гэтым шчасце. А ці знайшоў?

Напэўна знайшоў.

Ды нават і ў гэтым павінна быць мера: я ж меў хатнія абавязкі, звязаны быў з жонкай, сям'ёй. Але ж ці была мая праца і для Іры тым самым? Калі мяне акрыляла творчасць і ад захаплення я не бачыў і свету, ці была

яна акрыленай, ці было добра ёй? Не магу сабе даравацъ дубяной жорсткасці, з якой, кахаючы жонку, я не то баяўся, не то лічыў заганным адклікац-ца на яе радасць ды падтрымаць у гэтым.

«Косця, пахвалі мяне, хоць за што-небудзь!..»

У гэтым я бачыў капрыз і адштурхоўваў яе. Бо ў мяне, мабыць, і праўда няма «слыху» на стан душы людзей, як не бывае ў іншых — да музыкі ці паэзіі.

Як толькі мы пажаніліся, перад Новым годам Іра прынесла дамоў вазачку з крышталю і вінавата ды сарамліва папрасіла:

— Косця, падары мне яе на Новы год!

Я нават аслупянеў ад здзіўлення. У сям'і, у якой я вырас, ніколі нічога нікому ніхто не дарыў. І цяпер з майго пункту гледжання гэта была непатрэбная трата грошай, распуста, глупства, капрыз мяшчанкі, пра які хоць ты нікому не гавары. З літасцівым здзіўленнем яе папракнуў:

— Няўжо ты такая маленькая?!

— А-ай, не хачу думаць пра тое, якая я, а ты ўсё роўна мне падары! — ужо настойліва заявіла яна, і давялося здацца.

Якое ў чалавека павінна быць адчуванне самотнасці, як яму павінна быць адзінока, каб гэткім чынам рабіць сабе прыемна?! Я ж, дубіна, выпадак скарыстаў, каб некалькі год упікаць жонку ды тлумачыць, чаму ў нас заўсёды не хапае грошай.

Нарадзілася Марынка. Аднойчы малая забрудзіла ножку. Іра магла працягнуць руку да вады і спаласнуць, але жонка макнула ватку ў адэкалон і сцерла пляму. І ў гэтым я не ўбачыў гульні, фантазіі маці, якая дзіця бачыць нават са стужкай, што яшчэ купіць, са шкарпэткамі, якія яшчэ малому звяжа, са шклянкай малака, якую малое яшчэ толькі мела выпіць. Ва мне загаварыла практычнасць мужыка. На жонку надта

абурыўся ды накрычаў, бы ў казарме ротны старшына на свайго салдата, калі хлапец перад звальненнем у горад краем коўдры пачысціць боты. Гэты факт я доўга прыпамінаў і не раз выкарыстоўваў, калі не было ў нас грошай.

А ўся гісторыя «са свежай рыбай»? Як я тады аднёсся да здарэння? Выпадак той якраз і быў прэлюдыяй да ўсяго, што здарылася пасля.

**9.**

Ці ж толькі з жонкай я сябе так паводзіў? Ці ж не абыходзіўся дакладна гэтаксама і са сваёй маці, а потым і таварышамі? Усіх блізкіх гатовы быў зрабіць слугамі сваіх жаданняў і выдумак.

Зрэшты, ці я адзін такі? Мала вучоных, вынаходнікаў, якія з-за сваіх ідэй, з-за захаплення працай гэтаксама не бачаць белага свету? Пачытай пра Талстога. У самыя дынамічныя моманты творчага ўздыму ён здаваўся найбольш манатонным, нудным і бурклівым маўчуном, аддаваўся ўвесь сваім творам. Для чаго існуе на свеце гэты парадокс?!

Скрозь дрэвы мільгае чорны лімузін. Ведаю яго. Шафёрам у ім — Сяргей, мой сусед па кватэры,— павёз на працу галаву раёна. Начальства паехала з дому надоўга. З'явіцца толькі ноч-чу, калі дома ўсе будуць спаць. Ва ўзнагароду за стомленасць сваёй палавіны, як кампенсацыю чуласці і ўвагі ён у абед прышле Сяргея з машынай, каб жонка з'ездзіла сабе на рынак, у паліклініку або да краўчыхі.

Нядаўна ўсіх людзей у горадзе ўразіла трагедыя. Яшчэ даволі малады мужчына і бацька траіх дзяцей, не п'яніца і не распуснік — паважаны ў вобласці чалавек, вярнуўся з работы дамоў, замкнуўся ў ваннай і павесіўся на трубе. Папаўзлі здагадкі, перашэпты. Ці не было і ў яго нешта падобнае? Ці з-за ап'янення

дзейнасцю не ўпусціў і ён нешта з асабістага жыц-ця, а потым гэтаксама спахапіўся, ды — позна?!

Палічы, колькі суды маюць работы з-за сямейных трагедый?!

Няўжо пры поўнай адданасці працы немагчыма пазбег-нуць таго, каб не быць адарваным ад сям'і, няўжо нельга па-водзіць сябе разумна, не крыўдзіць блізкіх? Гэта ж здаецца та-кое простае і лёгкае — няўжо трэба паўтараць памылкі бацькоў?

Старыя мае надта цяжка працавалі, але жылі не дружна. Бацька, бывала, прыязджаў з далёкай дарогі вельмі стомлены, злы, найчасцей адубянелы ад холаду ды галодны. І вось, напрыклад, натыкаўся на кухні ў паўзмроку на табурэтку, на якой маці крышыла капусту, ды не паспела паставіць на месца. Бяда не вялікая, здаецца, вазьмі табурэтку ды адстаў, твая жонка гэтаксама цэлы дзень правяла на нагах, і яна ж не ведала, што якраз у гэтую хвіліну будзеш ты праходзіць тут. Але бацька лічыў сябе ўжо абражаным ды бачыў у непарадку на кухні няўвагу да гаспадара дому, бо дарога для яго павінна быць выслана ходнікам і ўсе ў хаце павінны падпарадкаванымі быць і служыць яму. Бацька нагой шпурляў табурэтку на сцяну і нешта вострае кідаў маці. Той рабілася так крыўдна, што яна не магла сцярпець. І замест таго каб сваю стомленасць ды цяжкае жыццё супакоіць абаім у павазе і ў згодзе, яны за пару мінут так, бывала, перасварацца ды столькі нагаворацць адно другому глупстваў, што потым цэлы тыдзень не размаўляюць, покуль не развеецца гэтая ржа бруду.

Ці не выйшлі карэнні майго няшчасця і з гэтага фальшы-вага ўсведамлення, што я — мужчына, мне ўсё дазволена, усе астатнія дома павінны падпарадкавацца мне? Каб быў да Іры ўважлівы, то, відаць, гэтага не здарылася б.

Кажуць музыканты — тон робіць музыку. Мая дружба з Ірай была з самага пачатку пабудавана на некалькі тонаў вышэй, таму і не магло быць у нас ладу і шчасця,

бо ўсё гэта бывае пры супадзенні адносін і натуральнасці паводзін.

Выходзіць, я піхнуў яе на гэта? Тып з «Інтурыста» падставіў ёй той бок, якім адвярнуўся я? Не зусім так — ён на гэта запрымітыўны, я ж яго бачыў. Тады — што, Іра займалася самаашуканствам?

Пісаў пра тонкасці чалавечай псіхалогіі, аб эмоцыях, а самому, чорт на яго, менавіта гэтага і не хапала. Не хапіла якраз шляхетнасці душы, чуласці, бо ва мне — чэрствасць салдафона?..

Цяпер, калі завяду сям'ю, буду сябе паводзіць напэўна не гэтак. Покуль што трэба вяртацца дамоў і ставіць кропку, хоць рабіць гэта і непрыемна. Збяру неабходныя рэчы ў чамадан ды зараз жа выеду ў іншы горад. Нават ведаю — у які. У Гомелі мой франтавы сябра, пры яго сям'і лягчэй будзе перанесці пер-шыя месяцы выгнання. Разлік у рэдакцыі аформлю пасля, там усе свае людзі, дастаткова схадзіць у партыйныя органы і дамовіцца; заадно папярэджу — раскажу, што ў мяне здарылася, каб не было ім нечаканасці.

Толькі трэба яшчэ крыху пачакаць. Будзе непрыемна пакавацца і размаўляць з Ірай пры дзецях. Няхай Віця з Марынкай паспедаюць ды пабягуць на двор — у школу ім на другую змену, а маці іх навучыла рабіць дамашнія заданні пасля прыходу са школы. Халера, як буду жыць без іх?

Зноў думаю пра тое, што сямейная атмасфера, якая часамі мне здавалася цяжарам і перашкодай у працы,— якраз і давала энергію да яе. Анёльскай гэтай атмасферы не заўважаў дагэтуль, як не заўважаюць людзі паветра, калі дыхаюць, і спахапляюцца адно тады, калі яго не хапае.

## 10.

Дзеці ўстаюць позна, трэба валэндацца па горадзе яшчэ

пару гадзін.

Уперадзе мяне тата і мама вядуць карапуза. Абое, мабыць, былі ў адпачынку ці мо прыехалі ў госці і нікуды не спяшаліся: ходзяць сабе па горадзе і цешацца раніцай, свабодай. Свежае сонца свеціць ім у плечы, кладзе цень, усе трое па ім ідуць. Малы захапляецца, які тата вялікі. Чалавек прысядае, цені раўняюцца, хлопчык зноў дзівіцца. Бацька выпростваецца, і малы ўжо з захапленнем крычыць:

— О, які тата до-оўгі!..

У мяне ўжо гэтага не будзе?!

Адчуваю, як у горле хапае мяне скурч, а сам я вось-вось заплачу. Больш ні хвіліны не магу глядзець на чужое шчасце, таму кірую ў другі бок.

Вяртаюся з парку на тратуар, падключаюся да патоку людзей ды раблю выгляд, што і я такі самы, што і мне трэба некуды паспець.

Спераду аддзяляецца маладзіца з тугой чорнай касой. Такую касу мае толькі адзіны чалавек у нашым горадзе — Камілія, а мы з ёю разам канчалі інстытут. Прыбаўляю крок ды ўраз апынаюся побач.

— Кама, прывітанне!

— Гэта — ты-ы? — шчыра радуецца сяброўка, павярнуўшы да мяне распрамянёны твар шчаслівай дзяўчынкі, якой надта добра паводзіцца ў жыцці.

— Выходзіць, я.

— Няўжо — ты?! О-ей, першы раз убачыла цябе няголеным! Што здарылася, Косця?

Ведаю яе гадоў з пятнаццаць. Пад канец вайны Камілія перажыла трагедыю. Малалетнюю дачку памешчыка (ёй тады было пятнаццаць) згвалціў фашысцкі афіцэр. Пасля інстытута Камілія не змянілася ані крыху, і мо таму з ёю адчуваю сябе на паўтара дзесятка гадоў

маладзейшым, а ўсе мае звычкі пры ёй былі звычкамі бесклапотнага студэнта.

— Пачынаем, Камачка, апускацца, як бачыш...

— Ды нейкі пашарэлы ўвесь, памяты — бытта цябе каровы пажавалі!.. Што з табой, хлопча? — са шчырай спагадай уважліва мяне аглядвае яшчэ раз.— А сівы-сівы стаў, о-ей-я, як дзед!

Яе клапатлівасць разанула мяне па сэрцы. Чорт на яго, як ссумаваўся па жаночай ласцы і спагадзе!

— Што зробіш, гады...

— Косця, ты ж такі быў заўсёды элегантны, я цябе ўсім ставіла ў прыклад?! — не можа супакоіцца.

— Усё цячэ, усё мяняецца, а жывём мы, Камачка, па зако-нах дыялектыкі, як ведаеш...

— Я — сур'ёзна! Кажы!

— Ды і я не жартую. Затое ў цябе твар — нібы спелая антонаўка. Халера, і гады цябе не бяруць, віншую! — паціскаю малую і кругленькую ручку.

— Мо ты захварэў, мо што здарылася ў сям'і ці на рабоце? — спахопліваецца яна.

— Не, Кама, гэта часовае ў мяне, пройдзе! — запэўніваю сяброўку ды стараюся адцягнуць ад сябе ўвагу:— Такая самая чорная каса, чорныя бровы... Ха, толькі гэтых пікантных вусікаў не было, здаецца, раней! Але, ведаеш, як каму, а мне яны — па душы!

— Ай, што з тваіх кампліментаў! — без какецтва адхіляе пахвалу ды цяжка ўздыхае.— Мужчына няголены — фігура, а я ў трыццаць тры гады — нікому ўжо не патрэбная баба!

— Паплач, так і паверу!

— Бо праўда!

Стараюся заглушыць свой боль лішне шчырымі і сардэч-нымі пытаннямі, развітвацца не спяшаюся.

— Ладна. Лепш раскажы, як твае справы. Бачу цябе амаль кожны дзень, але ніколі не выпадае пагаварыць: «прывітанне» — я, «прывітанне» — ты, і ўсё. Кажы, як муж, як дзеці? І колькі іх у цябе, хваліся!

Камілія пазмрачнела.

— Не было ў мяне ніколі дзяцей, ты забыў, Косця. А цяпер няма ўжо і мужа.

— Жарту-еш?

— Развялася я.

— Хіба нядаўна?

— Якая розніца.

— І жывеш адна?

— Як той пень.

— Прабач, Камачка, не чуў...

— Нічога...

Калісьці да яе заляцаўся першы кавалер нашага інстытута — Ігар Каралёў, але яна яго адхіліла дзеля прышчастага і тупога замухрышкі з фізмата. Сваім учынкам тады дзяўчына ўсіх нас агарошыла, усе адразу сталі яе паважаць. Таму цяпер не хачу верыць сваім вушам, яе трагедыю прымаю, як сваю.

— Але ж чаму-у? Ты ж з-за гэтага самага Філімончыка свету не бачыла, нас не заўважала нікога! Каралёў, памятаю, інстытут з-за цябе перамяніў?!

— Бо Філімончыка кахала... Яшчэ я-ак...— уздыхае.— Ды — што, буян! Дурань! Усё не мог мне дараваць мінулага.

— Немца?!

— Вечна здзекаваўся, а чуць што — біўся. Ні жыцця не было, ні спакою. Вывеў аднойчы з цярпення, узяла кій ды праперла. А ён упаў у амбіцыю і не вярнуўся. Стаў трапляць у выцвярэзнік, а зараз, кажуць, лечыцца...

— Але ж і характар у цябе! Малайчына!

— Ты хваліш?

— Захапляюся!

— А я не лічу гэта геройствам, Косця. Вось калі б змагла цярпліва наладзіць усё ды ўзяць яго ў свае рукі!..

У чорных вачах маладзіцы з'яўляецца сум.

Мяне надта ўражвае трапнасць ды прастата такой, здаец-ца, банальнай на першы погляд фразы. Гэта ж яна гаварыла і пра мяне! А я, нягоднік, вышукваю яшчэ сабе апраўданні.

— І ты, выходзіць, жывеш без мужыка,— сцвярджаю — кажу абы-што.

— Не напамінай! Мужыкі — як зубы. Трэ іх цярпець, калі маеш. Бо калі няма — надта ж іх не хапае!.. О-ей, мне на работу! Прабач, Косця, спяшаюся!..

Развітваюся з сяброўкай ды зноў думаю — што рабіць? Пры такіх канфліктах у часы Пушкіна страляліся на дуэлях; я ж спатыкаўся са сваім сапернікам, і мне чамусьці біцца з ім не хацелася. Мо каб трапіў адразу пад гарачую руку...

У такіх выпадках героі раманаў знаходзілі выйсце ў смерці, а за мінулыя суткі была магчымасць не раз пакончыць з сабой, але я яе не выкарыстаў.

Час цяпер іншы ці ў мяне не хапіла характару? У гэтым выпадку ні з кім не параішся, не спытаеш, як сябе паводзіць, каб не нарабіць глупстваў.

Годзе, нічога не вернеш. Трэба адпраўляцца на

кватэру... на былую кватэру... ды дзейнічаць. Дзейчічаць асцярожна — дзеці ж.

**11.**

У сенях папярок дарогі валяюцца туфлі, пялюшкі, што пападалі з вяроўкі. Механічна нагінаюся, каб усё падняць ды пакласці на сваё месца, але ў час адумваюся, махаю рукой ды крочу туды, дзе знаходзіліся цяпер руіны маёй сям'і.

У першым пакоі Марынка няньчыць Валодзю, а Віця чытае. З жахам заўважаю, што мае дзеці пасталі мне бытта чужыя, непрыемныя. Сын адварочваецца ад кніжкі ды скорага-воркай выпальвае:

— Тата, мне трэба на заўтра шпулек і скрыначак ад запалак! І многа!

— Віця, змоўкні! — шыкае на яго сястра.

— А —што? Ніна Міхайлаўна загадала кожнаму прынесці на заўтра!

— Змоўкні, табе кажуць!

Няўжо яна здагадваецца пра што-небудзь? — варухнулася ва мне жаласць.

Нешта бурчу ды вінавата тупаю ў спальню.

Ложак мой не пасланы, як звычайна, не адхілены ў ім рог коўдры, не пакладзена мякка падушка, бо гэта было б крывадушшам, і Іра гэтага не зрабіла. Сама яна з апухлымі вачыма і ў вопратцы валяецца на другім ложку. Іра зіркае на мяне з трывожнай і затоенай надзеяй. Відаць па яе выгляду, што таксама не спала цэлую ноч. Успамінаецца выпадак, калі мой знаёмы перад развітаннем з былой сваёй жонкай, завесіў-шы вокны, замкнуўшы дзверы, добра яе адлупцаваў вяроўкай за нявернасць. І я павінен гэта рабіць? Гляджу

на бездапа-можнае і знаёмае да дробязей жаночае цела і ўздрыгваю. Чамусьці ў кожнай жанчыне заўсёды знаходжу рысы сваёй маці і толькі таму, што так нехта рабіў, не змагу падняць рукі на гэтага чалавека, хоць ён прычыніў мне столькі непрыемнасці.

На мяккім крэсле валяецца яе халат. Убачыўшы, што туды накіроўваю свае крокі, жонка з паспешлівай паслужлівасцю цягне халат да сябе, вызваляе мне месца. Яе праявы ўвагі да маёй персоны непрыемныя мне.

Яна ўздрыгвае, бытта хочучы ад нечага засланіцца, ды ўзіраецца насцярожана і перапалохана.

— Хачу пра ўсё дамовіцца без скандалу,— пачынаю, апускаючыся на крэсла.— Давай дамаўляцца спакойна, як дарослыя і культурныя людзі.

— Ой, сто...

У гэты момант з грукатам урываецца Віця, бяспечна крычыць:

— Мама, а мне трэба на ўрок працы пяць пустых скрыначак ад запалак і дзесяць шпулек ад нітак!

Вось для чаго яму спатрэбілася гэта. Яшчэ пазаўчора з такім пытаннем Іра адаслала б малога да мяпе. Цяпер жа стомлена кажа:

— Ладна, што-небудзь прыдумаю. А зараз бяжы на двор, пагуляй сабе на паветры!

Малы не адступае:

— Ніна Міхайлаўна сказала не прыходзіць у школу без скрыначак і шпулек!

Калі я вырашыў пакінуць іх, дык павінен не падмяняць маці, якой цяпер давядзецца гэткія справы вырашаць самой. Аднак не магу не супакоіць сына:

— Пойдзеш у школу так.

— Прынясем табе шпулькі туды!—дадае Іра.— Я прынясу.

— А скрыначкі? Што мне Ніне Міхайлаўне сказаць?

— І скрыначкі ў час перапынку атрымаеш.

— Добра.

— Ну то бяжы на двор!

— А-ай, ма-ам, я не хачу на двор! Можна яшчэ дома пачытаю? Мо-ожна, га?

— Чытай. Толькі ідзі сабе адгэтуль.

Віця знікае. На Ірыным твары лаўлю выраз удзячнасці, які, мабыць, з'явіўся б і ў чужой жанчыны, калі б ёй хтосьці выказаў дробную паслугу.

Хвіліну маўчым, не маючы адно да аднаго ніякай варожасці. Сяджу супроць былой сваёй жонкі, а паміж намі — няўлоўны бар'ер, які ўжо ніхто і ніштo не ў сілах зліквідаваць. Я перапоўнены жаласцю і смуткам да дзяцей, да ўсяго таго, што перажыў у сям'і, у гэтай кватэры, нават — да рэчаў, якімі напоўнены пакой. Толькі да яе не адчуваю і ценю літасці. Відаць па яе вачах — Іра разумее, што я вырашыў рабіць. Яна, мабыць, памірылася з лёсам і ад гэтага яшчэ больш пазмрач-нела, а апухлы яе твар ад перажыванняў зрабіўся непрыгожым і шэрым.

## 12.

Магу ўжо не гаварыць больш ні слова. Проста трэба збірацца ў дарогу, уцякаць з гэтага месца, дзе з мяне так наздзекаваліся, дзе мяне абдурылі, зганьбілі ды прынізілі — уцякаць ад сваіх дзяцей, ад ладу жыцця, да якога прызвы-чаіўся, а яно, выходзіць, было суцэльным ашуканствам. Аднак я не спяшаюся, адпачываю. Толькі цяпер адчуваю, як маё цела гудзе ад стомленасці. А

яшчэ мне хацелася... есці.

«Нічога,— супакойваю сябе,— паспедаю ў сталовай На вакзале».

Маўчанне наша доўжыцца. Толькі часамі дрыжаць сцены, калі праязджаюць па вуліцы грузавая машына ці аўтобус, ды ў суседнім пакоі Марынка няньчыць малога і спявае яму прыдуманую песню:

Іт із літл гуд бой,

Іт із літл май бой!

Іра цяжка ўздыхае, хапаецца за галаву:

— Столькі натварыла, столькі навычаўпляла, што не маю права ў цябе што-небудзь прасіць!..

— Добра, хоць усведамляеш!..

— ...І ўсё ж такі да цябе звяртаюся — выслухай мяне! Не хачу, каб ты пасля думаў, што я была звычайнай распусніцай. Табе раскажу ўсё, як на споведзі!

— А ці трэба? — са здзіўленнем паварочваю да яе галаву.— Што гэта дасць?

— Не, дасць! Ты для мяне быў і бацькам, і самым справяд-лівым чалавекам на свеце!

— О-го!..

— Сам ведаеш, гавару шчыра. Нікога я так не паважала і не паважаю! Паслухай і разваж! Ты ўсё мяне папракаў: «Ну і логіка, ну і логіка ў цябе!» Дык пакажы менавіта цяпер ты сваю логіку! Гавары шчыра, я чакаю.

Прымушаю сябе слухаць.

— Вось, напрыклад, наш адзін дзень. Дамовіліся пагуляць за горадам. Я крыху спазнілася — дзеці затрымалі. Усё арганізавала, распісала, што каму зрабіць і ў якую гадзіну ды ў колькі мінут, і нарэшце — адправілася. Ужо крочу па полі. Трава трэцца аб ногі,

птушкі шчабечуць, а яго — няма. Зрабілася страшна-страшна — а раптам яго ўжо ніколі і не будзе?! Так мне і трэба! — з забабонным жахам упікаю сябе за грахі, а ва мне ўсё сціскаецца ад ненапраўнай страты ды жалю. Паціху плятуся назад. Раптам бачу — бяжыць задыханы па раллі!

— Я шукаў цябе ўсюды, і мне здалося — болей цябе ўжо ніколі не ўбачу! Як падумаў пра гэта, то, павер, ледзь не памёр ад страху!

— Дзіва — дык і я падумала тое самае!

Болей нічога не гаворым. Узяліся за рукі ды моўчкі плывём праз поле. Адчуваю дзіўную гармонію пачуццяў і думак...

Так апавядае Іра.

Гэтым часам я сабе ўяўляю гэты малюнак і ледзьве стрымліваю абурэнне. Няўжо ты, чалавеча, не разумееш, што слухаць мне такое вельмі цяжка?! Гэтай «гармоніяй» ты адняла бацьку ў сваіх дзяцей, чаму ты такая бязлітасная? Адкуль мена-віта ў цябе гэта душэўная слепата, якой ты мяне дапякала?! Раскусіў я твайго «гарманіста» з першага разу. І ў цябе ж дзеці, дзе быў твой розум ды інстынкт мацярынства, калі пачынала ўсё гэта?! Чорт, мабыць, і праўда розум не існуе сам па сабе, ён заўсёды на службе — у кахання, у нянавісці, у карыслівасці, у палітычных пераконаннях чалавека?..

Я ўвесь кіпеў ад абурэння, аднак маўчаў.

— ...Нам не трэба было слоў, усё было і так зразумела. Мы паселі на мяжы і загаварылі шэптам, бытта баяліся, што нас падслухаюць травы, вецер. Ён расказаў аб сваім дзяцінстве, аб сваіх марах і прызнаўся, што яму надта хочацца зрабіць штосьці карыснае людзям, але покуль што так нічога зрабіць не ўдаецца. Я апісала сваё дзяцінства. Расказала і пра свайго бацьку — вялікага барацьбіта за шчасце людзей, які загінуў у змаганні за праўду. Бацьку, вядома, ад пачатку да канца вы-думала

— гаварыла пра такога чалавека, якім марыла бачыць свайго сына. Гаварыла ўсё гэта ды адчувала яго рукі. Пера-поўненыя духоўнай блізкасцю ды ўдзячнасцю адно да аднаго, мы і не заўважалі, калі наступала іншая блізкасць. Адчувала толькі захапленне і здзіўленне, што так бывае. Забывалася мінулае, забывалася сучаснае, забывалася ўсё на свеце...

Напаўняюся зноў хваляй адчаю.

— Косця, хіба ж гэта распуста? Ты ж вучоны, псіхолаг, зразумей, разваж па справядлівасці і не вельмі карай мяне! Хіба ж гэта не было нешта святое?! Гэта каханне.

Гляджу на яе з няцямлівым здзіўленнем.

— ...Гадзіны праходзілі — як мінуты. Трэба было вяртацца дамоў. Толькі тады пачынала ўсведамляць, што раблю. Ужо быт-та прачыналася, ды пачыналіся мукі сумлення і папрокі самой сабе. Рабілася адразу сама сабе агіднай, не вартай ні сваіх дзяцей, ні мужа, ні павагі вучняў. Не раз хацела кінуцца з моста ў рэчку... Ведаеш, аднаго разу ледзь гэтага не зрабіла нават. Падышла ўжо да поручняў, але, на шчасце, наблізіўся вартаўнік з вінтоўкай...

У пакой з кніжкай у руках зноў улятае ўвесь распра-мянёны Віця.

— Мамка, паслухай, як здорава напісана! — пачынае чытаць. «— Што-о? — спытаўся Міша Іваноў і павярнуў галаву да Валеркі Бочкіна. А Валерка якраз трымаў пэндзаль мокры з чырвонай фарбай, Міша так і ткнуўся носам у чырвоную фарбу!..» Ха-ха-ха-ха! — заліваецца смехам.

— Добра, сыночак.

— Мама, паслухай, а тут...

— Іншым разам, дурненькі, мне дачытаеш! А цяпер, сыночак, ідзі сабе і зноў чытай, але — там!

— Віця! — сурова кліча яго Марынка з другога пакоя і

дае таямнічыя знакі.

Чуллівых клопатаў сястры аб бацьках Віці, вядома, зноў не разумее. З выглядам пераможцы вылятае з пакоя, яшчэ раз стукнуўшы з усяе сілы дзвярыма.

— ...І скрозь такія прыемныя хвіліны, і скрозь самыя горкія ты заўсёды быў са мной, павер! — працягвае Іра. — Напрыклад, вымаю яго грэбень ці нож і са здзіўленнем адзна-чаю сабе, і нават як бы з радасным страхам адзначаю, што гэтыя рэчы ў яго ляжаць у тых самых кішэнях, у якіх носіш ты. Павер, нават сябе часамі ашуквала — гэта ты са мной, ты!..

Апошнія яе словы — бязлітасныя ў сваёй шчырасці — ледзь не дабіваюць канчаткова. Ужо не магу ўтрымаць сваю злосць ні хвіліны.

— Ой, каб можна было неяк усё вярнуць! — стогне Іра з болем.— Што я натварыла, што натварыла, Косця, што мне цяпер рабіць, як мне жы-ыць?! Хто мне што скажа?..

— Мяне не пыталася, калі ўсё гэта пачынала.

— Я цябе і не вінавачу, і разумею! Але ж пастарайся суці-шыць сваю злосць, мы ж з табой заўсёды былі сябрамі — без прытворства і карысці! Парай, прашу!

— Сама набрудзіла, сама і вылазь з усяго.

— Але ж я-ак? — расплакалася яна з роспаччу.— Навучы, Косця, дарагі сябра: як ты скажаш, як ты зробіш, як ты загадаеш зрабіць, так і будзе!

— Не ляжыць болей да цябе сэрца. Жыццё — не дзетдом, і я — не выхаваўца ў ім.

Аднак гэта была не зусім праўда. Мне каштавала шмат сілы яе адпіхнуць. Прынамсі, цяпер, у гэтую хвіліну.

Вось такая падаплёка трагічнага выпадку на чорнай

стужцы асфальту.

Між іншым, потым трапілі мне ў рукі і запіскі Вавілава. Я ўжо намерыўся ўвесці ў тканіну сумнай аповесці трэцяга апавядальніка — з яго пунктам гледжання. Але матэрыялы работніка «Інтурыста» патрабавалі значнай дапрацоўкі, а на гэта патрэбен быў адпаведны час. Мінаў год за годам, заняцца вавілаўскімі паперкамі я ўсё не мог ды паступова страціў да іх цікавасць. Так яны ў мяне і ляжаць некранутыя.




# Аляксей Карпюк

Нарадзіўся 14.04.1920 г. у вёсцы Страшава на Беласточчыне (цяпер Польшча) у сялянскай сям'і.

Скончыў два класы польскай гімназіі ў Вільні. У 1939-1941 гг. вучыўся ў Наваградскай педагагічнай навучальні. У гады нямецка-фашысцкай акупацыі ўваходзіў у склад падпольнай дыверсійнай групы. У час выканання дыверсіі на чыгунцы ў канцы 1942 г. быў арыштаваны і адпраўлены ў беластоцкую турму, а адтуль у канцлагер Штутгоф. Увосень 1943 г. уцёк з лагера і прыняў удзел у партызанскай барацьбе. У 1944 г. быў камандзірам партызанскага атрада імя К.Каліноўскага на Гарадзеншчыне. У 1944-1945 гг. служыў у Савецкай Арміі, удзельнічаў у баях на тэрыторыі Польшчы і Германіі. Двойчы паранены. Скончыў аддзяленне ангельскай мовы Гарадзенскага педагагічнага інстытута (1949). Працаваў загадчыкам Сапоцкінскага рана (1949-1951), дырэктарам Біскупцкай сямігадовай школы Ваўкавыскага раёна (1951-1953), у Гарадзенскім педінстытуце (1953-1955), у абласной газеце «Гродзенская праўда» (1955-1957), уласным карэспандэнтам газеты «Літаратура і мастацтва». У 1961 г. скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. З 1961 г. - загадчык агенцтва «Інтурыст» (Горадня), з 1965 г. - сакратар Гарадзенскага абласнога аддзялення СП БССР, з 1970

г. - упаўнаважаны УААП па вобласці, у 1977-1981 гг. - дырэктар Рэспубліканскага музея атэізму і гісторыі рэлігіі ў Горадні, з 1978 г. - зноў сакратар абласнога аддзялення СП БССР. Сябра СП СССР з 1953 г.

Узнагароджаны ордэнамі Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны I і II ступені, медалямі і залатым крыжам ордэна «Віртуці Мілітары» (Польшча).

Заслужаны работнік культуры БССР (1980).

Памёр 14.07.1992 г.

У друку дэбютаваў у 1953 г. аповесцю «У адным інстытуце». Выйшлі кнігі аповесцей і апавяданняў «Дзве сасны» (1958), «Данута» (1960), «Мая Гродзеншчына» (нарыс, 1960), «Пушчанская адысея» (1964), «Чаго мы варты» (бібліятэка газеты «Голас Радзімы», 1970), «След на зямлі: Скарбы і здабыткі маёй Гродзеншчыны» (1972), «Вершалінскі рай» (1974), «Ольга Корбут» (1977), «Свежая рыба» (1978), «Партрэт» (1983), «Сучасны канфлікт» (1985), «Дзве сястры» (казка, 1986), раман «Карані» (1988). Выйшлі Выбраныя творы ў 2 тамах у 1980 г. і 1990-1991 гг.

Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І.Мележа (1986) за кнігу «Сучасны канфлікт».

Падрыхтаванае на падставе: Аляксей Карпюк, Сучасны канфлікт. Аповесць, Франтавы дзённік, Не зусім гродзенскія гісторыі, — Мінск: Мастацкая літаратура, 1985. — 317 с.

У цэнтры аповесці, якая дала назву ўсёй кнізе,— сям'я інтэлігентаў. Ён — вучоны, яна — настаўніца. У мужа і жонкі дастатак, дабрабыт, разумныя, дагледжаныя дзеці. Але нешта адбылося, недзе парушылася гармонія ва ўзаемаадносінах, і гэта прыводзіць да непапраўнай сямейнай драмы. У другой частцы кнігі — ваенны дзённік пісьменніка, апавяданні, эсэ, замалёўкі, успаміны пра людзей, якія пакінулі ў яго сэрцы незабыўны след.

**Copyright © 2013 by Kamunikat.org - ePub**